# Змест

## ПЕРАКЛАДЫ



## КРЫТЫКА ПУБЛІЦЫСТЫКА ЭСЭ

# ВЕРАСЕНЬ
# ПАЭЗІЯ

лізавета дзеручэнка  насця падрабінкіна
алена быкава  крысціна башарымава
кацярына массэ  крысціна баранава
надзея філон  таццяна крэнь
людміла шчэрба  святлана куль
тамара аўсяннікава  васіль зуёнак



# Лізавета Дзеручэнка

паэтка. Вучаніца 11 класа ліцэя № 3 горада Магілёва. Сябра літаратурнага клуба «Святліца». Іграе на гавайскай і шасціструннай гітарах, спявае і піша песні. Нарадзілася ў 2000 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Украдзенае сэрца

Зорка ўзнялася ў неба блакіт,
І думкі мае — за ёю.
Вось бы пазбавіцца ад агід,
Што адгукаюцца болем.

Праз час, праз пачуццяў шкло
Пачуецца голас мой.
Не хочацца верыць, што ты — нішто,
Што слёзы — вада ды соль.

Слёзы — кроплі душы малыя,
Іх так лёгка згубіць...
Як жа могуць людзі такія
З украдзеным сэрцам жыць?!

Хтосьці крадзе і крадзе шмат,
Вырывае іх супроць волі,
А з раны сардэчнай сыплецца град
Разбітых шклінак любові...



# Насця Падрабінкіна

паэтка. Выпускніца ліцэя № 1 горада Магілёва. Студэнтка 1 курса факультэта журналістыкі Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ламаносава.
Сябра літаратурнага клуба «Святліца». У 2016 годзе стала лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу маладых талентаў, які праходзіў у Рагачове. Друкавалася ў часопісах «Маладосць» і «Верасень».
Нарадзілася ў 1999 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Каханне

Узнёслае слова.
Яно нарадзілася недзе высока.
Сышло на зямлю па малочных пялёстках аблокаў.
Спусцілася песняй на росным сцюдзёным світанні.
Магутныя крылы і вечная птушка —
КАХАННЕ.

Пяшчотнае слова.
Яно нарадзілася ў светлых крыніцах.
Імкнулася ў ціхі абшар трапяткой навальніцай.
Прапахла дажджом і тугою ў хвіліны чакання.
Ціша... Бяжыць па шчацэ дробнай кропляй
КАХАННЕ.

Квяцістае слова.
Злучэнне ўсіх фарбаў на свеце.
І кветак усіх, і гукаў на гэтай вялізнай планеце.
Дрыготкі агеньчык надзеі і шчасце спаткання.
Магутная сіла з лагоднаю назвай —
КАХАННЕ.



# Алена Быкава

паэтка. Скончыла аддзяленне журналістыкі МДУ імя А. А. Куляшова... Сябра літаратурнага клуба «Святліца». Лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя Ф. Цютчава. Аўтар кнігі паэзіі «Другое время суток». Нарадзілася ў 1996 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Дакрануцца да сну...

***

Ілюзія не падман, толькі паверхня,
толькі парасткі ўвесну,
толькі гук у адбітку рэха,
толькі солі крупінкі ў снезе,
след ботаў у пажухлай траве
і нічога болей.
Закладваць сэнс у бессэнсоўнае —
гэта значыць адчуць сябе Богам,
гэта значыць сярод начы
шэрым коткам надаць кідкі колер,
заранку зрабіць гарачай, як полымя,
над якім трымаеш больш за хвіліну далонь.
Ніхто не ведае, ці магчыма гэта:
надаваць бессэнсоўнаму сэнс і не быць
здраднікам, катам, паэтам.
Ніхто сапраўды не адкажа шчыра,
ці гэты Левіяфан цябе не зжарэ.

***

Давай заснём —
і размаўляць не прыйдзецца
па той бок сну пачынаецца іншае
што ты бачыш у ім невядома нікому
але цікава як цябе захапляе зніклае
як аплятае сваім павуціннем неіснуючае
каго ты бачыш свядомасць страціўшы
падысці да гэтага цяжка колка балюча
бо дакрануцца да сну немагчыма
не дазваляюць



# Крысціна Башарымава

паэтка. Студэнтка 3 курса гісторыка-філалагічнага факультэта МДУ імя А. А. Куляшова. Сябра літаратурнага клуба «Святліца». Захапляецца фатаграфаваннем. Лаўрэат конкурсу «International Heritage Photographic Experience 2016», які праводзіў Харвацкі фатаграфічны Саюз.
Нарадзілася ў 1997 годзе ў Магілёве. Жыве ў Магілёве.

# Падзяліся сваім святлом...

***

Ёсць у мяне чароўны край
Маіх адзінокіх, але светлых думак,
Дзе раніцай бяжыш па расе,
Басанож, уздоўж залацістага поля,
І цябе вітаюць сінявокія валошкі,
І ты ўсміхаешся ім у адказ.
А ў сінім небе вольна лунаюць
Белакрылыя птахі.
Яны, нібы белы воблак,
То набліжаюцца да зямлі,
То аддаляюцца ад яе.
І адтуль, з небнай высі,
Птушкі ўзіраюцца ў вялікія
Сінія вочы рэк і азёр,
Любуюцца зелянінай лясоў,
Золатам збажыны.
Белакрылыя птахі
Распасцёрлі над зямлёю
Свае ахоўныя крылы,
Якія асляпляльна зіхацяць на сонцы.
Гэты белы воблак паступова
Падымаецца ўсё вышэй і вышэй.
І вось ён ужо ператварыўся ў маленькую,
Ледзьве бачную, белую плямку.
А неўзабаве і зусім знік з вачэй.

***

Я падару табе маё Сонца.
Хай яно не згасае ў тваіх далонях.
А калі светлавокі дзень
Зменіцца цёмнай ноччу,
Нібы край зямлі закранулі нягоды,
У тваіх далонях заўсёды будзе
Уласнае Сонца.
Ты падымі яго вышэй —
Падзяліся сваім святлом.
І тады шлях будзе не такім цяжкім.

***

Мы можам уявіць сябе
кропляй дажджу ці промнем сонца,
узаранай зямлёю ці песняю салаўя,
сняжынкай на рукавічцы ў маленькага дзіцяці
ці заставацца самімі сабою.
і ў гэтым — асалода жыцця,
таго жыцця, што віруе вакол нас,
толькі дазволь дакрануцца
да твайго неад'емнага Я,
каб пачуць, як б'ецца тваё сэрца,
дазволь прыхіліцца
да стомленнага цела
і супакоіць пакуты.

***

Калісь настане дзень
І зноў я заспяваю.
І будзе песня, як набат.
І, мабыць, лёс не простым будзе.
Ён мне пустэчай адгукаецца,
Якая й сёння не дае спакою.
Яе запоўніць я хачу сабою.
Не ведаю,
Ці стану я паэтам —
Не мне рашаць.
Але, калі мне будзе знак
І я яго пачую,
То месца іншым саступлю.
Сама ж пайду далей...



Ігар Свянціцкі. «Дары роднай зямлі», 2013



# Кацярына Массэ

паэтка. Студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Аўтарка вершаваных зборнікаў: «Льётся свет в моё окно» (2012 г.), «Двоичный код» (2015 г.) і электроннай кнігі паэзіі «Аўтакамунікацы... Я» (2016 г.). Пераможца міжнароднага конкурсу «Залатая страфа — 2012», літаратурнага конкурсу, прысвечанага юбілею Якуба Коласа і Янкі Купалы (2014 г.) і інш. Нарадзілася ў 1997 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Утаймаванне глыбіняў

## імёны багоў

мяне абудзіла світальная шэрань дыхання.
прылівы крыві паланілі аблокі румянцам,
напоўнілі чары спусцелых вачніц чуйнаваннем.
нябесныя целы застылі на кончыках пальцаў.

я рукі абмыла у проламцы памяці чорнай —
успыхнулі сонцы на схіле абрынутай мыслі,
па рэках крыві паплылі на ўваскрэшаным чоўне
імёны багоў, на якіх размаўляў Усявышні.

пасыпана снежнаю пудраю рана скразная.
на вуснах брыняюць спакусай атрутныя вішні.
хто іх сцалаваць не збаіцца, быць можа, спазнае
імёны багоў, на якіх размаўляў Усявышні.

## смарагдавыя скрыжалі

ў гарне пасцелі — груканне касцей
ды молатаў кавальскіх пераздвон:
багі куюць смарагдавых дзяцей,
што ўзыдуць на пакінуты прастол.
бы кол у сэрца — выскал іхніх душ,
іх тройчы веліч будуць праслаўляць!
старэйшы хай мне будзе верны муж,
малодшы хай мне будзе добры зяць,
сярэдні хай мне будзе родны брат.
ды з імі нетраў промысел вучыць
як грамату я стану. штокарат
смарагдаў пракладу я уначы
дарогай у смарагдавую твань.
у вене перарэзанага люстра
пабачу ўкрыжаванай сваю здань
на богавым кавадле. будзе пуста
на ўдарамі знясіленай прасціне,
ў астрогах духам кінутых палацаў...
і толькі на скрыжалях маёй спіны
застануцца пісьмёны нечых пальцаў.

## алхімікі

а паміж намі — міжземнамор'е,
міжцемразор'е,
міжцелавер'е.
а пад нагамі — мяжа. міжволі
зазналі меру.
рабілі цукар з марскoе солі.

нам залатое было не трэба.
віна б ды хлеба,
любві б — і толькі.
смак між сабою дзяліць надвое
салодкі й горкі,
ламаць на долькі — сваю нядолю.

а у далоні — камень далоні,
міжсэрцазвонне,
міжцепларушша.
а пад нагамі — мяжа. міжволі
ваду і сушу
мы падзялілі. сябе — ніколі.

## шабаш сноў

ўначы стракоча цішынёй празрысты сад.
вянчае зорны пыл
скляпенне дрэватворнай келлі.
пагаслі яблыкі, налітыя святлом, — то небасхіл
варочае свой млын
пад чарадзейны спеў цыкад.
русалкі плёскаюцца ў месячнай купелі,
і шабаш сноў святкуе свой зачын.

мой сон цвіце на глебе чарнакніжнай,
расце з адкрытых пор сырой зямлі.
адзін на пладаноснай, неспасціжнай,
узоранай празорцамі раллі.
адзін — на непрамоўленым памежжы,
штоноч цвіце ён кветкаю драпежнай,
расце з галосных пор святой зямлі.

у сутаргах змыкання-размыкання
раскручвае ён колы гукахваль.
ягоны голас — топленая сталь.
цяплом слязы ў самотным катаванні
ён лепіць з воску тысячы праяў.

чаму б імя й выяву ён ні даў,
усё сябе яўляе
першавоку.
штоноч — нібыта гліна люстраная:
увязнуўшы, не ступіш ані кроку,
адбітак не пакінуўшы на роўні
няўлоўнага, цякучага «паміж».
я сню свой сон і чую голас: «помні:
ты сніш свой сон, але ж сама — не спіш».

## спакон

маё сонца танула ў зыбучым пяску,
я піла хмель крыві са сваіх чарапоў,
я мяняла язык, нібы змеі луску,
і насіла кароны з атрутных шыпоў.

я гук «р» прамаўляла у горле пячор
і высмальвала руны на горных іклах,
я аднойчы кранула свой цень за плячо
і навечна згубіла прыроджаны страх.

сэрца біла ў няволі грудзей капытом,
што ні вершнік — скідала з вяршыняў сваіх.
я прымала маўчаннем удар, як шчытом,
і таму не казала нічога услых.

## утаймаванне глыбіняў

прасею скрозь мудрасць адкрытых варот
змярцвелае збожжа аблудных дарог.
няпрошаны госць з бессвядомых балот
не пераадолее бераг-парог
сузнання без волі свайго ўладара.
скрозь ценяў бяздомных кашчавыя церні

радзільную чырвань прасее зара,
і вока прарочае голасам пеўня
рыскрыецца брамай у новы абшар.
каромысел мыслі напоўню сцюдзёным
калодзежным звонам і памяці шнар
разгладжу на тварах сапрэлых імёнаў.
дзесь навальніца заплача наўзрыд —
сон акрапіўшы збавіцельным зрокам,
скрозь чорны дождж я прасею блакіт
і скрозь балота — бязважкія крокі.

## апокрыфы

ці наліваў хто у вусны лілеі
хмельныя росы юрлівых цалункаў?
ці агаляла у храме пасцелі
мніская раса ліхія карункі?
ці беспатольныя лашчылі рукі
белы трохкутнік нявінных каленяў?
ці разгайдалі тутэйшыя гукі
неруш тваіх пачуццёвых арэляў?
ці запускаў хто у глыбакавочнае
мора празорлівых рыбін-паглядаў?
ці адслужыў хто з табой усяночную,
ці прычасціўся да смаку памады?
хто прыпадняў гэта снежнае покрыва
з горных вяршыняў грудзей агнядышных?
хто прачытаў твайго цела апокрыфы
у бесцялеснасці слоў усявышніх?

## чаша-грааль

грукае неба ў грымотныя рэбры,
з белага сэрца — начны крывацёк.
золата тлее попелам срэбным —
змрок.

душазмяшэнне. смерць прабягае
па анямелым жыцці басанож.
подыхі ветру ў дрэваў аргане —
нож.

хлебнае плоці скрыль запіваем
слёзным віном. бліскавічны кінжал
долу гукае вадзіца святая —
ў чашу-грааль.

## ключы

колькі не расчэсваю пасмы пуцявін,
ў галаве вятры блытаюць сляды.
між сабой і мной — чыйсьці успамін.
ад пустога келіха — кропля да вады.

вырву слова з коранем з глоткі цішыні.
ад «не гавары» — слова да «скажу».
ад мяне да нас — ты. не праміні
між любой і любаю тонкую мяжу.

розум непрыкаяны на сямі вятрах
будзе ў ступе слоў ісціну таўчы.
між дзвярмі й ключом — толькі слова «страх»,
адзвіняць званы — зазвіняць ключы.

## не суцешыць

ані слова ў тваёй глушы
толькі вока за вокам бег
я імчуся на злом душы
ды агонь не суцешыць снег

мілы брат абдымі сястру
о святар абдымі свой цень
што напісана ўсё сатру
толькі ноч не суцешыць дзень

мы чуйнуем на злом павек
наш палёт расхінае цвердзь
бездарожжа не спыніць бег
і жыццё не суцешыць смерць



# Крысціна Баранава

паэтка. Студэнтка мастацкага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Спецыяльнасць: «Сцэнаграфія. Мастак тэатра, ілюстратар». Нарадзілася ў 1992 годзе ў вёсцы Мілашова на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

# Ваба

***

Я наўмысна
Не маю болю,
Не маю жалю,
Не маю веры.
Калі ў калодзежы
Рохкае сэрца,
Калі шалёна рвуцца нервы.
Калі губляю простую мову,
Не чую гукаў,
Не бачу дзень.
Я чалавек
Душою хворы...
Збітыя пальцы ў
Крывавы цень.

***

Я так доўга не казаў ні слова,
Што цяпер забыўся, як казаць.
Пасумуем разам зноўку.
Будзем плакаць,
Плакаць і спяваць.

Я так доўга, шчыра доўга,
Быў адзін у цішыні,
Што ніводны гук самоты
Не пачую з вышыні.
Я сядзеў і вабіў гукі,
Вабіў мову, вабіў час.
Ціха закрываю вочы.
Не пабачымся ў наступны раз.

***

У пустой папяровай зале,
Дзе памераў не маюць сцены,
Я застануся пахаванай,
Не жывой, а так...
Пустазеллем.

На пустой змярцвелай падлозе
Па-звярынаму буду выць.
Усё жыццё я жыву ў дарозе
І не маю права
Быць.

## Словы

Мае словы наскрозь праб'юць
Непраглядную цемру пекла.
Нашы цені з табой адыдуць
У касмічныя прасторы неба.
Я ніколі не буду іншай.
Буду моцнай, жорсткай,
Але не той,
Што ляцела ў нябёсах птушкай,
Адчуваючы поўны спакой.
Няма крыўды, хлусні і адчаю.
І наогул — нічога няма.
Я знікаю з усіх гарызонтаў,
Вынішчаю лішкі святла.
Мае словы наскрозь праб'юць
Усе дарогі, часы і прасторы.
Было б толькі куды ісці.
Надышоў бы дзень новы.
Я збіраю суніцы ў лесе,
Падстаўляю твар дажджу.
Ні самоты, ні жалю, ні спеваў.
Я мацней. Я перажыву.

## Сон

Мне сёння ноччу
абстрыглі валасы.
Я прачнулася ў журбоце.
Калі балюча —
То баліць.
Калі самотна —
Дык ты ў самоце.

Калі кропля за кропляй
П'еш
Брыдоту і агіду.

Будзь спакойны.
Ты зноў заснеш.
Не пакрыўджаны.
І не пабіты.

Калі будзеш крычаць
І грукаць,
Калі стомлены
Будзеш піць.
Не турбуйся,
Усе мы там будзем.
На нябёсах
Сонца сніць.

***

Слоў поўны рот,
Як той пратухлай грэчкі.
І не зап'еш, не выцягнеш,
А ты мне ўсё:
«Збірай парэчкі»...

***

Апусці рукі долу
Пад небам ,
Што заўжды
Прыме сэрца тваё.
І жыві.
Цішынёй ды паветрам.
Не апранай душу
У рыззё.
Будзь шчаслівым,
Будзь сумным ды змрочным.
Будзь такім, як ты ёсць,
І жыві.
А як адыдзеш у свет іншы,
Па табе будуць плакаць
Ваўкі.



# Надзея Філон

паэтка, празаік. Аўтар кнігі паэзіі «Кроплі святла» (2012 г.), зборніка вершаў і паэтычных перакладаў «На абсягах вечнасці стаю» (2016 г.) Друкавалася ў часопісах «Бярозка», «Полымя», «Верасень» і інш. Пераможца міжнароднага літаратурнага конкурсу «Першацвет» (2017 г.) Нарадзілася ў 1988 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Шчаслівыя гадзін не назіраюць...

***

Заходам піша травень свой санет.
У ім ёсць прыгажосць птушыных спеваў,
Грымоты навальніц і шум залевы,
Мігценне зорак, паданне камет.

Шуміць галінкамі зялёны бор,
Там салаўі свае заводзяць трэлі,
Вавёркі скачуць, нібы на арэлях,
ды пахне па-вясноваму чабор.

Вясна заходам сонца свой санет
Завершыла, чаруючы шматкроп'ем,
Пакінула аўтограф. Чутны крокі.
Працягне чэрвень травеньскі сюжэт.

***

Калі на вуліцы мароз,
І стыне кроў ад моцнай сцюжы,
Аб тым падумайце ўсур'ёз,
Каб не замёрзлі вашы душы.

Складана ў холад аднаму:
Ад завірухі думак розных,
Закружыць моцна галаву,
А сэрца, можа, і замёрзне.

Цяпло патрэбна для душы
І дабрыня, зусім без платы.
Хоць колькі цёплых слоў скажы,
Для сябра, маці альбо таты.

Калі на вуліцы мароз,
І стыне кроў ад моцнай сцюжы,
Аб тым падумайце ўсур'ёз,
Каб не замёрзлі вашы душы.

***

Зноў зіма сумуе па вясне,
Ахінаючы паветрам свежым.
А зямля яшчэ нібыта ў сне —
Каралева непрыступнай вежы.

Маразы не хочуць саступаць —
Закаваны моцна лёдам рэчкі.
Хочацца цяпло ім затрымаць.
А зіма вядзе з вясною спрэчкі.

Каралеву трэба вызваляць —
Абдымае цёплым промнем сонца
Мёрзлую зямлю, ёй хопіць спаць,
Бо зіме не панаваць бясконца.

***

Намалюю вясну. Пэндзлік новы — наперад.
Ёсць фантазіі дзе разгарнуцца.
Фарбаў безліч вазьму
І заззяе папера,
Як да пэндзліка пальцы крануцца.

Там віднеецца лес,
Перад лесам — ярок,
Праз яго — ніткай тоненькай сцежка.
Нават чуецца ўсплеск —
Там бяжыць ручаёк,
Што мой слых і мой погляд усцешыць.

Сонца ясны прамень
Асвятляе зямлю,
Шчыра сыплецца з яблыняў квецень —
Пэўна ветраны дзень.
Фарбаў яркіх вазьму,
Бо гуляе вясна па планеце.

***

Рачулка з мілагучнай назвай Шаць,
Заснежанай прасторай захапляюся.
Зноў хочацца на скрыжаванні стаць,
Ды немагчыма. Стоена ўсміхаюся.

Ці выпадзе шчэ гонар мне такі —
Надыхацца паветрам тут, сцяжынкаю,
Што стужкаю віецца ля ракі,
Прайсціся разам з белымі сняжынкамі.

Пад шатамі ляснымі пастаяць,
Паслухаць шэпт галінак з небам, хмарамі
Ці выпадзе магчымасць? Рэчка Шаць,
Няздзейсненай з'яўляешся ты мараю.

***

Шнары — вынік нейкай кары,
Нездзяйсненне любай мары.
Неба зноў палоняць хмары,
Дзе маланка робіць шнары.

Злева цэлы дзень залева:
Тут зламана ветрам дрэва,
Больш не чутны птушак спевы...
Ані справа, ані злева.

Ад грымоты, адзіноты
Зніклі промні. Ад самоты
Неба шле свае звароты
Пад мелодыю грымоты.

***

Людзі схаваліся пад парасонамі,
Сонца няма ўжо каторы дзень.
Твары ва ўсіх, падаецца, сонныя.
А дождж не сціхае. Ідзе і ідзе.

Падаюць кроплі на колеры розныя:
Сінія, чорныя, бела-чырвоныя,
Памаранчовыя... Толькі б не спозненна —
Душы, не твары пад парасонамі.

## Мара

Чалавечая мара —
Гэта сон, летуценне.
І няўлоўная хмара,
І надзеі здзяйсненне.

Гэта позірк дзіцяці,
І лагодныя вочы,
Ласка шчырая маці,
Ззянне зорак уночы.

Гэта хваля кахання
Ад вачэй і да сэрца,
Асалода спаткання —
І пяшчоты цяпельца.

Мара — гэта старонка
Улагоджаных літар
І адбітак пярсцёнка
На жыццёвай арбіце.

Мара — гэта натхненне,
Непарыўнае з дзеяй.
Майго лёсу імгненне,
Маіх крылаў надзея...

***

Шчаслівыя гадзін не назіраюць,
Бо іншыя адзінкі вымярэння
Яны ў сваім жыцці, бясспрэчна, маюць,
Па іншаму ацэньваюць імгненні.

Глядзяць на свет у танцы хуткакрылым,
Не замінаюць ім аблокі-хмары,
І нават, калі ноч зямлю накрые,
Шчаслівыя яны здзяйсняюць мары.

Наш час на месцы не стаіць ніколі,
Але яны жыццё апераджаюць,
Бо робяць, як заўсёды, трохі болей.
Шчаслівыя гадзін не назіраюць.

***

Маўчы! Прашу не прамаўляй ні слова,
Не парушай сардэчны мой спакой.
І не рабі паспешліва высновы
Аб тым, што адбылося не з табой.

Не асуджай нікога ты дарэмна,
Ніколі плётак іншым не кажы.
Лепш прамаўчы, чым брыдка, непрыемна
Ад слоў камусьці стане на душы.

***

Восень піша нам апавяданне
У паветры зноў лістком кляновым,
І яе халоднае дыханне
Нам чамусьці падаецца новым.

Золатам кладзецца на сцяжынку
За радком радок, за словам слова.
Восень тчэ, нібыта павуцінку,
Нам штогод сюжэт са зместам новым.

Дожджыкам дапіша сказ апошні
Па застылай глебе стукам кропель.
І над заімжэлай шэрай пожняй
Кіне нам лістотаю шматкроп'е.

***

Жнівень саступае п'едэстал —
Восень ён убачыў на парозе.
Летні дзень такі кароткі стаў,
Пажаўцела лісце на бярозе.

Хутка зноў закружыць лістапад,
Паляціць пад ветрам павуцінне,
Хмарамі зацягне далягляд,
І смуга над рэчкаю застыне.

Восень на парозе. Прыгажосць
Захавана ў ёй і таямніца.
Колькі захаплення ў гэтым ёсць!
Хочацца душой з прыродай зліцца...



# Таццяна Крэнь

паэт, журналіст. Скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. Друкавалася ў газетах «Родны край», «ЛіМ», «Лясная газета», часопісах «Вясёлка», «Вожык», калектыўным зборніку «Пад Купалавай зоркай». Нарадзілася ў 1982 годзе ў вёсцы Малыя Нястанавічы на Лагойшчыне. Жыве ў Лагойску.

# Я табою хварэю...

***

Пачаць з пачатку дзень —
Разбіць начныя страхі,
Што раптам уварваліся ў жыццё.

Пачаць з пачатку дзень —
Сысці нарэшце з плахі,
Няўпэўненасці скінуць пачуццё.

Пачаць з пачатку дзень —
Адчуць крыла узмахі
Пад воўчае халоднае выццё...
Без страху
проста з плахі —
крылаў узмахі!
*13.08.2017 г.*

***

Я ведаю, што побач ты, са мною.
Ты не падман, не тонкая смуга.
Чакаю поглядаў, сустрэч і слоў з табою.
Мая надзея — лёгкая туга.

Я больш не буду шэрай і нямою.
Я ведаю — ты ёсць і побач ты.
Глядзі: аблокі сваёй белаю рукою
Выводзяць дзіўныя карункавыя сны.
*06.08.2017 г.*

## Табе

Я аддам табе ўсё: мары, сэрца і волю.
Свае рукі давер мне, што стынуць ад болю.
Мне далоні падай — іх дыханнем сагрэю.
Не адчай, не падман — я табою хварэю.

Я хварэю табой. Столькі стратаў у слове!
Мне імя тваё песняй ліецца у мове,
Калі вочы ў душу зазіраюць нямую —
Ад пагляду у летнюю спёку зімую.

Ты аддай мне свой боль, свае страхі начныя.
Я гатова прайсці праз нягоды зямныя
І не трапіць у рай чорнай знічкай згарэлай...
Не адчай, не падман — я табой захварэла.

*16.08.2017 г.*

***

Адбаліць — і будзе ранак росны на раллі,
сонцаграй і спеў заранак.
Сэрца, не балі...
Аднясе грымоты хмара ад маёй душы —
прыйдзе светлы дзень на змену стомленай цішы.
Ахіне туманам цёплым поплаў ля ракі —
будзе вечар ціхі, добры, як з тваёй рукі,
шчырай, моцнай, роднай самай —
з яе шчасце піць.
Зноўку сэрца зашчымела...
Можа, адбаліць?

*16. 08.2017 г.*

***

Веру табе і не веру:
За ўсмешкаю — востры пагляд.
Калі адчыняеш дзверы,
Скажы, ты мне рад ці не рад?

Ізноў варажу на вершах,
Шукаю між літар сябе.
Паставіш у лік не першых
Ці ўсё ж пашкадуеш мяне?

*26.08.2017 г.*

***

У кругазвароце рэчаў,
думак і падзей
Будзе дзень і будзе вечар
стомленых надзей.
Будзе боль расчаравання,
сэрца цеплыня.
Можа, нават пакаянне
над распятым «я»...

За сцяной дажджоў халодных,
на пачатку дня
Разліваецца лагодны
акіян жыцця.

*25.08.2017 г.*

***

Ўвесь сэнс майго жыцця
Ты звёў да гэтай фразы:
«Паэзія — пасля,
І толькі я — адразу».

Мне ноч была не ноч!
Адчаем стала ранне!
Я здрадзіла апроч
Сябе свайму жаданню.

...А потым — і табе
Адным адзіным сказам:
«Даруй, усё міне,
Бо вершы ўсё ж — адразу!»

*26.08.2017 г.*

***

Яны ідуць да мяне, як маленькія дзеці,
Даверлівыя, шчырыя, родныя.
Гладжу іх цёплыя далонькі і плачу.
Столькі дзён я жыла адзінотай,
Столькі год я была не свая,
Столькі аркушаў не падарыла
Маім вершам — жаданым дзецям.

*26.08.2017 г.*

***

Прывітанне табе, маё соннае сонца.
За акном сёння восень, і ранішні дождж
барабаніць па шкле. Ён здаецца бясконцым,
як шляхі ад мяне да цябе. Але ўсё ж...

Але ўсё ж гэты ранак мне грэе далоні
кубкам кавы (а гушча пакажа жыццё).

Перажыўшы нягоды і сотні агоній,
я прашу гэту восень даць мне забыццё.
Я прашу гэту восень быць шчырай да донца,
быць сапраўднай і чыстай, як ранішні дождж.
Прывітанне табе, маё соннае сонца!
Ты не побач, ды грэеш мне сэрца усё ж.

*15.09.2017 г.*

***

У агню — ні памяці, ні болю,
толькі палкае жаданне жыць.
Кіну у касцёр гарачы долю,
смецце мар. Няхай ярчэй гарыць!
Языкам пякучым я дазволю
сэрца і надзеі абпаліць,
смагу цеплыні тваёй спатолю,
буду іскры у душы насіць,
бо ў агню ні памяці, ні болю.
Толькі палкае жаданне жыць.

*08.09.2017 г.*

***

Усё пачынаецца з нуля.
Ідзе адлік на час, на хуткасць,
На боль і колькасць.
Спакваля ты забываешся пра годнасць,
Спакой і сон. І ты бяжыш!
Хутчэй за ўсіх, імклівым ветрам!
А спатыкнешся — ўраз жыццё
Апошнім стане кіламетрам.

*15.09.2017 г.*



# Людміла Шчэрба

**празаік, паэтка, спявачка. Аўтар рамана-фільмаслова «Уладар рыбаў» (электронная кніга, 2016 г.), нанарамана-правакARTцыі «Урб@н.М: Адзін дзень майго жыцця» (2017 г.). Нарадзілася ў 1973 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# Дзень з чужога пляча...

***

Акварэлі...
                    Над вадой арэлі...
Празрысты свет дзіцячага жыцця.
Сьвяты, асвечаны — з купелі
і шчодры, бы калядная куцця.

Вавёрчын хвосцік ў фарбу памачаю —
на палатне блакітная рака...
Крывыя лініі дзіцячага адчаю
цярпліва выправіць матуліна рука.

І босай сцежкаю на вольную дарогу
ў дарослае жыццё кладу мазкі —
гуаш пукатая патроху
сабою адваёўвае шляхі.

А ў верхняй кропцы маятнік арэляў
адлічвае час новага жыцця —
узмахам лёгкім акварэляў
гуаш расквечвае дзіця...

Усё выразней трэскаецца фарба,
і па сівых пражылках напрасткі
аловак лёсу, падлічыўшы скарбы,
няўмольна тчэ графічныя штрыхі.

І чорна-белы свет змяркання
застыў на самым беразе ліста.
А што там — на краі пазнання?..
Ды толькі ўзмах вавёрчына хваста...

***

А я ад зімы знепрытомнела —
Люты паклаў на лапаткі.
Бяроза галінкай надломленай
Абводзіць зімы канчатак.

А я ад вясны захлынулася,
Ні продыху, ні адхлання.
І мне сакавік сярод вуліцы
Штучнае робіць дыханне.

Ад лета зусім змімалётнела,
Яно бы прабегла праз кладку.
Пад крыламі самалётнымі
Жнівень скаціўся ападкам.

Ад восені я здаляглядзела.
Далоні складае лістота.
Збіраю дажджоў зарападзінкі
На твой адзіны дотык.

***

Дзень з чужога пляча...
Мне запясце гадзіннік дзіравіць.
Мне — авансы бацькоў абнаявіць.
А у садзе цвіце алыча...

Дзень з чужога пляча...
Мне крэдыты даверу пазычыў
мой настаўнік, мне поспехаў зычыў.
Ды зацвёрды навукі хлеб — вось акалічнасць,
зашпурнула я ў кут глеўкача.

Дзень з чужога пляча...
Ахінуў ты каханнем і джутам...
Толькі цуд абярнуўся пакутай,
пакаўзнуўшыся на «выбачай».
— Хочаш чай?
— Дзякуй, мне кавы, упрыкуску адчай.

Дзень з чужога пляча...
— Што вашае справы датычыць...
Наш работнік усё вам разлічыць...
ў лепшым выглядзе... грошы залічыць...
Гарантыя? Подпіс, пячаць.

Дзень з чужога пляча...
Свет! Я — дарослая! Можаш разлічваць!
Калі раптам нас зноўку пакліча Час.

Дзень з чужога пляча...
Мне запясце гадзіннікам лічыць.
Як з хвілінаю кожнай не абязлічаць?
Асыпаецца-цікае ў рукі духмяная
жоўтая алыча...

***

Не шкадуй напісаных вершаў,
Не шкадуй праспяваных песень.
У жыцця завадной мітрэнзе
Ты сказаў мне пра гэта першы.

І ляцела долу адзежа,
І гітара сарвала голас,
Тут нікому не трэба слёзы —
Ты сказаў мне пра гэта першы.

І разбіўся аб вокны снежань,
І паветра горкага смаку,
Дзетка, я не даю лайфхакаў —
Ты сказаў мне пра гэта першы.

І мінаецца дзень парожні,
І душа адыходзіць пешшу,
Ты казаў мне пра гэта першы.
Я сказала пра гэта апошняй.

***

Ты блытаеш значэнні словаў.
І кампліменты не да месца.
Ды для мяне заўжды асноўным —
Тваё няголенае сэрца.

І не была б зіма зімою,
І ля вагню нат не сагрэцца,
Каб побач не было са мною
Тваё няголенае сэрца.

Дый у сімфоніі жыццёвай
Была б адно я толькі скерца,
Гучыць мне мантраю-замовай
Тваё няголенае сэрца.

Ствараючы сваім каханнем,
Мяне малюеш на мальберце.
Малю я зноў аб дараванні
Тваё няголенае сэрца.

І кожны дзень за разуменне
Я Богу дзякую нязменна:
Ніяк не б'ецца адным герцам
Тваё аголенае сэрца.

***

Па мяжы паветра і вады,
Па мяжы гары і неба
Пракладае да мяне сляды
Той, хто мне зусім не трэба.

Ён прайшоў скрозь воду ды агонь,
Ён сыграў на трубах медных,
Каб адчуць шчакой далонь.
Той, хто мне зусім не трэба.

Вочы ў вочы не пазнаць вачэй,
Згрыз ён тры мядзяных хлебы,
Тры кашулі здзёр з плячэй
Той, хто мне зусім не трэба.

Тройчы лапці білі ногі ў кроў.
Трыццаць тройчы абяцалі срэбра.
Павуціну рваў умоў
Той, хто мне зусім не трэба.

Ён глядзеў, нібы стомлены бог.
Ён стаяў, як быў, у зрэб'і.
Мне жыццё паклаў да ног.
Мой адзіны. Навек патрэбны.

***

*Гарадское паветра робіць вольным.*
Сярэднявечная прыказка

Наўпрост праз памяці клады,
Душа рыпела, бы астылы вочап,
З карэннем вырываў сляды,
І шэры шлях глядзеў у вочы.

Ўзаўецца шэрым журавом,
І перасохне горла студні,
Глядзіць у спіну родны дом,
І вецер каля ног прыблудны.

Мяняе золата палёў
Каля ўваходу строгі брамнік
На горад пыльных камянёў,
На абяцанні, спадзяванні.

Жыццё б зямлі ў руках адчуць,
Ды вабіць зманліва свабода —
Паветра вольнае ўдыхнуць
У першы дзень другога года.

***

Мой горад сівее над Свіслаччу
Звіслы
                    Ўваччу
дрэў гарадскіх
                    квадратныя
карані з зямлі
Мазалі
на асфальце параненым
шынамі
              Ашыйнікам МКАД
горад мой заарканены

Мой горад вандруе тралейбусам
Трал Лейбус
                    збірае людзей
у сеціва

Смеццем
робяцца зоркі апалыя
Расталыя
«Знічкі» ў маёй кішэні
Вены
горада шпіля іголку
ўсмакталі

Мой горад шалее з бяссонніцы
Люк
Бесон
Ніца
Мой горад не ніцы
Вачніцы
байніцы
У ім таямніца
Карыцай
цярушыцца пыл
стагоддзяў
Мой горад не можа скарыцца
Годзе

***

Гэта проста настрой
і я проста сяджу
гляджу
на магутную плынь вадаспаду
што разбівае ўшчэнт
горад ля маіх ног
паветрана-кропельна змінчэлыя
мінакі

***

Пафарбую валасы
ярка-рыжым тонам.
Батарэя палюсы
зменіць перад сконам,
даўшы плэеру спакой,
разарвецца цішынёй.
«Мы з табой адной крыві», —
чую шэпт спакусны.

Восень ў мехавы савік
захінула вусны.
Рыжы позірк з хітрынёй
з парку цікаваў за мной.

Пачуццёвыя галля
працягнула пальцы —
злегкадумнела зямля
пад матывы сальсы.
Палкі танец не ў настрой
Патыхнуў гарачынёй.

«Мы з табой адной крыві...
Я бліжэй, чым эга...»
Свята колеру любві
захлынецца снегам.
Крокі восені маёй
ліст сагрэе даланёй.

«Мы з табой адной крыві...»
Я і Восень.
Крокаў восем —
Мой адзін і сем тваіх...
Да растання.
Я стаю тваё дыханне.
Вусны ў вусны...
Кліч — не кліч, заві...

***

Мне 36...
І гэта жэсць.
Мне 36...
І хто я есць?
А можа, ёсць,
іх ягамосць?
У косці злосць.
Ты можаш спаць,
а можаш піць,
дзяцей кідаць,
альбо не жыць,

ты мусіш быць —
вось выбар багаты,
калі твае вочы
закутыя ў краты.
У душах смерць,
ў кішэнях медзь.
Спадарству чэсць!
Сярэдняя па краіне — 36,6.

***

Датрываць да наступнае кавы,
Паглядзець ёй у чорнае вока.
Упаўзае варожая ява
Цераз рот пацалункам-апёкам.

Я на смак жыццё каштавала,
Не прасіла ніколі цукру.
А жыццё душу гартавала,
У сусвеце колеру умбры.

Заручоныя колцамі кубкаў,
Разрываем цемры прадонне,
Каб сарвацца з апошняй прыступкі
Ў ратавальнае кола бяссоння.

Каванутыя мы ці скавелыя,
Прысмак людзям пакінем гаркавы.
Цень Бальзака старонкі зжаўцелыя
Піша ў кожным крывёю-кавай.

***

Прытулі мяне, гожую, вольную,
І схавай адабраны мой розум.
Мы з табою з зімы звольнены
і ад лета на паўдарозе.

Прытулі мяне, дзёрзкую, палкую,
і не дай мне права на выбар.
Нецярплівыя мы і нядбалыя —
Бог даруе нашыя хібы.

Прытулі мяне, дальнюю, ўскосную,
выбачай за ўсё, што не збылося.
Безгалосеюць мары ўзнёслыя
у жыцця трывіяльнай прозе.

Прытулі мяне зноў, векапомную.
Існаванню твайму не зашкоджу.
Ты прызнай мяне проста, бяздомную,
І мой верш, ад цябе народжаны.

***

Ты сядзіш у чарцы ад мяне,
Твае вочы — бы адбіткі ў лужыне,
Бы самотнае святло ў вакне
Дома, што наскрозь прастуджаны.

Не заліць «маленькаю вадой»
Твае ўласныя амаль сорак градусаў
Пад магільнаю прыціх пятой,
Пад двума ў напамінак сказамі.

Чарку ўперад, чаркі дзве назад
Ты не быў быццам мех развязаны,
Вытыркаецца з яго разлад,
Патыхае з яго паразаю.

Па табе заказвае імшу,
Крэсліць лёс на стальніцы зацемкі.
А жыццё выменьвае душу
Быццам скарбы туземцаў на пацеркі.

***

Я вырасла з тваіх пытанняў
пра мяне
і з захапленняў, спадзяванняў.
І колькі часу праміне —
я вырасла з твайго кахання.

Я вырасла з тваіх ваганняў
слабіны
і з недаверу, нараканняў,

з невінаватае віны,
я вырасла са шкадаванняў.

Я вырасла з «даруй», і з «дзякуй»,
і з маны,
і манны тваіх слоў дваякіх,
і з абясцэненай цаны.
Я вырасла. З тваёй адзнакі.

***

Я благая, благая, благая,
І намеры мае благія.
Сёння я з табой гуляю,
Заўтра кіну цябе на гібель.

Так банальна было заўсёды,
І нічога ты ўраз не зменіш.
Проста я з руды-пароды,
Перад ёю кайло нат кленчыць.

Я Мядзянай гары Гаспадыня...
І адкуль гэткі верш жаночы?..
Прыналежнасць маю да багіняў
Ты пацвердзіў сягоння ўночы...

А цвярозасць прыходзіць зранку
І даруе ўлады бязмежжа...
Проста сёння ты быў Каханак.
Ну а заўтра — малы ды смешны...

***

Нашаму расстанню — васямнаццаць.
Пашпарт пакажа — набудзе алкаголь,
Зможа без нагляду адарвацца,
Чарку падніме, скажа: «Ну, за боль!»

Нашаму каханню — васямнаццаць.
Вечная лічба для вечных велічынь.
Колькі жыццяў жыць, каб не расстацца?
Колькасць за якасць імкнемся залічыць.

***

І ад мяне сыходзіць лета
Слядамі босых ног,
Па беразе, пяском сагрэтым,
Вандруе сам Сварог.

— Ты, той, хто ходзіць па нябёсах,
Што ў беразе табе марскім?
— Пароль ад чалавечых лёсаў
Згубіўся скрозь вякі.

Алатыр — камень іскры божай —
У дно марское ўрос.
Стаіць Сварог на раздарожжы —
Чатыры твары слёз.

І кожны чалавек асобна
Будуе свой алтар —
Каханню, ідалам, мамоне
Ён сыпле божы дар.

Ды грэць халодны камень марна —
Цяпло не тоіць ён.
Душу пахілую ахвярна
Змушаюць на паклон.

Па беразе адвечнай пены
Ідзе самотны бог.
Сціскаюць жменяю карэнні
Пясок ля босых ног.



# Святлана Куль

паэтка, гісторык. Аўтар паэтычных зборнікаў: «Вершы. Байкі. Паэмы» (2012 г.) і «Вершы. Байкі. Паэмы. Кніга 2» (2017 г.). Друкавалася ў часопісах «Верасень», «Маладосць», альманаху «Стары Замак», газетах «Наша Ніва», «Літаратура і мастацтва» . Нарадзілася ў 1959 годзе ў Гародні. Жыве ў Беластоку.

# У мяне за акном — сад...

## Паданне пра крэўскую кельму

*Алегу Дзярновічу*

Звяном у княскім ланцугу,
Што з поўначы на поўдзень лёг,
Вянцом, ачоліўшы дугу,
На межах, пасярод дарог,
Якімі ў сэрца княства шлях,
Задумаў замак Гедымін:
Каменняў шмат лягло ў палях,
На замак хопіць не адзін.
Цягалі смерды камяні,
І вапну, гліну і пясок,
Ішлі, міналі ночы-дні,
Узняўся замак ля дарог.
Найлепшы муляр з муляроў,
Якому кельму Бог дарыў,
Дзве вежы замкавыя ўзвёў
І цэглай абкладаў муры.
Ён ведаў замкавы сакрэт:
Закрыты схоў, таемны ход,
Ён збудаваў яго як след,
Прыступкі ладзячы пад спод.
Ужо мацуецца царык,
На вежы ўзносіцца каптур,
Цамянкай муляр вяжа стык,
Пальчаткай-цэглай здобіць мур.
Назаўтра ранкам на сцяне,
Як то вядзецца ў муляроў,
Спытае князя аб цане,
І потым з грошамі — дамоў.

Прыступачкі — таемны ход,
Нібыта смоўж, паўзуць на ўсход,
Уніз, уніз і паварот
Скляпенні лукам гне,
Мільгае кельма, быццам нож,
Паўзе, паўзе каменны смоўж,

Спачатку ўніз, затым уздоўж
У замкавай сцяне.
Праз глей і жвір віецца лаз
Пад вежай замкавай якраз,
Дубовы люк, жалезны паз —
А потым пад адхон.
Таемны выхад і ўваход
Не ведаеш — шукай хоць год,
Надыдзе нейкі закалот —
Дарэчы будзе ён.

Месяц не гляне праз вузкія вокны-байніцы,
Тоўстыя сцены заглушаць і крокі, і крык,
Бэлькай дубовай на столі цямнее царык,
Замак заціх, толькі муляру ноччу не спіцца,
Верзіцца кроў і глыбокая келля-цямніца.
Што ён для князя? Не роўня, а проста мужык.
Ён не пахолак, не вой, не дасведчаны рыцар —
Муляр, хай добры;
ды мае, на гора, язык.
Сам майстраваў, вёў каменнямі хітры адлік —
Дзе павярнуць, дзе націснуць, а дзе нахіліцца.
Будзе маўчаць, толькі князь давяраць не прывык.
Лепей заб'е, каб не зведаў ніхто таямніцу.

За борам лес, за лесам гай,
Іржышчам след ад Крэва прэч,
У небе сокала шукай,
Вастры дарэмна нож і меч.
Як не гані цяпер каней,
А следу свежага няма.
Ляжала кельма на сцяне:
Чакалі майстра. Ды дарма.
Таемны ход, лісіцын лаз
І след ад лаза пад адхон
Праз лес і бор, і поле праз —
Пайшоў таемна ноччу ён.
Ішоў і вельмі шкадаваў,
Што мусіў кінуць скарб такі,
І замак з вежамі дзвюма
Пракляў ад сэрца на вякі.

*25.11.2012 г.*

***

*Vita brevis, ars longa.*

«Я добры госць, маўляў, не ганарысты,
Ем за свае і пью не задарма.
Нясі, Абрам, гарэлкі ды пячыста,
Казалі, тут прыстойная карчма.

Нагода ёсць спажыць пітво і стравы,
Не пост Вялікі, можна і зграшыць,
Калі майстэрскі выканана справа,
Патрэбен адпачынак для душы.

Казалі, маю рукі залатыя,
Плацілі за работу серабро,
Усё адно — паганцы ці святыя,
У кожнага ёсць шыя і рабро.

Адное ўсё —жабрак або багаты,
А цела тое ж, хоць і розны змест.
Гаворачы прыслоўем Гіпакрата,
Ва ўсіх, Абраме, vita brevis est!

Кароткае — я сто разоў праверыў:
Махну рукою — і канец, і край.
Не верыш? Дык спытай маю сякеру.
Або вяроўку з шыбеніц спытай.

І меч спытай — выдатная прылада!
Шкада, жыдок, не ў гэты час жыву,
А мог бы, папрасі Ірадыяда,
Як майстар Яну ссекчы галаву,

Адным ударам, хораша і чыста,
Каб не крычаў, каб не шугала кроў.
Майстэрства — не жыццё, яно вячыста.
Давай, Абраме, вып'ем за майстроў!»

*11.02.2014 г.*

***

Да парога лічу кіламетры, гадзіны і крокі,
Мне б дайсці, датрываць, перайсці цераз гэты парог —
Дом бацькоўскі адшэпча хваробу, бяду і сурокі,
Ён замовы і шэпты ў кутах на паддашшы збярог.

Ён прылашчыць мяне, бы ў дзяцінстве матуліны рукі,
Ён падушку паправіць і коўдру вакол падаткне,
Я шчаслівай засну пад ягоныя шэпты і гукі,
Хай калыша і шэпча, мацуе і лечыць мяне.
Можа ведае хто ці гасцінец, ці шлях, ці сцяжыну,
За якімі марамі, якой неабсяжнай тайгой?
Дзе стаіць гэты Дом, што пашэпча над хворай Айчынай?
І ці дойдзе яна? І ці дойдзе яна да яго?

*4.04.2017 г.*

***

Пярсцёнак твой на левай, на маёй
За мной цікуе ў белы дзень і ноччу,
Ён шмат гадоў з рукі маўкліва сочыць,
Каго ў пяшчоце абдымаю ёй.
Ён ведае пра кожны стогн і ўздых,
Запамінае твары і абліччы,
Ён думае, што неяк пералічыць
Табе маіх каханых і былых,
Раскажа, што любіла і люблю,
Калі мы зноўку будзем — вочы ў вочы.
Хай спадзяецца. Ляжа ён аднойчы
З маім мінулым разам — у зямлю.

*28.05.2017 г.*

***

Мора салёнай вады так далёка ад дому —
Не далятае ніводны з айчынных вятроў,
Ды даплыве гэтым морам, дацягнецца Нёман,
Кіне на бераг аскепак з каложскіх муроў,
Ногі лізне языком прахалодным і вузкім,
Сэрца адтане і стане спакойна ўнутры,
Мора памроіцца свойскім, зусім беларускім,
Нібы вада з-пад высокай каложскай гары.

*11.07.2017 г.*

***

Я еду дадому, душы засталася палова,
Амаль што нямко — на чужыне язык скамянеў.

Я еду дадому, дзе родныя цёплыя словы,
Сябрамі старымі цярпліва чакаюць мяне.

Чакаюць патэльня, відэлец, падлога, фіранка,
І клямка, і столя, шуфлядка, масніца, дыван,
Чакаюць сурвэтка, кутасік, завала і брамка,
І веснічкі з імі, і сцежка, кілім і паркан.

Вялізарным слоўнікам поўніца родная хата,
Чакаюць стракаты, прыгожы і нават сівы,
Чырвоны, блакітны і бэзавы, шэры, пухнаты —
Як лепшыя лекі для сумнай маёй галавы.

Абдыме прыслоўе мяне і маленькі займеннік,
Назоўнік прылашчыцца, сціснe руку дзеяслоў.
З паловай душы ад чужой нематы і здранцвення
Я еду па словы, да роднае мовы — да-моў.

*3.04.2015 г.*

***

У цябе за акном — змрок,
у мяне за акном — сад,
твой ружовы адзінарог
п'е ваду ля чужых хат.
У цябе пад нагой — карніз
І самота ў глыбі воч,
Калі доўга глядзець ўніз
Пазаве праз акно ноч.
Даганяе зара зару,
зіхаціць за садам жніво.
Хочаш — сонейка падару?
Або зорачку на Раство?

*18.09.2017 г.*

***

Я нідзе і ніколі не бачыла неба такога,
Каб для кожнае зоркі было адпаведнае месца,
Каб Птушыная бегла ў належным кірунку дарога
І падсмажаным дранікам ззяў паміж зоркамі Месяц,
Я запомню нябёсы, я буду ўглядацца да ранку

У малюнак сузор'яў, шукаючы Зорнае Кола,
Я знайду Каралёў і Малы апалонік над ганкам,
Заранiцу на ўсходзе, з якой пачынаецца золак.
Я змагу прыгадаць у гадзіну, абраную лёсам,
На апошнім шляху, калі буду ў дарогу збірацца —
У якія пайсці мне з тутэйшага свету нябёсы,
Каб хутчэй прылятаць, каб дамоў на Дзяды не спазняцца.

*15.08.2017 г.*

## Паэзія

***(Байка)***

*Когда б вы знали, из какого сора*
*Растут стихи, не ведая стыда...*
Ганна Ахматава.

Памыйны Кот казаў пад вечар дзецям:
«Я недарма жыву на гэтым свеце,
Няхай суседзі на мяне грашаць,
Што не злавіў ніводнага мыша,
Ды справа ёсць важнейшая за гэта —
Я ўсё жыццё руплюся для паэтаў.
І вы, малыя, майце на прыкмеце,
Паэтам неабходна наша смецце!
Ды дзе б яшчэ паэт сабе знайшоў
Для вершаў смецця некалькі кашоў?
Надоечы паэту маладому
Памыяў мех я прыцягнуў дадому,
Парыўся між памыямі паэт —
Лімерык адшукаў і трыялет.
Для белых вершаў я адной дзівачцы
Пратухлых яек прывалок на тачцы,
І з гэтых крохкіх белых шкарлупінаў
Дзве кнігі вершаў зладзіла дзяўчына!
Я для паэтаў многае зрабіў:
Адкрыеш кнігу — бачыш мой уплыў!»

Бывае, многа чуеш аб паэце,
А пачытаеш — смецце, смецце, смецце...

*29.05.2017*



# Тамара Аўсяннікава

паэтка, празаік, педагог. Аўтар кніг вершаў: «Ноты сэрца», «Лістапад гадоў», «Стромкая галінка», «Скрыжалі», кнігі прозы «Любачка». Кіраўнік літаратурнага клуба «Святліца». Нарадзілася ў 1949 годзе ў вёсцы Сяўкі на Лоеўшчыне. Жыве ў Магілёве.

# Чым жывеш, чалавеча?

***

Я люстэрка на стол паставіла —
Госць з'явіўся нязваны-няпрошаны.
Ён калікай за стол садзіцца,
І заводзіць ён песню сумную.
Я той песняю наталілася,
Душой-сэрцайкам прасвятлілася.

Госць другі завітаў, усміхаецца,
Салаўём ён пяе-заліваецца.
На паўвека спазніўся спакуснік,
Кроў маўчыць і маўчаць мае вусны.
— Не спявай, Дон Хуан, мне асанну,
Я не Ханна твая, я не Ханна.

Раптам Шэры кульнуўся праз голаў —
І сядзіць чалавекам у чорным.
Перад носам паперкай махае,
Гэты зноўку мяне спакушае!
Аджагналася тройчы крыжам —
Знік пярэварацень хіжы.

***

Ліхтары-дзьмухаўцы
Ўздоўж дарогі.
Вока божае угары —
Месяц двухрогі.
Углядаецца ў цемру,
Зыркае вокам,
Бо яму, як і мне, —
Адзінока.

***

«Хуткая» — хутка.
Хвораму — доўга.
«Хуткая» — ёсць.
Чалавека — няма.

Сэрца спынілася.
Біцца стамілася.
Летам
настала
зіма.

***

Крычыць дзіця, народжанае толькі.
І потым — дзень і ноч — крычыць,
Не хоча нежыцем адразу быць,
Змагаецца за месца на Зямлі.
Пад Сонцам.

Адкуль жа сіла у такой малечы —
Безабароннай, чыстай — да жыцця?!
Зямны свой шлях прайсці
яно *так* хоча!
Дык дай жа Бог яму перамагчы.
Крычы, вястун, крычы!..

***

Снежань без снегу.
Рэсквась і морак.
Горад не горад —
Прайсці няма як.

Людзі сумуюць,
Людзі хварэюць,
Красак і сонца
Просіць душа.

Маміну хустку
На плечы накіну,
Вып'ю гарбаты
І кніжку вазьму.

Тут мне і сонца,
Тут мне і зімы,
Тут мне і краскі,
Тут і душа.

## Рабінка

Нечакана рабінку між тлуму прыкмеціла,
У здзіўленні застыла прад ёю.
А яна прыгажосцю нязвыклай прывеціла,
Сарамліва звесіўшы голле.

Хто ж пагнуў, пакруціў твае голькі стромкія,
У тугія вузлы пазавязваў?
І за што несла здзекі няўмольна-горкія,
І цнатлівую постаць страціла?

Не сумуй жа, рабінка, сятрыца родная,
Ты такая адна — непадробная.
Ты здзіўляеш, натхняеш, прыцягваеш вока,
І душы адзінокай — не так адзінока.

## Ліст да Жэні Янішчыц

Дзень добры,
шчыры сябра мой,
са светлаю душой
і сэрцайкам чуллівым!
Пішу табе ў нябыт
з удзячнасцю за дабрыню,
за радасць стрэч
і за паэзію,
што свеціць нам і сёння.
Душа твая
праз верш са мной гамоніць
і новым сэнсам адкрываецца.
І голас твой
крыляе над зямлёю
птушкай вольнай,
якую прыручыць ніхто не змог.
Я веру — ты мяне пачуеш.
Паклон прымі ад нас
і грэшным нам даруй!
Даруй...
 Даруй...
  Даруй...

***

Хай Зямля зелянее заўжды,
Толькі б не стала Чорнай.
Папярэджаннем ад бяды —
Пропаведзь Нагорная.

Хай ад сонца Зямля залачае,
Хай увосень гарыць ад лістоты,
Не спазнаеш ніколі адчаю,
Усвядоміўшы — хто ёсць ты.

І хай будзе бялюткай зямля,
Чысціню хай нясе, а не згубу.
Роза Міру распусціцца для
Усяго паспалітага люду.

***

Урэшце рэшт прыйшла зіма.
Мароз трашчыць, цалуе шчокі.
Бялюткай коўдраю зямля
Укрылася. Вісяць аблокі.

Іду бадзёра, снег рыпіць,
Сваволіць вецер, абдымае,
І хочацца на свеце жыць,
Але...
Нажніцы Атрапас трымае.

***

Бяссонне сон цікуе мой —
Са сном бяссонне не сябруе,
Бяссонне коршунам над сном —
Застыла над ахвяраю, пільнуе.

І неразлучны сон з бяссоннем,
Як свет і цемра, дабро і зло.
Усё ж стамілася бяссонне.
І прыплывае човен-сон.

***

— Як жывеш, чалавеча?
— Жыву, як жывецца.

— Чым жывеш, чалавеча?
— Тым, што Богам даецца.

— Аб чым думкі твае?
— Аб унуках і дзецях.

— А сабе? Аб чым дбаеш сабе?
— Каб на гэтым пажыць яшчэ свеце.

— Ці шкадуеш аб чым? Шлях нялёгкім бывае.
— Ні аб чым не шкадую. Па заслугах мы маем.



# Васіль Зуёнак

паэт, перакладчык, крытык. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг паэзіі: «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

# Рэха сноў..

## Вераснёўская вестка

Зямля яшчэ днём жнівеньскім сагрэта,
А ноч асеннім халадком сваволіць.
Сцяжынкі ў двор вяртаюцца са свету,
І далягляд стаў блізкім наваколлем.
Прыносіць раніца сарочыя сакрэты —
Без іх бы не дазнаўся я ніколі! —
Што спадчыну ўсім шчодра дорыць лета:
Вятрам для посвісту — струн трапяткое голле,
Нябёсам — выраяў расстайных сілуэты,
А мне — палёў азімых шыр і волю...

## Магнаты пушчанскіх замкаў

Магнаты пушчанскіх замкаў,
Магніты блуканняў маіх,
Гукальных, шукальных ранкаў
Па нетрах, дзе неруш прыціх...

Згінаюцца спіны, як дугі:
Да вас з паклонам любы, —
Мы вашы лясныя слугі,
Мы вашы рабы, грыбы!..

Мы вас на руках носім —
Каму яшчэ гонар такі?!—
Сядайце ў кошыкі —
Просім! —
Магнаты-баравікі!..

## Змагарнасць

Так Бог скіраваў жыцця паром:
Не выдаў яму планіду байцоў.
Ды шлях каб не стаўся марным,
Сказаў: як не будзе ён змагаром —
Хай стане мудрэйшым паміж мудрацоў,—
І ў гэтым яго змагарнасць.

***

Паэзія... Лёс ці падман,
Надзея ці голас адчаю?..
Не знаю, які ёй талан
Будучыня абяцае.

Ды з гэтага свету мяне
Не выкрасліць сіла зямная,
Бо як жа яна абміне
Тое, што з небам я маю?..

***

Замнога
            па зямной прапісцы
Зямнога
            лёс не сыпане:
Адной нагою —
             у калысцы,
Другой нагою —
             у труне...

***

Шлях закончу, сыду, адлячу,
Растваруся ў сусветнай душы.
Ды шкада: не за ўсё адплачу,
Чым паспеў на зямлі награшыць.

Буду там я ні свой, ні чужы,
І якая адзначыць вяха,
Што якісьці калісьці я жыў,
Што я дзесьці кагосьці кахаў...

***

І жар-птушку
                  шэраю качкай
Зробіць час...
                 А ўсё ж — пазаві:
— Ах ты вутачка-пераплывачка,
З таго берага пераплыві!..

## Напэўна, знае

Едзе, песні раздае
Паплавам і нівам,
Раздае, хоць не свае,
Раздае, — шчаслівы.

Нібы ўвесь аб'ехаў свет —
Весела спявае.
А ўсяго веласіпед
За машыну мае.

Ды яшчэ пятнаццаць год
У яго ў дадатак,
І разгон — нібы палёт,
Ну і сам — крылаты.

Вось і ўсё. Усё спаўна.
А чаму спявае? —
Ёсць дзяўчынка — і яна
Ўсё, напэўна, знае.

## Філалагічнае

Назоўнікі
З нізоў бяруць назоў:
Карэняць корань па-сялянску
Ў глебу,
Каб дзейна акрыляўся дзеяслоў
І словам Боскім
Узлятаў у неба.

Так свет жыве законам неаспрэчным:
Адзінства ў супярэчнасці адвечнай.
Так з гнёздаў вылятаюць птушаняты,
Забыўшыся, хто лёс ім даў крылаты.

## Песенька

Песенька раз-пораз
Ходзіць над ракой.
Не пытай: чый голас,—
Гэта голас мой.

А каго гукае? —
Пэўна ж, не цябе.
Песенька такая:
Для самой сябе.

Песенька не ў стане
Знаць: ці так, ці не,—
Бо ў маё каханне
Верыць без мяне.

## Ноч пасля «тысчы і адной»

*Арабскі матыў*

Рабіна, рабыня вятроў, арабінка,
Арабінка, ярасць арабскай крыві,
Ягадка райская — шроту драбінка
Ў сэрца юначае, — з тым і жыві...

## Растанне

Сказала ціха: «Бог з табой...» —
І больш ні слова, больш нічога...
Як быццам смутак свой і боль
Перадала другому богу...

## Вяртанне

Вяртаецца ўлада грошай —
На троне зноў валадарыць:
Няважна — Рубельвій панчошны
Ці з сейфа крутога Далярый.

Бабулькай запасы куюцца:
Ашчадзіць на дзень той чорны, —
Каб хоць пахавалі па-людску,
Інакш — хоць жыві паўторна...

А злодзей рахуе мільярды,
Каб заўтра ўшчаміцца ў эліту,
Глядзіць на мяне з пагардай:
—Шабаш! Твая карта біта!..

І я ўвачавідкі сёння
Пабачыў — не, мне не здалося! —
Слова маё ў прадонні
Мутнай вадой залілося...

Што слова! — калі наогул
Мастацтва спраўляе дакоскі
І моліцца бізнэсбогу,
А не Венеры Мілоскай.

Цячэ серыйнае пойла —
Карміцеся, людцы, з экрана.
Чытва — як пітва: ля стойла
Ў кармушцы раман за раманам.

І ўсё па адным лякале,
Па чарцяжы латарэйным:
Ці творцы куш адшукалі,
Ці сам ён бяжыць напярэймы?..

Як з пекла, шоў-бізнэсу клікі —
«Фанера» смыліць пад катламі:
Бязбожна спапселі музыкі
Ў гандлёва-тусовачнай краме...

Мяняецца светабудова —
Падмурак прадажны кладзецца...
А што мне рабіць са словам,
Якое не прадаецца?..

## Да самага донца...

Смакуй юнацтва гады
На зайздрасць каргі сустрэчнае,
А грошы лічы тады,
Калі лічыць ужо нечага...

## Пакуты «інтэлекта»

Асёл, аматар рэбусаў
І віктарын сур'ёзных,

Глядзіць на людства грэбліва
І думае цвяроза:
Лепш мазгаваць з напругаю,
Чым воз цягнуць упарта.
Хай б'е кіроўца пугаю—
А разгадаць жа варта!..

## Выбачэнне

Даруйце мне, горы, даруйце мне, моры,—
Напэўна, і вас бы я ўсё ж палюбіў,
Калі б не было ў паднябеснай пpасторы
Лясоў паднябесных і сонечных ніў.

## Маё адкрыццё

Вось так бывае:
Не знаў, бо не думаў, —
А гэта ўжо ўсім
Даўно вядома —
Як запісана на скрыжалях
(Не раўнуючы, калі жонка падгуляла з другім:
Смяюцца ўсе, а мужык, як сляпы,
Нічога не заўважае)...

Таму —
Пасмейцеся
Альбо павіншуйце мяне
(Можна нават з прэміяй Нобеля) —
Ніколі не думаў,
Што ў воку тое ж самае знайду, што і ў вакне:
Вакну і воку —
Каб глядзець у свет —
З аднаго кораня нарадзіцца собіла.

І вось гэту самую тоеснасць я,
Філолаг,
Толькі ў семдзясят год
(Таму й смейцеся!..)
Раптам змог раскумекаць, —
Як быццам са словам у мяне

З году ў год недарод,
Ці ўжо гэтакі ў філалогіі
Я няўмека,
А то й калека...

Як хочаце думайце —
Па вуголлі пайду басанож,
А згаджацца не мушу з такой атэстацыяй...
Але:
«Вока — вакно» — і як гэта ўсё ж
Не мог я ўлавіць іх крэўнасць?..
От і займеў —
У семдзясят год —
Сенсацыю!..

***

Далоні мусульманін адкрывае
Нябёсам і з малітвай «О Алах,
Пашлі мне на зямлю куточак раю...» —
Адольваць зноў ідзе пустэльны шлях...

Мне б веру гэткую і гэткую надзею...
Працягваю далоні, а на іх
Снег падае, і рукі халадзеюць,
І глухне ў небе рэха сноў маіх...

***

Даецца ноч вам для пахмурных сноў,
Цяжкіх, задушлівых і потных,
А мне — для зорных дум і для высноў —
Сяброўак азарэнняў тайналётных.

Я ноччу з небам гутарку вяду,
Бо днём яно павек таго не скажа,
Што чую там, калі між зор іду,
І што па-боску мне на сэрца ляжа.

Зямных турбот шануючы мяжу,
Не здраднік ёй, — таварышую з небам
І небу службу зорную служу, —
Хоць і паспаць, напэўна ж, ноччу трэба!..

## Шахматна-фартэп'янны эцюд

*Згадка-каментар (2011г.) да кнігі майстра спорту Абрама Якаўлевіча Ройзмана «Шахматныя дуэлі» з дароўным пажаданнем: «Васілю Зуёнку — поспехаў, у тым ліку і за шахматнай дошкай... 1976 г.»*

Такое б сёння на ўвесь свет
Назвалі шоў прыкольным:
Музычна-шахматны дуэт
Даваў канцэрт гастрольны.

«Брук і Тайманаў»... І раяль...
І фартэп'янны бісер...
А зала — мёртвая амаль:
Ні воплескаў, ні «бісаў»...

І я там быў, — не без прычын.
І я маўчаў таксама,
Бо меў намер перамагчы
Я Ройзмана Абрама.

Ды апроч Ройзмана і шоў
Быў з іншым я сакрэтам:
Мне хоць бы так, як Куляшоў,
Згуляць... (Ды стаць паэтам!..)

Абрам жа, шахматны кумір
І выпускнік фізмата,
І знаць не знаў пра мой «клавір» —
Даваць за матам мата.

Не знаў, што ў гэты вечар быў
Я з шахматнай элітай,
Дзе зал запоўнілі рабы
Тайманаўскай арбіты.

І кожны думкаю лунаў,
Ды не ў музычных сферах,
А караля ў аблогу браў
Тайманаўскім манерам.

Таму і воплескаў не шмат
Было, — як на турніры,
Дзе моўчкі ўсе стаўлялі мат
Славутаму куміру.

Прабач жа, музыка, калі
Быць не магло іначай:
Не Брук паслухаць мы прыйшлі —
Тайманава пабачыць!

## Патрэба

Якія б ні былі эпохі,
Патрэбны людзям скамарохі:
Схавацца хочацца за смех,
Калі ў душу ўпаўзае грэх...

## Аловак

Аловак, нібы паплавок:
Ці клюне, ці адкіне?
То раптам тарганецца ўбок,
То дасць нырца ў глыбіні.

А хто там — плотка ці акунь —
Мне абяцае ўдачу?.. —
І што мне ўрэшце, дзіваку, —
Сяджу вось і рыбачу...

А побач — не рагоча ледзь
Камп'ютар на ўвесь сервер
І ў сэнсы закідае сецць,
Як акіянскі сейнер.

Канешне, гарантуе ўлоў —
Не тое, што з алоўкам:
Умомант з ім бы намалоў
Я вершаў... Ды нялоўка —

Нялоўка здраджваць сябруку —
Рыбачым з ім, не тужым:

Як блісне штосьці на кручку —
Во радуецца дружа!

Усё ў руку з ім, і ямчэй
Усякай ён прынады.
Што ж, тралам бы лавіць лягчэй,
Але ж — ці тая радасць?!.

## Лета дзякуе сонцу...

Спачатку пайшлі суніцы,
Гнуткія ў паясніцы,
За імі: «Выпростайце спіны!» —
Салодзяць вусны маліны,
А позіркам усявышнім
Завуць у нябёсы вішні...

А там падаспеюць чарніцы,
А іх падчырвоняць брусніцы...

О лета!..

Лета, поўнае соку —
Лета дзякуе сонцу.

## Нязбытнае

У плыні часу рыфматрантамі
Пляскоча Нобеля быстра, —
І паміраем намінантамі
Ў святога брамніка Пятра...

***

Надзея: асенняе голле,
Чаканне: падман скразны,
Зарука: пустое поле
Вясною — без баразны...

Не мной — і не сёння — накрэслена:
І што, і дзе, і калі,—
Нябыт: нябёсам — нябеснае,
Жыццё: зямное — зямлі.



Ігар Свянціцкі. «Фатаграфія дзеда», 2017



# Сяргей Белаяр

празаік. Друкаваўся ў часопісах «Верасень» і «Маладосць», тыднёвіку «ЛіМ», альманаху «Своя стихия». Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Брэсце. Жыве ў Брэсце.

# Барацьба за выжыванне

Інтэрком нагадаў пра сябе, калі прафесар Марголенка праводзіў эксперымент па звышцякучасці гелія-3. Першыя два выклікі фізік, у думках лаючыся, праігнараваў, на трэці яго цярпенне лопнула.

— Катэгарычна немагчыма працаваць у такіх умовах!.. Прафесар Марголенка. Гаварыце!

— Эдуард Валянцінавіч, калі ласка, зайдзіце да мяне! — запатрабаваў начальнік міжнароднай навуковай станцыі «Месяц-XIII» Трыгуб.

— А гэта не можа пачакаць? — Фізік і не думаў хаваць свайго раздражнення. — Я наогул вельмі моцна заняты, Уладзіслаў Казіміравіч, і не маю ніякага жадання перарываць працу. Мы вось-вось наблізімся да разгадкі!

— Хай працягнуць лабаранты! — Інтанацыя Трыгуба паказвала на тое, што спрачацца з ім дарэмна.

— Зараз буду! — Марголенка з велізарнай цяжкасцю ўтрымаўся ад спакусы пляснуць па інтэркоме кулаком. — І пра якую станоўчую дынаміку ў даследаваннях можа ісці гаворка?

Пакінуўшы за сябе загадчыка лабараторыі, прафесар выйшаў з індывідуальнага рабочага бокса, каб праз тры хвіліны пастукаць у дзверы кабінета начальніка станцыі і, не чакаючы дазволу, увайсці, з парога кінуць:

— Уладзіслаў Казіміравіч, я заяўляю рашучы пратэст! Вы патрабуеце ад мяне хутчэйшы вынік, а самі тармазіце эмпірычны працэс!.. Зрабіце ласку назваць прычыну!

— Вам бы варта было зменшыць абароты, спадар прафесар!

— А вы хто такі? — Рэзка павярнуўшыся, фізік спапяліў незнаёмца позіркам. Нічым непрыкметная знешнасць, някідкае адзенне, голас, які не запамінаецца.

— Дазвольце прадставіцца: камісар паліцыі Свен Еркін. — У руцэ паліцэйскага з'явілася адкрытае пасведчанне са значком.

— Божа, ды колькі ж можна? — узняў рукі да неба Марголенка. — Я распавёў вашым следчым усё, што ведаў пра смерць акадэміка Харлакевіча! Мне больш няма чаго дадаць!

— Так ужо і няма?

— Вы ставіце пад сумнеў праўдзівасць маіх слоў? — нахмурыўся фізік, павольна закіпаючы ад гневу: чарговы бессэнсоўны допыт. Расходаванне нерваў і каштоўнага часу. І чаму ўсе паліцэйскія такія нудныя?

— Суд прыме да ўвагі ваша чыстасардэчнае прызнанне, спадар прафесар. У вас ёсць шанс пазбегнуць вышэйшай меры пакарання.

— Што за трызненне вы несяце, спадар Еркін?.. Якое яшчэ чыстасардэчнае прызнанне? — Менш за ўсё фізік быў настроены на працяг размовы ў падобным ключы. — Якая вышэйшая мера?

— Прызнанне ў тым, што гэта вы забілі акадэміка Харлакевіча і інжынера-геолага Лаўду.

— Што? — Вочы Марголенкі акругліліся. Паўза зацягнулася на некалькі імгненняў, затым прафесар выбухнуў: — Ды як вы можаце?.. Вітольд Вайцэхавіч загінуў у выніку няшчаснага выпадку!

— Паліцыя мае доказы таго, што гэта было забойства. Разлічанае, стрыманае, жорсткае забойства.

— Але пры чым тут я?

— Гэта вы забілі Харлакевіча і Лаўду, спадар прафесар!

— Гэта проста абуральна! Ваша абвінавачванне настолькі недарэчнае, што я нават не буду яго каментаваць! — Марголенка выказаў намер выйсці, аднак інспектар стаў у яго на шляху. — Зараз жа прапусціце мяне!

— Мой абавязак — затрымаць злачынцу, спадар прафесар! — Камплекцыя Еркіна не дазваляла проста адсунуць яго ў бок. Пінжак відавочна хаваў зброю.

— Уладзіслаў Казіміравіч, я патрабую, каб вы неадкладна спынілі гэты фарс! Я ні ў чым не вінаваты!

Насуперак чаканням, начальнік станцыі не стаў на бок фізіка. Наадварот — рушыў услед грозны вокрык:

— Сядзьце, Эдуард Валянцінавіч!

Марголенка падумаў, быццам недачуў, але каменны твар Трыгуба лепш за ўсякія словы пераконваў у адваротным.

— Гэта ўвогуле ні ў якія вароты не лезе! Спачатку абсурдныя і нахабныя інсінуацыі, а цяпер яшчэ і беспардоннае стаўленне!.. Я не дазволю абыходзіцца падобным чынам з прафесарам! Я буду скардзіцца!

— Сядзьце! — Далонь начальніка станцыі цяжка апусцілася на стальніцу, прымусіўшы падскочыць пластыкавую шклянку з алоўкамі. — Вашы рэгаліі вас не абароняць, Эдуард Валянцінавіч!

— Падпарадкоўваюся дыктату! — Марголенка апусціўся ў крэсла і прыняў максімальна незалежную позу.

— Не трэба адлюстроўваць абражаную нявіннасць, спадар прафесар! Ваша віна не выклікае ў паліцыі сумневаў.

— У такім выпадку, падзяліцеся вашымі доказамі!

— Калі ласка!.. Матыў здзейсненага вамі злачынства — банальная зайздрасць. Вы не маглі спакойна прымаць кар'ерны і навуковы рост акадэміка Харлакевіча, бо на яго фоне выглядалі пасрэднасцю.

— Глупства! Каэфіцыент інтэлекту Вітольда Вайцэхавіча, вядома, быў некалькі вышэй за мой, але гэта зусім не азначае, што я павінен зайздросціць акадэміку Харлакевічу! І, ужо тым больш, забіваць калегу!

— Калі б вы ведалі, спадар прафесар, на што толькі не штурхае людзей зайздрасць. У маёй практыцы поўным-поўна выпадкаў, калі забойства здзяйснялася па самых нікчэмных прычынах. Чалавечая прырода, на жаль, недас-

каналая. Часам падсвядомасць выпускае на волю такіх хімер, што стыне ў жылах кроў і ў бывалых аператыўнікаў...

— Я не збіраюся выслухоўваць байкі, спадар Еркін! Калі вы маеце доказы маёй віны, прад'явіце іх!

— Пляскаю ў ладкі вашаму сцэнічнаму майстэрству, спадар прафесар!.. Турэмны тэатральны гурток будзе невымоўна рады займець вас! Сапраўдны талент!

— Спадар Еркін! — Фізік прыўзняўся, згараючы ад жадання пакараць нахабнага інспектара.

— Шчыра прашу мяне прабачыць, Уладзіслаў Казіміравіч! Заўсёды цікава назіраць за рэакцыяй злачынцы: гульня бывае вышэй за ўсялякія пахвалы!.. На пенсіі я, мабыць, напішу манаграфію па гэтым пытанні... Як я ўжо сказаў, матывам забойства з'яўляецца зайздрасць — спадар Марголенка вельмі балюча ўспрымаў любы поспех таварыша. Саломінкай, якая зламала спіну вярблюда, стала прызначэнне Харлакевіча кіраўніком праекта па здабычы гелія-3. Вы ж да гэтага так і не прапанавалі спосаб атрымання квантавай вадкасці ў прамысловых маштабах, спадар прафесар?

— Усё не так проста, як вам здаецца! Працэс занадта навукаёмісты!

— Можа быць, адназначна сцвярджаць не вазьмуся, я не спецыяліст. Аднак два з паловай гады таптання на месцы... Варта было акадэміку Харлакевічу ўзначаліць праект, як справа нарэшце зрушылася з мёртвай кропкі. За кароткі прамежак часу навуковая група дасягнула значных вышынь, пацвярджэннем чаго можа служыць шэраг заахвочванняў з боку кіраўніцтва Міністэрства энергетыкі.

— Вітольд Вайцэхавіч атрымаў нашмат большае фінансаванне і перспектыўных спецыялістаў!

— Што перашкаджала падаць заяўку вам, Эдуард Валянцінавіч? — напусціўшы ў голас жоўці, пацікавіўся Трыгуб.

— Я пісаў неаднаразова!

— У памяці камп'ютара няма ні адной спасылкі на тое, што вы звярталіся па дапамогу. Паліцыя спецыяльна праверыла.

— Электронныя сістэмы вельмі ненадзейныя. Заяўкі маглі згубіцца ў выніку збою праграмы.

— Дапускаю, — кіўнуў начальнік станцыі, — чаму ж тады вы не сустрэліся са мной асабіста, Эдуард Валянцінавіч?

— Я не разумею, Уладзіслаў Казіміравіч, якое наогул гэта мае дачыненне да смерці акадэміка Харлакевіча?.. Нават калі я і не падаваў заяўкі, разлічваючы на свае сілы, гэта аўтаматычна не робіць мяне злачынцам!

— Цалкам дакладна, спадар прафесар! Пра злачынства судзяць па канкрэтных дзеяннях... Вы вырашылі расправіцца з акадэмікам Харлакевічам падчас аднаго з планавых геолагаразведвальных рэйдаў. Як нельга дарэчы прыйшлося тое, што кантрольная кропка размяшчалася ў дзевяноста кіламет-

рах ад станцыі. Непрыкметна пракраўшыся ў ангар, вы замацавалі на корпусе ўсюдыхода «вампір» — армейскі паглынальнік электрычнасці.

— І дзе, па-вашаму, я яго ўзяў, спадар Еркін?.. Бліжэйшая станцыя, калі вы не ў курсе, размяшчаецца ў пяцістах кіламетрах ад «Месяца-трынаццаць»!.. І на ёй, як і на нашай, няма ніякай зброі.

— Пры жаданні схемы прыбора можна знайсці ў інтэрнэце. Галоўнае — ведаць, дзе шукаць! Астатняе ўжо справа тэхнікі — у вас маецца доступ да 3D-прынтара... Да таго часу, як Харлакевіч і Лаўда дасягнулі кантрольнай кропкі, акумулятары ўсюдыхода і скафандраў практычна цалкам апусцелі. А без электрычнасці інтэграваны ў скафандр эндашкілет ёсць не што іншае, як куча металалому.

— Які яшчэ «вампір»?.. Акумулятары разрадзіліся з-за магнітнай буры!

— Вам трэба было б ведаць пра тое, што вайсковыя паглынальнікі самаліквідуюцца, пакідаючы на бране характэрныя сляды. Менавіта з гэтай прычыны яны і не знайшлі шырокага распаўсюджання ў разведвальна-дыверсійных падраздзяленнях... Расколіна ў бакавым лісце экранавання павінна была пераканаць паліцыю ў тым, што прычынай аварыі стала менавіта магнітная бура. Нам яшчэ трэба будзе высветліць, якім чынам гэтая расколіна з'явілася.

— Ваша фантазія, не ведае межаў, спадар Еркін. Толькі з-за павагі да памяці нябожчыка, я выслухваю ваш спіч!

— Для падстрахоўкі вы сапсавалі сістэму падачы кіслароду. Харлакевіч не павінен быў дайсці да «Месяца-трынаццаць» ні пры якім раскладзе. Лаўда аказаўся непатрэбным сведкам... Недахоп дыхальнай сумесі разам з цяжкай фізічнай нагрузкай — балоны апусцелі ў некалькіх кіламетрах ад станцыі. З-за блакатара радыёчастот, уключанага вамі, Харлакевіч і Лаўда не мелі магчымасці папрасіць аб дапамозе.

— Схему блакатара я таксама запампаваў з інтэрнэта?

— Не нарадзіўся яшчэ такі злачынец, які б не пакідаў ніякіх слядоў. Вы старанна вычысцілі журнал наведвання інтэрнэта, але цалкам выдаліць сведчанні вашага знаходжання на спецыялізаваным сайце не змаглі. Вы, спадар прафесар, выбралі далёка не самы лепшы проксі-сервер: нам усё ж удалося аднавіць IP-адрас, з якога прайшоў запыт... Паклапаціліся вы і пра тое, каб Харлакевіч і Лаўда не змаглі скарыстацца аварыйным сігнальным наборам. Вы падмянілі яго на набор са скончаным тэрмінам ужывання. Ніякай рызыкі — акадэмік Харлакевіч ва ўсім, што тычылася тэхнікі, спадзяваўся на абслугоўваючы персанал, а Лаўда не меў звычкі правяраць усё двойчы.

Марголенка запляскаў у ладкі і сказаў:

— Дастаткова, спадар Еркін! Вы не можаце не ведаць, што ў мяне ёсць жалезнае алібі. У дзень, калі загінуў Вітольд Вайцэхавіч, я не выходзіў з лабараторнага бокса.

— З дапамогай галаграфічных праектараў людзей можна пераканаць у чым заўгодна. Тым больш людзей, занятых працай. Відэакамеры падмануць яшчэ прасцей...

— Шчыра дзякуй вам за лісlівасць, спадар Еркін, але звання тэхнічнага генія я не заслугоўваю. Адукацыя ў мяне іншая.

Інспектар ніколькі не збянтэжыўся:

— Галіны сумежныя, спадар прафесар. Менавіта ваша адукацыя і дазваляе вам без праблем прарабіць усё вышэйпералічанае.

— Я ж магу падаць на вас у суд за паклёп: следствам устаноўлена, што гэта быў няшчасны выпадак!

— Нават прафесіяналы экстра-класа часам здзяйсняюць памылкі. Асабліва, калі злачынец з'яўляецца выдатнай асобай.

— Вы ж самі сказалі, што я — пасрэднасць!

— Шэрасць у прыкладной навуцы. А вось у планаванні і здзяйсненні злачынства... Не ўсякі мацёры крымінальнік здолеў бы пракруціць такую справу!

— Сумнеўны камплімент! — фыркнуў Марголенка.

— Ужо які заслужылі, спадар прафесар!

— Ваша казка забаўная і не пазбаўленая логікі. Але я ніяк не магу скеміць, што ж магло мяне выдаць?

— Скрупулёзнасць нашага архіварыюса. Кібернетычны арганізм са штучным інтэлектам ніколі не прымае справу ў архіў, не пераканаўшыся ў тым, што нічога не забыта. Эксперыментальная мадэль... Не маю паняцця, што магло яго насцярожыць, аднак справу ён вярнуў на даследаванне. І даручылі яе мне... Я рупліва вывучыў матэрыялы, але не выявіў ніякіх зачэпак. Тады я вырашыў навесці сякія-такія даведкі. Высвятлілася адна вельмі цікавая дэталь...

Еркін вытрымаў паўзу.

— Пасля смерці акадэміка Харлакевіча ход работ запаволіўся настолькі, што больш дарэчным было б казаць пра іх поўнае спыненне. А ў вашым распараджэнні знаходзіліся і напрацоўкі акадэміка Харлакевіча, і калектыў навукоўцаў. Так, Уладзіслаў Казіміравіч?

— Так.

— Гэта прымусіла мяне западозрыць вас, спадар прафесар, у некампетэнтнасці. Ні ў маіх правілах кідацца словамі, таму я старанна рэвізаваў ваш уклад. Аказалася, што ні адна з вашых прапаноў рэальнай карысці не нясе.

— Ну ведаеце, спадар Еркін... — фізік больш не ўскокваў і не крычаў, а надзеў маску гідлівасці, змяшаную з нянавісцю.

— Прарывы ў даследаваннях — вынік дзейнасці акадэміка Харлакевіча!

— Уладзіслаў Казіміравіч, як доўга яшчэ вы будзеце дазваляць інспектару Еркіну здзекавацца з мяне?.. Страта Вітольда Вайцэхавіча стала для мяне ударам! Мы былі сябрамі!

— Не надакучыла, спадар прафесар? — Упартасць фізіка пачынала раздражняць. Марголенка слухаў, але не чуў. — Я пайшоў вам насустрач, а вы...

— А што я? Павінен прызнацца ў тым, чаго не здзяйсняў?.. Ну ўжо не! Зорачку на пагоны за мой кошт вы не атрымаеце!

— Хочаце скончыць свае дні ў камеры смяротнікаў, спадар прафесар?.. Што ж, выбар ваш!

— Я прашу як мага хутчэй прадставіць мне магчымасць звязацца з Зямлёй, Уладзіслаў Казіміравіч! Інспектар яўна неадэкватны!

— Спыніце гэты балаган, Эдуард Валянцінавіч! — за апошнія трыццаць хвілін начальнік станцыі пастарэў на добры дзясятак гадоў. — Майце ж смеласць прызнаць сваю віну!

Паўза расцягнулася да вечнасці.

— Вы маеце рацыю, Уладзіслаў Казіміравіч!.. Эх, калі б я меў магчымасць вярнуць усё назад... Паперу!

Начальнік станцыі выціснуў з сябе слабое падабенства ўсмешкі, інспектар жа заставаўся напагатове.

Марголенка сунуў руку ў кішэню, аднак зусім не для таго, каб дастаць ручку. Квантавы ангілятар Еркін пазнаў адразу. І паспеў прыняць меры бяспекі.

— Гэта не чалавек! — ахнуў начальнік станцыі, калі інспектар сцягнуў скураную балаклаву з галавы Марголенкі.

— Як і я, спадар Трыгуб! З той толькі розніцай, што мы не лічым гома сапіенс канкурэнтамі!

# Крама

З сэрцам гатовым вырвацца з грудзей Лянвоіт Сяленя пракруціў у замку ключ і паспяшаўся вярнуцца за касу.

Ніхто не ўвайшоў.

— Дзіўна! — Лянвоіт Сяленя зірнуў на гадзіннік — адна хвіліна на дзявятую. Пакупнікі павінны ламіцца ўнутр. — Можа, гадзіннік спяшаецца?.. Ды не, насценны паказвае той жа час!

Хвіліну змяніла другая. Званочак маўчаў.

— Не можа быць! — Лянвоіт Сяленя падышоў да дзвярэй. Не зачыненыя. Звонку нікога не аказалася. — Я ж даў рэкламу яшчэ месяц таму!

Рэкламная кампанія была маштабнай. Лянвоіт Сяленя не паскупіўся. Ведаў, што ўкладзеныя сродкі акупяцца з лішкам.

— І дзе ўсе?.. Вядома ж! Ранні час, выходны! — Ведаючы, што не зможа ўседзець на месцы, Лянвоіт Сяленя вырашыў заняцца выкладкай, хоць неабходнасць у навядзенні на паліцах парадку адсутнічала. Скончыўшы, апусціўся ў крэсла і ўтаропіўся позіркам у дзверы.

Ні праз паўгадзіны, ні праз гадзіну пакупнікі не з'явіліся.

— Нічога не разумею! — Лянвоіт Сяленя ўскочыў і пачаў мераць крокамі краму.

Прайшла яшчэ гадзіна.

— У чым жа справа?.. Канкурэнтаў у мяне няма, асартымент найбагацейшы, кошты нізкія, тавар першай неабходнасці... Я думаў, будзе чарга!

Вуліца была пустая.

— Містыка нейкая! — Лянвоіт Сяленя прастаяў на ганку з чвэрць гадзіны. За гэты час ні адзін чалавек нават проста не прайшоў міма. — Такога не можа быць!

Каб супакоіцца, Лянвоіт Сяленя выпіў пяцьдзясят кропель экстракту валяр'яны. Праз гадзіну давялося паўтарыць.

— Нікога... Наступіў Апакаліпсіс ці што?

Ні чумы, ні вайны, ні прыроднай або тэхнагеннай катастрофы — Лянвоіт Сяленя спецыяльна дачакаўся выпуску навін. Горад жыў звычайным жыццём.

— Што ж здарылася?

Раптам увагу Лянвоіта Сялені прыцягнула гучная музыка. Выйшаўшы на вуліцу, ён дайшоў да перакрыжавання, дзе ўбачыў людзей, якія беглі.

— Скажыце, што адбываецца?

— Акцыя! Апошнія мадэлі смартфонаў са зніжкай! Увесь горад там!

Па шчоках Лянвоіта Сяленя пацяклі слёзы.

— Падумаць толькі — людзям даступная ўся мудрасць свету, а яны выбралі нейкія дурныя тэлефоны!

*6 ліпеня 2014 г.*

# Мацярынскі цяжар

Ля дзвярэй прыёмна-абменнага пункта ляніва пераціралі жавальныя гумкі два шафападобных ахоўнікі. З'яўленне адзінокай маладой жанчыны выклікала ў мужчын часовую цікавасць, а затым іх погляды зноў страцілі асэнсаванасць.

Няжана Судзіславіна паднялася на дваццаты паверх суперсучаснага будынка, дзе размяшчаўся офіс Адміністратара, і з парога кінула:

— Я хачу забраць сваё дзіця!

Гуманоід, у якім адрозненняў ад чалавека было больш, чым падабенства, нахмурыўся і сказаў:

— Гэта немагчыма!

— Я перадумала, — забірайце ваша барахло і вярніце мне дачку!

Адміністратар змерыў Няжану Судзіславіну пагардлівым позіркам, пасля чаго жорстка запатрабаваў:

— Імя і прозвішча!

— Няжана Судзіславіна.

— Дзень заключэння Дамовы?

— Пятае красавіка дзве тысячы васьмідзясятага года.

Гуманоід забарабаніў дванаццаццю пальцамі па клавіятуры. Праз некалькі імгненняў перад ім матэрыялізавалася тыпавая дамова.

— Ваш подпіс?.. Ваш! Згодна з Дамовай, вы добраахвотна перадалі нам Герду Судзіславіну ў абмен на матэрыяльныя даброты. Фармулёўка — «хранічная стомленасць ад дзіцяці, адсутнасць магчымасці паўнавартаснага выхавання і жаданне жыць дзеля сябе». Вы пісалі?

— Я! — з болем у сэрцы, прызналася Няжана Судзіславіна. Адмаўляць відавочнае было неразумна.

— Вы падпісалі Дамову без нейкага прымусу?

— Без!

— У адпаведнасці з заканадаўствам Зямлі?

— Так!

— Дык чаго ж яшчэ вы хочаце?.. Мацярынства было для вас цяжарам, і мы пазбавілі вас ад гэтай праблемы, дадаткова даўшы магчымасць задаволіць усе вашыя патрэбы!

— Ну навошта вам дзеці? Няжана Судзіславіна была блізкая да адчаю.

— У адрозненне ад людской расы, дзеці для нас даражэй за рэчы і больш каштоўныя, чым уласнае жыццё! Мы думаем пра будучыню!

— Калі ласка!

— Ваша раскаянне запозненае — думаць трэба было раней!.. І можаце не станавіцца на калені — Дамова зваротнай сілы не мае!

# Трынаццаць біткоінаў

Метэарыт ударыў у касмічны карабель на трэція суткі пасля таго, як «Ціха дэ Браге» завіс на арбіце Няптуна. Удар быў такой сілы, што корпус не вытрымаў і пачаў развальвацца.

Борт-інжынер Цім Багушэвіч адшпіліў прывязныя рамяні і пабег да аварыйна-выратавальнага модуля. Сэрца ірвалася з грудзей, а ў галаве пульсавала адна-адзіная думка: «Выратавацца!». «Ціха дэ Браге» ўздрыгваў ад мікравыбухаў.

Нырнуўшы ў герметычную капсулу, Цім Багушэвіч замкнуўся і пачаў паспешліва апранаць скафандр. Толькі бразнуўшы дзверцамі сістэмы жыццезабеспячэння, касманаўт адчуў сябе ў бяспецы. Радасць была заўчаснай — катапульта не спрацавала, і адсек працягнуў падзенне на планету.

— Я не хачу паміраць! — Цім Багушэвіч раз за разам націскаў на кнопку, аднак усё безвынікова. Касманаўтам авалодала паніка.

— Ты чаго крычыш?

Цім Багушэвіч падавіўся крыкам — перад ім вырас хударлявы стары з доўгай барадой, апрануты ў скафандр старога ўзору.

— Падаю...

— А жыць хочацца?.. Магу выратаваць! Але не бясплатна!

— Прасі ўсё, што хочаш!

— Аддасі мне рэч, якая каштуе трынаццаць біткоінаў!

— Усяго трынаццаць?

— Мне шмат не трэба!

— Бяры, толькі дапамажы! Хутчэй!

— Распішыся!.. Добра! — стары сунуў скручаны ў трубачку аркуш за пазуху. — Прыйду праз пяць гадоў!

Модуль выкінула з адсека, а затым уключыліся рухавікі. Ачухаўся Цім Багушэвіч ужо ў адкрытым космасе.

Ратавальнікі прыбылі праз паўтара месяцы. Касманаўт ні словам не абмовіўся пра старога, спісаўшы тое, што адбылося, на шок.

А яшчэ праз паўгода ўспамін адышоў у нябыт.

Стары вярнуўся роўна праз пяць гадоў, падчас ранішняй прабежкі.

— Вось і я! За доўгам!

Цім Багушэвіч страсянуў галавой, але стары нікуды не дзеўся.

— Можаш нават памацаць мяне — я такі ж сапраўдны, як і ты!

— Дык...

— Адкуль я ўзяўся?.. Ёсць у мяне свае сакрэты!.. Гатовы расплаціцца?

— Можаш забіраць — на трынаццаць біткоінаў не збяднею!

— Прыемна мець справу з людзьмі — вы такія наіўныя!.. Я забіраю твайго сына!

— Стой, мы так не дамаўляліся!

— Няўжо? — стары дастаў скрутак. — Я, Цім Багушэвіч, аддаю за выратаванне свайго жыцця рэч коштам трынаццаць біткоінаў!.. Твой подпіс?

— Дзіця — не рэч!

— Гэта пытанне дэфініцыі!.. Пры цяперашніх коштах усе хімічныя злучэнні, з якіх складаецца чалавек, каштуюць усяго толькі трынаццаць біткоінаў!

# У гасцях у казкі

Нягледзячы на ранні час, слупок тэрмометра ўжо паспеў падняцца да адзнакі ў трыццаць адзін градус па Цэльсію. Над асфальтам дрыжала распаленае паветра, з-за чаго дарога нагадвала бляху, якую сунулі ў агонь.

Цімафей Сцібрак змахнуў рукой пот з ілба і, не зніжаючы хуткасці, прыклаўся да бутэлькі з мінеральнай вадой.

— Цьфу ты, цёплая, зараза!

Гружаны збожжам МАЗ, абганяючы легкавыя аўтамабілі і аўтобусы, прагна глытаў кіламетры. Перад скрыжаваннем Сцібрак павярнуў на грунтавую дарогу — гэта дазваляла зэканоміць дваццаць хвілін, якія за працоўны дзень складваліся ў дадатковы рэйс. Дарога была добра знаёмая, таму Сцібрак не

звяртаў увагі на навакольны пейзаж да таго моманту, пакуль на ёй нечакана не вырас вялізны замшэлы валун.

Сцібрак вылаяўся і рэзка націснуў на тормаз. Грузавік спыніўся ў лічаных сантыметрах ад каменя. Вадзіцель супакоіў грукатаўшае сэрца і вылез з кабіны.

— Прама пойдзеш — жыццё страціш. Направа пойдзеш — без торбы застанешся. А налева пойдзеш — каня загубіш... І адкуль тут гэтая камянюка? — Сцібрак задуменна пачухаў патыліцу, не ў сілах узгадаць нічога падобнага.

— Чаго стаіш, быццам ёлупень?.. Давай, вызначайся хутчэй! — данёсся да вадзіцеля картавы голас, які прымусіў яго прысесці ад спалоху і закруціць галавой. Нікога. — Ды тут я!

На валун са шматвяковай елкі спікіравала варона.

— Сківіцу падбяры, наступіш! — варона села, выцягнуўшы ногі і абапёршыся на крылы. — Гаваркіх птушак ніколі не бачыў ці што?

Сцібрак страсянуў галавой, аднак варона не знікла. Птушка з жывой цікавасцю разглядала чалавека.

— Дзівосная ў цябе кашуля. А нагавіцы — адзін сорам. І лапці дзіўныя... Немец?.. Ты рукі не цягні, а не тое вока выдзяўбу! — вадзіцель паспешліва прыбраў руку. — Гавары як на духу — хто такі?

— Цімафей Сцібрак, вадзіцель СВК «Белавежскі». Вязу збожжа на збожжаток.

— Араты, — зморшчылася варона. — Давай, заварочвай аглоблі, тут дарога толькі для волатаў!

— Мне б на Жарнасекі патрапіць, — выпаліў ашалелы вадзіцель, падазраючы, што сонца згуляла з ім злы жарт.

— Якія яшчэ Жарнасекі?.. Трыдзявятае царства ведаю. Трыдзясятую дзяржаву ведаю. Лукамор'е ведаю... Аб Жарнасеках ніколі не чула!

Сцібрак ушчыкнуў сябе, а затым заплюшчыў вочы, павольна далічыў да дзесяці і зноў расплюшчыў. Варона нікуды не дзелася.

— А я наогул дзе?

— У казачным свеце, — варона пачала корпацца ў торбе, рэмень якой быў перакінуты праз яе плячо.

— У казцы? — Удакладніў вадзіцель.

— Каму казка, а каму — і суровая ява! — адказала варона і выцягнула курыльную люльку, пасля чаго пачала набіваць яе тытунём з капшука. — А ты адкуль сам будзеш?

— З дваццаць першага стагоддзя. Беларусь... Як я цяпер дадому траплю?

— Дасі манету, скажу.

Вадзіцель машынальна паляпаў сябе па кішэнях.

— Няма ў мяне манет. Рублямі возьмеш?

— Ты на якім агародзе нарваў гэтага лісця, араты? — зарагатала варона, зазірнуўшы ў партманэ. — Золата гані. Ці срэбра! Каштоўныя камяні таксама падыдуць!

— У мяне толькі рублі.

— Давядзецца дапамагаць дарма, хаця гэта і супраць маіх перакананняў. Тут недалёка Баба-Яга жыве. Ідзі да яе, — варона паказала крылом кірунак і закурыла, — скажа, як тваю бяду адолець.

— Дзякуй! — Пакідаць казённую маёмасць без нагляду Сцібрак не мог, таму да Бабы-Ягі адправіўся на грузавіку. Прыбыццё атрымалася запамінальным — з хаты на курыных ножках выскачыла старая. Касцяная нага, жалезныя зубы, адвіслыя да каленяў грудзі, заплеценыя ў дрэды валасы. Хоць зараз на галоўную ролю ў фільме жахаў. — Добрай раніцы, бабуля!

— Раніца добрай не бывае! — з хаты ляніва выглянуў адкормлены чорны кот. — Чаго прыпёрся?

— Мне б дарогу дадому адшукаць, — вадзіцель сцісла распавёў пра свае злаключэнні. — Не выканаю плана, старшыня з мяне галаву здыме. Ды яшчэ і прэміі пазбавіць.

— Не збрахала Анжыалета, — кіўнула Баба-Яга. — Ведаю я адказ. Толькі каштаваць гэта табе будзе дорага.

— Інтым не прапаноўваць! — паміж волі вырвалася ў Сцібрака.

— Адолееш агнядышнага дракона Змея Гарыныча, вернешся ў свой СВК. Калі не... Ну на «не» і суда няма.

— Згода!

— Каб перамагчы Змея Гарыныча, спатрэбіцца табе меч-кладзянец. Схаваны ён у зямлі сырой, пад магільнай плітой волата Святагора, і даецца ў рукі толькі такому герою, які можа ім валодаць. Дам табе чароўны клубок пуцяводны — пакажа ён дарогу і да магілы, і да замка дракона.

— А вам якая выгада са смерці Змея Гарыныча?

— Канкурэнт ён мой, — цыкнула зубам Баба-Яга. — І памятай, малойча, чакаюць цябе суровыя выпрабаванні. Як кажуць у вас у будучыні — не «аблажайся»!

На першы погляд, нічога чароўнага ў клубку не мелася, аднак варта было кінуць яго на зямлю, як ён хутка пакаціўся па сцежцы. Сцібрак заскочыў у кабіну, і грузавік ірвануў услед за клубком. Ехаў МАЗ усё спрэс старажытным лесам.

Праз нейкі час сцежка ўперлася ў паляну, пасярод якой узвышалася яблыня. З-за багацця пладоў галіны схіліліся да самай зямлі.

— Дапамажы мне, малойча, — папрасіла яблыня такім умольным голасам, што сэрца Сцібрака аблілося крывёю.

— Чым жа я магу табе дапамагчы?

— А ты з яе яблыкі паабрывай, яна і распрастаецца ў поўны рост! — пракартавіла варона, апускаючыся на кабіну. Пры гэтым торба птушкі загрымела так, быццам у яе напхалі металалому.

Вадзіцель паціснуў плячыма і пачаў зрываць яблыкі. Іх аказалася вельмі шмат.

— Нам бы такую ўраджайнасць у «Белавежскі», — летуценна вымавіў вадзіцель, — адразу б выбіліся ў сусветныя экспарцёры.

— Ты толькі галіны ламаць не пачні, — папярэдзіла варона, — не тое адразу атрымаеш па карку ад Маці — Сырой зямлі!.. Грузі яблыкі на калёсы, прадасі на кірмашы і купіш сабе нармалёвыя нагавіцы. Ды не забудзься — трыццаць працэнтаў ад выручкі — мае.

— А табе за што?

— Ты галавой карыстайся, немец, а не толькі на ёй шапку насі! Гэта ж плата за лагістыку.

Нягледзячы на тое, што Сцібрак нагрузіў яблыкаў у кузаў і насыпаў у кабіну, меншай куча не стала.

— Дзякуй табе, малойча! Ніколі цябе не забуду! Дапамагу, калі спатрэбіцца.

— Чуеш, немец, а кляча твая дзе? — варона двойчы абышла грузавік, зазірнула пад МАЗ і нават забралася ў кабіну.

— Калёсы чароўныя, — пажартаваў вадзіцель. — Рухаюцца самі!

— На чараўніцтве працуюць, — цямліва кіўнула варона і загадала: — Паехалі ўжо! Падкінеш мяне да балота, калі ўжо плаціць за мае бясцэнныя парады табе няма чым. У мяне з Балотнікам «стрэлка».

Лес парадзеў, і весці грузавік стала прасцей. Варона дзяўбла яблыкі і бессаромна кідала грызанікі проста ў прыадчыненае акно.

— І куды ў цябе столькі лезе? — здзівіўся Сцібрак. Жывот птушкі раздзімаўся прама на вачах.

— Вынік цяжкага дзяцінства. Вырасла я ў няпоўнай шматдзетнай сям'і... — варона пусціла слязу. — Направа!

— Дык клубок жа прама коціцца.

— Направа табе кажу!

Праз сто метраў пачыналася балота. Варона забралася на кабіну і, уклаўшы крылы ў дзюбу, гучна засвістала. На свіст з'явіўся натуральны беспрытульны.

— Што сёння прынесла, Анжыалета?

— Сталовае срэбра, — варона высыпала перад Балотнікам змесціва торбы. — Ты, немец, ваўком на мяне не глядзі. Я не злодзей які-небудзь, а сумленная птушка, я скарб на старым цвінтары знайшла.

У абмен Балотнік даў вароне звычайны драўляны грабеньчык. Сцібрак вырашыў не каментаваць здзелку. Насуперак чаканням, варона паехала з вадзіцелем. Неўзабаве лес змяніўся пагоркамі. Клубок пакружыў паміж імі і спыніўся перад прытопленай у зямлю гіганцкай каменнай плітой.

— Гэта і ёсць магіла Святагора! — паведаміла варона. — Прымай пліту, даставай меч!

Пра тое, каб падняць пліту, не магло ісці і гаворкі. Важыла яна не менш за шэсць тон. Вадзіцель дастаў трос і, не без цяжкасці абматаўшы ім пліту, зачапіў за фаркоп. МАЗ без асаблівых высілкаў сарваў пліту.

— А ты — «малаток», немец. Можаш, калі захочаш!

У магіле ляжаў шкілет волата ў кальчузе і вастраверхім шлеме, пры круглым шчыце і мячы.

Важыла зброя нямала. З адсутнасці практыкі Сцібрак хутка задыхаўся.

— Гляджу Белабог здароўем цябе не адарыў. І як ты са Змеем Гарынычам біцца будзеш? Заламае ж!

— Гэта мы яшчэ паглядзім!

Ля скалы, падобнай на чалавечы чэрап, грузавік чакала засада. З падлеску выскачыла не менш за тузін шышыг, узброеных хто чым. Яны накінуліся на МАЗ і пачалі азвярэла яго трушчыць.

— Ды мяне старшыня за псаванне казённай маёмасці ў зямлю жыўцом закапае! — Сцібрак схапіў манціроўку і кінуўся ў бой. Варона таксама не засталася абыякавай — яна стала закідваць нячыстую сілу яблыкамі. Снарады з кілаграмовых пладоў былі добрыя.

Рана ці позна колькасная перавага павінна была адбіцца, аднак непапраўнага не здарылася — дапамога прыйшла, адкуль вадзіцель яе зусім не чакаў. Дрэвы раптам ажылі і, намяўшы шышыгам бакі, прымусілі нячыстую сілу рэціравацца.

— Гэта табе яблыня праз Маці — Сырую зямлю дапамагла! — сказала варона, паціраючы падбітае вока. — А ты файна б'ешся, немец! Хоць і араты.

На мяжы паміж пагорыстай мясцовасцю і стэпам на разгалістым дубе сядзеў Салавей-разбойнік. Згледзеўшы грузавік, ён папераджальна свіснуў і марудлівай хадой накіраваўся да МАЗа.

— Хабар за праезд патрабаваць стане, — папярэдзіла варона. — А торба, немец, у цябе пустая. Чым плаціць будзем?

— Салям! Што вязем на такой вялікі арба?

— Збожжа.

— Ярлік паказвай!

Вадзіцель сунуў Салаўю-разбойніку накладную, тэхпашпарт і правы.

— Ярлік у парадку, — расчаравана сказаў Салавей-разбойнік пасля доўгага вывучэння дакументаў. — За арба давай тры манета, за пасажыр — адзін... А гэта шіто такое?.. Зброя? — рука Салаўя-разбойніка пацягнулася да дубіны, вісеўшай на поясе і размаляванай у чорны і белы колеры. — Ярлік на зброя ёсць?

— Камандзір, можа, дамовімся? — машынальна спытаў Сцібрак.

— Шіто дасі? — вочы Салаўя-разбойніка загарэліся сквапнасцю.

— Два цэнтнеры яблыкаў.

— Вітаміны добра ёсць. Па рюкам!

Вадзіцель з радасцю пазбавіўся ад лішняга грузу, і адысея працягнулася. Стэп павольна станавіўся ўсё больш дзікім. Усё часцей трапляліся шкілеты людзей і коней.

— Далёка яшчэ да замка дракона?

— Рукой падаць! — Увагу вароны нечакана прыцягнуў смартфон, што тырчаў з кішэні шортаў. — Дай «зацаніць»!

Сцібрак уручыў вароне мабільны тэлефон і ў агульных рысах патлумачыў прынцып дзеяння бесправадной сувязі. Птушка неадкладна ўлезла ў меню. «Angry birds» выклікаў у яе неапісальнае захапленне.

— І ўмеюць жа немцы куншцюк рабіць!

Хутка казка кажацца, ды не хутка справа робіцца. Замак паказаўся на гарызонце толькі пасля абеду. Тоўстыя сцены, гатычныя шпілі, акутая тоўстым жалезам брама і напоўнены вадой роў. Мост быў прыпадняты.

— І як мы ўнутр патрапім? — спытаў Сцібрак, дзівячыся вышыні сцен.

— А грэбень нам навошта? — варона кінула грэбень на зямлю. У наступнае імгненне ён ператварыўся ў шырокі мост. — І памятай: біцца табе са Змеем Гарынычам тры дні і тры гадзіны.

— Колькі? — асалапеў вадзіцель.

— Тры дні і тры гадзіны.

— Ды не магу я столькі — старшыня мне тры прагулы ўлепіць. Ужо за адзін звольніць могуць.

— Тры дні і тры гадзіны — гэта казачная максіма!

— Пяцігодку за чатыры гады, а бой з драконам — за паўгадзіны, — адрэзаў Сцібрак. — Нам адкрыюць?

— Трымай кішэню шырэй!.. Выбівай давай!

Са сціснутым сэрцам вадзіцель павёў грузавік на штурм. Шматтонны МАЗ лёгка справіўся з перашкодай і вылецеў на плошчу, якая была застаўлена featureпамернымі скульптурамі Змея Гарыныча.

— Гэта што яшчэ за паноптыкум?

— Нарцыс! — пацiснула плячыма варона.

Сцібрак выбраўся з грузавіка і, выставіўшы перад сабой меч-кладзянец, закрычаў на ўсю моц лёгкіх:

— Выходзь на смяротны бой, Змей Гарыныч!

Ніякай рэакцыі ў адказ не паследвала. Вадзіцель запытальна паглядзеў на варону. Птушка развяла крылы.

— Выходзь біцца, Змей паганы!.. Слухай, Анжыалета, можа, тут і няма нікога?

Адказаць вароне не далі — вывяргаючы агонь, на плошчу апусціўся Змей Гарыныч. Аб трох галовах, з гіганцкімі перапончатымі крыламі, кіпцюрастымі лапамі і доўгім хвастом-стралой.

— Давай, немец, нарэж рэптылію рамянямі! — варона зручна ўладкавалася на кабіне і пратрубіла ў рог, пасля чаго пачала адпраўляць жменямі ў дзюбу вараны гарох з чыгунка. — Толькі шырокімі, каб прадаць можна было!

Вадзіцель рынуўся ў атаку, і бітва пачалася.

Размахваць цяжкім мячом аказалася заняткам не простым. Яшчэ цяжэй было адхінацца ад вогненных рэк. Нягледзячы на адсутнасць ратнай практыкі, Сціб-

рак з драконам справіўся. Слугі дракона ў паніцы разбегліся, пакінуўшы гаспадарскае дабро без нагляду. Варона тут жа ўзялася набіваць торбу золатам.

— Ты чаму нічога не бярэш? — здзівілася птушка, бачачы бяздзейнасць вадзіцеля.

— А як я потым «падатковай» растлумачу, адкуль у мяне такое багацце?

— Ну дык хоць Забаву Пуцяцішну вызвалі!

Вызваленая з вязніцы пляменніца кіеўскага князя Уладзіміра аказалася дзяўчынай неапісальнай прыгажосці. Забава Пуцяцішна кінулася вадзіцелю на шыю і пакрыла яго пацалункамі, большая частка якіх была зусім не падзячнымі.

— За цудоўнае выратаванне мой бацюшка аддасць мяне табе за жонку!

— Мы так не дамаўляліся! — Сцібрак акуратна, аднак рашуча адхіліў ад сябе дзяўчыну. — Ды і не патрэбна мне другая жонка. Я ж не мусульманін які-небудзь, каб гарэм сабе заводзіць! Прабач, прыгажуня!

Пляменніца кіеўскага князя засмуцілася. На шчасце, у гэты самы момант на плошчу прызямлілася ступа з Бабай-Ягой.

— Я сваю частку здзелкі выканаў. Змей Гарыныч пераможаны.

— Адпраўляйся дадому! — Баба-Яга акрэсліла венікам у паветры прастакутнік. — Гэта ход у твой час. Не цягні, доўга падтрымліваць партал адкрытым я не магу.

Сцібрак заняў месца ў кабіне і запусціў рухавік. Перш чым націснуць на педаль газу, вадзіцель пацікавіўся:

— Анжыалета, а чаму ты дапамагала мне? Я ж табе нічога не заплаціў.

— Спадабаўся ты мне, — адгукнулася варона, не спыняючы ссыпаць золата ў мех, які недзе ўзяла.

— Шкада, што мы развітваемся назаўжды.

— Чаму гэта? — ускінула брыво Баба-Яга. — Дыктуй нумар мабільнага тэлефона і чакай званка.

— Але як?

— Гэта ж казка, малойча!

# Шматхадоўка

Раніца нядзелі пачалася з выкліка да начальніка навукова-даследчай станцыі «Марс-VI» Інакенція Дрогача.

— Праходзь, Клім, прысаджвайся! — інжынер-геолаг апусціўся ў пластыкавае крэсла і прыгатаваўся слухаць. — У Чаранкова адкрылася язва, так што ў рэйд да Лабірынта Ночы давядзецца адправіцца табе. Я памятаю пра выхадны, але больш проста няма каму — усе занятыя.

— Разумею, Інакенцій Іванавіч! Занадта шмат сродкаў выдаткавана на навуковую праграму, каб губляць каштоўны час.

— Натуральна, дзень я табе потым кампенсую!

— Добра! — просьба начальніка заўсёды падобна да загада. Асабліва, калі працуеш першы год. — Усюдыход гатовы?

— Так, можаш выязджаць прама зараз. План працы на сёння знойдзеш у бартавым камп'ютары. Паедзеш адзін — там нічога складанага: возьмеш пробы і зробіш замеры... Ты мне вельмі дапаможаш, Клім!

У ангары, побач з васьміколавай шматтоннай машынай Чашніка чакаў тэхнік.

— Прывітанне, Пятровіч! Праверыў?

— А то як жа? Усе сістэмы працуюць як гадзіннік! Бак поўны, батарэя зараджана, наконт кіслароду можаш не хвалявацца! — Хадыка дапамог Чашніку ўлезці ў скафандр. — Удалага рэйду!

Інжынер-геолаг кіўнуў і залез ува ўсюдыход, пасля чаго накіраваў яго да выхаду. Яшчэ некалькі хвілін пайшло на шлюзаванне.

Звонку Чашнік уключыў рэжым аўтаматычнага кіравання і вывеў на дысплэй меню. Стандартны даследчы набор. А вось каардынаты прымусілі сэрца забіцца часцей. Рука машынальна кранула муфту кіслароднага шланга.

— База? — Штэкер перамоўнай прылады ўвайшоў у гняздо на шлеме. — Прыём?

— Слухаю, Жук-два!

— Праверка сувязі. Адбой!

Відэакамеры трансклявалі назалелыя за восем з паловай месяцаў пейзажы Марса. Гнятлівую аднатоннасць фону не маглі змякчыць нават магутныя лічбавыя фільтры. Навокал вісеў туман.

Да першай кантрольнай кропкі ўсюдыход дабраўся за тры чвэрці гадзіны. Грунт у гэтым месцы аказаўся мяккім, так што з бурэннем Чашнік справіўся з апярэджаннем графіка. На другой кропцы прыйшлося павазіцца — на паўмятровай глыбіні звышмоцны бур раптоўна зламіўся, а замяніць яго можна было толькі ўручную.

Перад трэцяй кропкай на сувязь выйшла Ожыч.

— Як мяне чуеш, Клім?

— Галіна?.. Што ты робіш у рубцы сувязі? Ты ж павінна быць у аранжарэі!

— Зараз усё зразумееш!

У наступнае імгненне ўсе маніторы пагаслі, а ўсюдыход змяніў кірунак руху і пачаў імкліва набіраць хуткасць.

— Што за... — прывязныя рамяні ўрэзаліся ў цела.

— Бывай, Клім!

Чашнік абмёр. Неадольны страх агаліў успаміны, якія, як здавалася інжынеру-геолагу, ён даўным-даўно пахаваў у падсвядомасці...

— База, гэта Жук-пяць!.. Адкажыце мне, база! — усюдыход, падымаючы фантаны пылу і раскідваючы камяні, нёсся прама да краю бездані. — Я не магу спыніцца!

Аскер выварочваў руль у дарэмнай спробе адвесці ўсюдыход у бок ад каньёна.

— Замкі люка заблакаваныя!.. Што мне рабіць?.. База!

— Можаш не крычаць, Мсціслаў, цябе ўсё роўна ніхто не пачуе! — пасля трэска перашкод ажыла перагаворная прылада, прымусіўшы Аскера схамянуцца.

— Клім?.. Гэта ты, Клім?.. Як добра, што ты на сувязі! Мне тэрмінова патрэбна дапамога! Машына выйшла з-пад кантролю!

— Я ведаю. Яе зламаў я.

Узрушэнне аказалася такім моцным, што Аскер страціў дар мовы. Справіцца з шокам атрымалася толькі праз некалькі хвілін.

— Ты?.. Я не веру, што лепшы сябар здольны на такое!.. Мы ж са школьнай лавы разам!

— Тым не менш гэта так, Мсціслаў! Я ўнёс сякія-такія карэктывы ў праграму. Можаш адпусціць руль — ручное кіраванне таксама заблакавана.

— Божа, але навошта?

— А ты думаў, што я дазволю табе адабраць у мяне Галю?.. Яна мая, Мсціслаў! І я не збіраюся ні з кім яе дзяліць!

— Ты звар'яцеў! Неадкладна разблакуй ручное кіраванне!

— Адзінаццаць кіламетраў. Ніякіх шанцаў выжыць.

Аскера кінула ў пот. Падзення з такой вышыні не вытрымае ні адзін усюдыход, якім бы звышмоцным ён ні быў. Што ўжо казаць пра слабое чалавечае цела?

Інстынкт самазахавання запатрабаваў неадкладных дзеянняў. Аскер расшпіліў рамяні і, трымаючыся за спінку крэсла, дабраўся да люка.

— Мсціслаў, няўжо ты думаеш, што я выпусціў такое з-пад увагі?.. Табе не выбрацца! Можаш пачынаць маліцца.

— Выпусці мяне, мярзотнік!

— Нават не спадзявайся! Галя будзе належаць толькі мне! Аднаму!

— Яна кахае мяне! — Край каньёна імкліва набліжаўся. — Няўжо ты не бачыш відавочнага?

— Ты памыляешся, Мсціслаў.

— Дык спытай у яе сам!

— Я не буду азмрочваць нашы з Галяй адносіны крыўднымі падазрэннямі і дурнымі пытаннямі. Да чаго, калі я ведаю дакладны адказ?.. Мы будзем разам, а ты... няшчасны выпадак. З кім не бывае?

— Цябе арыштуюць!

— А вось гэта наўрад ці. Мая другая спецыяльнасць — праграмаванне. Камп'ютары — мая вотчына, Мсціслаў. Зрабіць так, каб ніхто нічога не даведаўся, не так ужо і складана. Трэба толькі дакладна ведаць, што рабіць. Я ведаю!.. Дарэчы. Муфта кіслароднага шланга прылягае няшчыльна. Дыхальнай сумесі ў цябе засталося максімум на паўгадзіны.

Аскер кінуў погляд на манометр. Чашнік не падманваў.

Аскер паспешліва падагнаў муфту, разумеючы, наколькі гэта бессэнсоўна. Нават калі яму і пашчасціць ацалець пры падзенні, з такім запасам да станцыі не дайсці.

— Балон з аварыйным запасам пусты, я так разумею?

— А ты правер, Мсціслаў!.. Канечне ж, пусты! Працу трэба рабіць якасна ці ўвогуле за яе не брацца. — Аскер сціснуў кулакі ў бяссільнай злосці. — Табе не трэба было пачынаць.

— А калі я паабяцаю табе ніколі больш не падыходзіць да Галі? — словы даваліся Аскеру з цяжкасцю. — Тады ты не станеш забіваць мяне?

— Я не такі наіўны, як ты думаеш, Мсціслаў. Перад смерцю людзі гатовыя даць любое абяцанне, толькі б выратаваць уласнае жыццё. Бяда толькі ў тым, што потым яны не трымаюць свайго слова... Скарыся! Праз чвэрць гадзіны Лабірынт Ночы стане тваёй магілай!

Аскер вылаяўся і запусціў скрыняй з інструментамі, якая трапілася пад руку, ва ўнутраную відэакамеру. Пырснулі аскепкі.

— Нервы, Мсціслаў! Я цябе выдатна разумею — прайграваць заўсёды цяжка. А дзеля таго, каб бачыць тое, што адбываецца, відэакамеры мне не патрэбныя. Дастаткова ўяўлення!

— Калі б я ведаў, што ты такі...

— Вылюдак?.. І што тады, Мсціслаў? Паспрабаваў бы забіць мяне першым?.. Наўрад ці. Кішка тонкая!.. Ты не ва ўсім лепш за мяне!

Карцінка на дысплеях змянілася — зараз усе яны паказвалі Чашніка, які ўхмыляўся. Аскер не вытрымаў і адзін за адным разбіў іх дашчэнту, пасля чаго ірвануў штэкер перамоўнай прылады і стомлена паваліўся ў крэсла.

Больш за Ожыч яму было шкада таварыша...

— Галя, гэта не смешна! — Як ні стараўся Чашнік вярнуць кантроль над усюдыходам, нічога не атрымлівалася. Ожыч аказалася большым спецыялістам, чым ён сам. — Спыні машыну!

— Не падабаецца адчуваць сябе ахвярай, Клім? — Успыхнулі маніторы, і інжынер-геолаг убачыў біёлага. — Якое вартае жалю відовішча — брутальны мачо абмачыў штаны!

— Галя, я прашу цябе дзеля нашага кахання спыніць усюдыход!

— Як вы мне ўжо надакучылі са сваім чортавым каханнем! Няўжо нельга проста пераспаць?.. Абавязкова ўсё ўскладняць?

Ожыч пайшла тым жа шляхам — не ўтрымалася ад спакусы нацешыцца пакутамі ахвяры. Усё як і ў мінулы раз — зачынены люк, мінімальны запас кіслароду, пяцьдзясят кіламетраў да прорвы...

— Ды мне не патрэбна ніякае каханне! Ні тваё, ні аскерава! Якога Д'ябла вы наогул убілі сабе ў галовы, што я чакаю вашых заляцанняў?

Пачуць падобнае прызнанне было вельмі балюча. Чашніка захліснула крыўда — выходзіць, усе ахвяры марныя?

Яна адбеглася колькі крокаў і павярнула галаву да мяне, быццам дакорліва спытала, чаго стаю, а не іду следам за ёй. І толькі тады я адарваў ногі ад зямлі, рушыў за ёю. Ідучы, спіной адчуў, што лес прыцішыўся, супакоіўся, замёр.

Раніцай, як і перад гэтым раней, падышоў да ліфта. Расчыніліся дзверцы, і я ступіў на пляцоўку. Рука адразу памкнулася да табло, каб націснуць патрэбную кнопачку патрэбнага мне паверха — пятнаццатага. Але — во дзіва! — патрэбнай кнопачкі не ўбачыў. Значылася толькі дзевяць паверхаў. А дзе ж падзеліся астатнія?

Выйшаў на дзявятым паверсе, недаўменна агледзеў калідор, на якім знаходзіўся. З ліфта выйшлі муж і жонка, і я перапыніў іх, пацікавіўся, як трапіць на пятнаццаты паверх. Яны недаўменна паціснулі плячыма, паглядзелі здзіўлена на мяне, адказалі, што такога паверха тут не існуе.

Калі ж прыйшоў да доктаркі, якая і афармляла мяне, і накіравала да масажысткі, яна здзіўлена паглядзела на мяне:

— Інга? Няма ў нас такой... І я не прызначала вас да яе. Вы нешта наблыталі. І вось што... Чаму вы прапускаеце ўсе працэдуры? Ужо дзясяты дзень мы вас не бачым у санаторыі. Дзе вы прападалі ўвесь гэты час?

— Я нідзе не прападаў, быў на месцы. Зрэдку прагульваўся па лесе.

— Але ж у рэгістратуры сказалі, што вы як пайшлі ў першы дзень у лес, так і не вярталіся да гэтага часу. Вы, паважаны адпачывальнік, парушылі рэжым лячэння і адпачынку... Не ведаю, што з вамі і рабіць. Можа, вы трапілі ў валадарства вужоў, і яны, узяўшы вас у палон, не захацелі адпускаць? Можа, вы пакрыўдзілі некалі каго, можа, не адказалі ўзаемнасцю ў каханні, га? У нас калі-нікалі такое здараецца з адпачываючымі, калі яны падлягаюць суду Эгле...

Ад лекаркі выйшаў прыгнечаным і разбітым. Не разумею, што са мною здарылася. Тое, што мне далі пуцёўку за нейкі незразумелы конкурс, мне падалося адразу непаразуменнем ці нават падманам. Але ж я трымаў у руках пуцёўку ў «Egle+» — гэта рэальнасць? Так. І як прыехаў у Гародню, а потым аўтобусік даставіў мяне да пад'езда корпуса санаторыя, таксама ўсё рэальна. І ў рэгістратуры ... А вось калі пайшоў да дакторкі Ангеліны, нешта павярнулася ў іншы бок. Яна мне падалася і маладой, і ў гадах, дзяўчынай і бабулькай. Тварам мянялася, калі размаўляла са мной. Няўжо ў той самы час я і ператварыўся ў нейкага іншага чалавека і знаходзіўся па той бок рэальнага свету? Такое хіба можа быць?

Што я парушыў і дзе? І — калі? У які момант не ўпісаўся ў рэальнасць? Калі парушыў забароненую грань паміж дабром і злом, не прыдаўшы гэтаму значэння? Калі быў мастаком у Жыгімонта? Дык тое ж так было даўно, што я і не памятаў таго, не запомніў.

Радавала хіба тое, што я вярнуўся ў рэальны свет, у рэальныя абставіны і асяроддзе.

Надвячоркам пайшоў не ў лес, а на возера, якое знаходзілася побач з санаторыем. На невысокім слупе, схаваўшы адну нагу пад сябе, стаяў бусел.

Ён уважліва сачыў за рыбаком, які раз-пораз закідваў вуду ў возера. Калі ж зловіць нешта, то тады бацян зляціць са слупа і стане побач з рыбаком. І той пачастуе яго плоткай ці карасікам.

Буслік сябруе з адпачываючымі, і невядома, чаму ён адбіўся ад сваіх бацькоў.

Знячэўку ўзняўся вецер, захістаў галіны вербалозу, што звесілі да вады свае косы.

А над возерам, узлятаючы і падаючы ўніз, закрычалі неспакойна птушкі:

— Інга-га-ааа! Ін-га-ааа!

І я гатовы быў крычаць разам з імі гэтае імя, каб дагукацца да той, далёкай і пакрыўджанай маёй няўвагай, маёй ганарлівасцю. Напэўна вялікі-вялікі грэх, калі адпрэчваеш каханне жанчыны?

Што я ведаў ці памятаў пра той час, у якім жыў?

*1545 год... У чэрвені, акурат у Пятроў пост, у панядзелак, у Вільні памірае каралева Эльжбета. Пахавалі яе каля святога Станіслава ў каплічцы Казіміра ў жніўні 24-га дня. А пасля ўжо, з цягам часу, малады кароль, маючы слабасць да ўцехаў і жарсці, пачаў мілаваць Барбару Радзівіл. А яна была ўжо ўдавою Гаштальда, ваяводы троцкага. Жыла яна ў той час пры сваёй матулі і браце, падчашаму Міколу Юр'евічу Радзівілу.*

*Кароль меў характар адчайны і напорысты, таму не гледзячы на тое, што падумаюць пра яго людзі, не баючыся асуджэння вернападданых і свайго народа, кінуўся ў вір з галавой — хадзіў начамі са свайго палаца да яе жытла, і часта, як казалі, знаходзіўся падоўгу там, заставаўся нават начаваць. Пра тое засведчана ў летапісах Рачынскага, а ён ніколі не хлусіў, не нагаворваў дарэмна.*

Пра мастака Дамініка, дарэчы там няма ўспамінаў, але я ўпэўнены, што ён ведаў яго, таму след «падзення» мастака мог пачацца з таго часу — 1545 года.

А чайкі куляюцца ў паветры, ледзь не ныраюць у возера, падлятаючы нізка да вады, крычаць адно і тое ж імя, як бы запрашаючы мяне вярнуцца абавязкова ў той час, у сваю майстэрню, калі я збіраўся пісаць партрэт лекаркі пані Інгі...

А як вярнуцца, дзе знаходзіцца той партал ці дзверы, праз якія мог бы вярнуцца туды і стрэць там сваю лекарку-натхніцельку? Стаць перад ёю на калені, укленчыць у нізкім паклоне, папрасіўшы прабачэння за сваю слепату, няўважлівасць і глухату. Як тое зрабіць? Я б усё выправіў, расклаў бы па палічках нашых сэрцаў, і не балела б у яе душа столькі стагоддзяў ...

— Інга-аааа! Ін-гааа!

Маўчыць неба, маўчыць возера, маўчыць час. І не далятае чамусьці да мяне голас-падказка, парада, сакрэтнае і таямнічае слова, — і тады ўжо я сам пачынаю пакутваць, не ведаючы, як пазбавіцца ад маёй віны, у якога святара адмаліць свой грэх. Хаця і не ведаў, ці сапраўды вінаваты ў чым-небудзь.

Грахі нас не пакідаюць і праз стагоддзі, асабліва тыя, якія тычацца кахання.

***P.S.*** *А мяне ўвесь час не пакідае думка: можа, гэта Інга і падаравала мне тую пуцёўку ў санаторый і паклікала да сябе, ці тое зрабіў замест яе нехта іншы? Калі ж Інга прыбыла да мяне з таго стагоддзя і хацела паказаць, што вінаваты перад ёю, то чаму ж яна не можа зноў вярнуць мяне ў той час, каб адгукнуўся на покліч яе сэрца, убачыў яе, наблізіў да сябе. Мне ж тое тады нічога не каштавала.*

*Няўжо я мог адпрэчыць яе, не заўважыць патаемны і пяшчотны позірк, скіраваны ў мой бок? Няўжо для мяне мастацтва тады было вышэй за каханне?*

*Але мне прыйшлося прызнацца самому ў маім адкрыцці. Каханне — гэта Бог. І калі па нейкіх прычынах пры жыцці не ўдалося каханню расцвісці букетам ружаў, то і праз стагоддзі душы закаханых, абудзіўшыся, паўстаўшы з таго часу, сустрэнуцца абавязкова, каб злучыцца, каб стаць адзіным цэлым — Богам. Бо найвыйшэй і мацней кахання нічога ў свеце няма.*

Загадка Інгі працягвалася.

*17 жніўня 2017 года,*
*Друскенікі*



# Сібіла Алерама

(1876-1960)

**Сібіла Алерама[1], якую называюць першай італьянскай феміністкай, нарадзілася 14 жніўня 1876 г. у Алесандрыі ў сям'і выкладчыка прыродазнаўчых навук і была старэйшай з чацвярых дзяцей. Да 12 гадоў жыла ў Мілане. Дзіцячыя гады не былі шчаслівымі: ва ўзросце 15 гадоў Рыну згвалціў адзін з супрацоўнікаў бацькавай фабрыкі Ульдэрыка П'еранджэлі, дзяўчына зацяжарыла, але страціла дзіця. Тым не менш, у 1893 г. сям'я змусіла яе выйсці за гвалтаўніка замуж. Рына спрабавала здзейсніць самагубства, выкінуўшыся з балкона, прыступы дэпрэсіі будуць ёй уласцівыя на працягу ўсяго жыцця. У 1895 г. нарадзіла сына Вальтэра. Незадавальненне ўласным існаваннем прывяло да супрацоўніцтва з жаночымі часопісамі, куды, пачынаючы з 1897 года, яна накіроўвае свае апавяданні і артыкулы.**

**З 1899 года жыве ў Мілане з сям'ёй мужа, дзе кіруе штотыднёвым сацыялістычным часопісам «Жаночая Італія». У 1906 г. выходзіць яе першы раман «Жанчына» («Una donna»), пад ім пісьменніца ўпершыню падпісваецца псеўданімам Сібіла Алерама. Раман меў велізарны поспех і адразу быў перакладзены на сем моваў... У 1919 годзе яна апублікавала зборнік прозы «Пераход» («Il passaggio»), у 1921 годзе — першы паэтычны зборнік «Імгненні» («Momenti»). У 1925 годзе разам з іншымі пісьменнікамі і інтэлектуаламі падпісала «Маніфест» Бенедэта Крочэ супраць фашызму, аднак у далейшым даволі лаяльна ставілася да рэжыму Мусаліні. У 1927 годзе выйшаў яе эпісталярны раман «Кахаю значыць існую» («Amo dunque sono»), складзены з неадпраўленых лістоў, адрасаваных Гвіда Парызе. У 1929 годзе выйшаў яе зборнік «Вершы» («Poesie»), годам пазней — зборнік прозы «Выпадковыя радасці» («Gioie d'occasione»). З 1932 па 1938 гг. выйшлі такія яе кнігі, як раман «Дубец» («Il frustino»), яшчэ адзін паэтычны зборнік «Так — зямлі» («Si alla terra») і кніга прозы «Малая мядзведзіца» («Orsa minore»).**

**У 1936 годзе Алерама пазнаёмілася з Франка Матакота, студэнтам, маладзейшым за яе на сорак гадоў. Іх адносіны будуць доўжыцца цэлае дзесяцігоддзе. Пасля заканчэння другой сусветнай вайны ўступіла ў кампартыю Італіі, актыўна ўдзельнічала ў палітычным і грамадскім жыцці, друкавалася ў газеце «Уніта'».**

**Памерла ў Рыме ў 1960 годзе ва ўзросце 83 гадоў.**

**Вершы, пераклады якіх прапануюцца чытачам «Верасня», увайшлі ў зборнік «Імгненні» (1921 г.). Ім папярэднічаў наступны надпіс: «Міту свабоды абавязана гэтымі імгненнямі песні яго верная паслядоўніца».**

---

[1] Сапраўднае імя Марта Феліцына (Рына) Фача (Marta Felicina (Rina) Faccio).

# Якая ты прыгожая, зямля!

## Голая ў промнях сонца

Голая ў промнях сонца
для цябе, мастака, ляжу нерухома,
толькі сэрца ў грудзях адбівае
жыцця настойлівы рытм.
Як на світанні нябёсы
для цябе маё прамяністае цела,
луг, вада, расквітнелая купка ў пялёстках,
вінаграду атожылкі бучныя.
Кахаеш і, прагны, пяшчотныя пальцы
да сувою падносіш.
Голая ў промнях сонца і нерухомая,
частка прыроды,
табою напоўненая, табой паглынутая,
гэта ты мяне абагаўляеш
ці боскасць мая стварае цябе,
мастака, мастацтва, дух?
Маўкліва дыхаюць грудзі.

## Я такая малойца

Я такая малойца ўдзень.
Разумею, прымаю, не плачу.
Амаль навучылася гонар мець
быццам бы я мужчына.
Але з першай канвульсіяй цемры на небе
дзённая сіла знікае.
Ты мне ўздыхаеш здалёк:
— Вечар, мой вечар пяшчотны!
Мне здаецца, у далонях маіх
стамлёнасць усёй зямлі.
Я цяпер толькі погляд,
разгублены погляд і вены.

## Дым цыгарэтаў

Дым цыгарэтаў
Алюзія ўсмешкі

І зноўку дым,
лёгкія колцы,
ад маіх вуснаў,
ад яго вуснаў,
кожны вечар,
колькі хвілінаў,
з майго балкона,
з майго акна,
лёгкія колцы,
росквіт усмешкі,
ён не ведае майго голасу,
я не ведаю яго голасу,
толькі
праз колцы дыму
яго вочы мне падабаюцца,
мае вочы яму падабаюцца,
кожны вечар,
колькі хвілінаў,
вітанне
колцаў
дыму
грацыёзная лёгкасць жэста
маўклівая кропка агню
высока над сонным дваром
і больш анічога
так
тым часам пад лямпай
чакае работа,
душа скараецца
колькі хвілінаў
кожны вечар
некалькі дзён
лёгкія колцы,
лёгкія колцы...

## Якая ты прыгожая, зямля!

Якая ты прыгожая, зямля!
Хоць шмат разоў хацела я цябе пакінуць,
і нават цяпер...

Зямля, калі я ў цябе папрашу прабачэння,
хтосьці папросіць прабачэння ў мяне?
Я таксама прыгожая,
я таксама ўсміхаюся чалавечым істотам,
як усміхаюцца гэтыя кветкі
і гэтае вецце, і гэтыя воды,
і мая душа раскрываецца ў ззянні
і праменіць трымценне пяшчоты.
І я засталася адна...

## Марную жыццё

Калі раблю рух, калі ўстаю,
усё прападае, усё ледзянее.
Але калі застаюся ляжаць
з вачыма закрытымі, з вуснаў гарачым вуголлем,
жар маёй далані на пульсацыі горла,
я марную жыццё, марную жыццё,
мая кроў растрачваецца ў маіх венах,
я адчуваю, што растрачваецца,
як толькі згадвае іншую кроў,
пажаднасць дадзеную і адчутую
далёкага кахання,
якое магчыма не знайду.

## Бяссонная пякота

Бяссонная пякота,
жадання ноч пасля столькіх зорных ночаў цнатлівых
Сёння перламутравыя гліцыніі былі пад сонцам
і прыгожы мужчына з хвалістай цёмнай фрызурай.
Гронкі, пасмы,
а мае пальцы да яго не прасцерліся.
Прахалода духмяных ягад для маіх грудзей,
дотык мяккіх валасоў...
Мае пальцы пад сонцам да яго не прасцерліся.

## З Асізі

На гары адна,
самотная,
над гэтай

вузлом маўчання пасярод свету.
Вецер сыходзіць срэбна-зялёны.
Оду, дыханне нябачнай вады,
мілыя песні раскіданыя слухае
з міжвольных усмешак, з пявучых пацалункаў,
з няўлоўных асалодаў,
і трымае іх, амаль як у гронцы плады,
адна ў пералівах святла, паміж рук або крылаў,
ластаўка і сястра,
якая ніколі ніводнай вясны не губляе.

## Рытм

Знойдзеная падлеткавасць,
радасць колеру
зялёныя вочы сонца над галечнікам,
аскепкі сінечы бясконцае хваляў,
хмарак бялеча і ўцёсаў,
чырванаватая радасць дахаў,
колер, рытм,
нібы чорна-белая ластаўка
цябе баразніць душа.

## Блакіт

Блакіт
у кропках белых матылёў і белых ветразяў
і сёння прасціраецца
па зямлі залатой і зялёнай
каханне свой блакіт прасцірае
на пяшчотныя выспы
на старыя ветразі,
смяецца адбеленае,
бессаромнае,
як вецер, як хваля, як песня,
адлегласць трымціць усмешкай.

## О, кветка

Па моры такім блакітным, што белым здаецца,
нібы мая белая сукня, абсыпаная зорамі,

ты рушыш да выспы, рушыш да мяне,
даплывеш да таго, як надыдзе вечар,
о, кветка, о, колер, о, полымя,
на моры яшчэ зусім спакойным пацягнуся
і прыму яе ў свае абдымкі,
а ты будзеш думаць, што працягваеш плысці
на пяшчотным караблі
далей, далей у вечнасць блакіту.

**Пераклад з італьянскай мовы Аксаны Данільчык.**



# Васіль Дранько-Майсюк

драматург, рэжысёр, акцёр, эсэіст. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Працаваў у беларускіх тэатрах (РТБД, ТЮГ). Жыў у Маскве, дзе выкладаў акцёрскае майстэрства ды іграў у тэатры «Снарк». Зараз працуе літаратурным рэдактарам у часопісе «Вясёлка». На сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя М. Горкага ідзе яго п'еса «Пясняр», прысвечаная Уладзіміру Мулявіну. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

# Сем колераў кахання

***Тэатральная фантазія пра Марка Шагала***

## Гісторыя першая: сіні колер

МАРК ШАГАЛ. Вось яна! Праўдзівая музыка сіняга колеру! Якія дзівосныя выявы схаваны пад гэтым колерам? Адчуваеце гэтую лёгкасць, падманліва-ап'яняльную... Яна дапамагае нам... хоооп! Узняцца і паляцець куды-небудзь туды, дзе аранжавыя козы і чырвоныя каровы сплялі сваімі рагамі незвычайны карункавы ўзор. Дзе фіялетавыя каханкі, схаваўшыся ў гэтых залатых карунках, цалуюцца пад музыку зеленатварых скрыпачоў... А вось, чуеце? Тэмп паскараецца... І ўсе-усе-усе яны скачуць у незвычайным карагодзе... І тады любы ваш сум і нават трагедыя ператвараецца ўсяго толькі ў фантасмагарычна-цыркавы карнавал.

Мне сем гадоў. У таты Дзень нараджэння. Ён павінен хутка вярнуцца з працы. Што яму падарыць? З вакна суседа гучыць музыка. Калі яе ўчора пачуў тата, то сказаў, што ў яго ажно душа маладзее, і адчувае ён сябе так лёгкалёгка... У адрыне стаіць сіняя фарба, якой мы будзем фарбаваць наш плот. Ціхенька, бяру яе, іду на вуліцу... Страшна, але музыка падбадзёрвае! Пачынаю маляваць на плоце тату! Ён, змучаны і спрацаваны, у мяне такі лёгкі, што ўздымаецца над Віцебскам...

За мной назірае прыгожая жонка суседа. Яе сінія вочы, як у Марфы, нашай каровы. Гэй! Ляці ў маю карціну! Тут месца толькі сапраўднаму хараству!

Аййй! Што за чмель кусае за вуха? Плача прыгожая жонка суседа:

— Ён мяне каровай намаляваааў!!!!.....

Чмель не адпускае вуха:

— Значыць, мая жонка — карова? Я табе...

Мой шчаслівы сіні бацька лунае ў небе і ловіць дошкі, якія кружацца над пляцам. Некалькі нязлоўленых дошак падаюць. Чмель хапае жонку і хаваецца.

У той жа вечар мы з татам зафарбавалі маю карціну. Пазней, калі я бачыў сінія платы, мяне заўсёды цікавіла, якія дзівосныя выявы схаваныя пад гэтай нябеснай фарбай?

## Гісторыя другая: зялёны колер

Ідзе дождж. Дзьме вялікі вецер. Мяне, такога маленькага, дзесяцігадовага, мама не пускае на вуліцу. Я ж магу патануць у агромністых кроплях віцебскага неба, а вецер занясе маё патанулае цела куды-небудзь туды... на далёкі-далёкі Мадагаскар, там бедная матуля мяне ніколі не знойдзе!

Сумна...

Нешта зялёнае праляцела па вуліцы і зачапілася за вакно ў маім пакоі. Гэта — зялёны шалік. На ім — намаляваная шырокая рака. На беразе — ізумрудны ліхтар. Праз раку перакінуты масток, на якім стаіць прынцэса, а з ракі да яе цягнецца лапа нейкай пачвары...

Адчыняю вакно. Чапляюся за шалік і... лячу! З лёгкасцю вырываю ізумрудны ліхтар і гэта ўжо дзіда, якой я працінаю пачвару. Прынцэса выратавана. Дождж скончыўся, дзіда ператвараецца ў ліхтар, прынцэса цалуе мяне ў шчаку. Першы пацалунак у маім жыцці! Яна кажа, што гэты шалік ёй мама прывезла з Парыжа, куды яны хутка ўсёй сям'ёй паедуць.

— Сустрэнемся заўтра? Буду чакаць каля гэтага ліхтара! Побач з ім лужына ў форме... сэрца. Мне здаецца, ён у яе закахаўся!

Я чакаў дзень і два, і месяц. Не было ніводнай кроплі дажджу. Лужынка ў форме сэрца рабілася ўсё меншай, пакуль зусім не знікла, а ліхтар стаў такім жа сумным, як і я. Што можа выратаваць ад гэтага суму? Толькі Парыж!

## Гісторыя трэцяя: чырвоны колер

МАРК ШАГАЛ. Парыж. Мая каханая Бэла — у Віцебску. Ужо вельмі хутка забяру яе да сябе. Сплю, закруціўшыся, як кукалка. Успамінаю, мама мяне называла: «Мой цудоўны матылёк». Скрозь сон адчуваю: па мне нехта ходзіць, казыча твар дыханнем. Прачынаюся — на маіх грудзях — вялізны пацук. Пільна на мяне глядзіць, ашчэрыўшы свае доўгія жоўтыя зубы. А-а-а-а! Хачу закрычаць, але пачвара закрывае лапай мне рот і абкручвае маё цела хвастом... Душыць! З апошніх сіл кусаю за лапу. Пацук амаль па-чалавечы якоча! Гадзіннік на маёй карціне б'е дванаццаць. Сцены майстэрні ажываюць: з кожнай дзірачкі вылазяць хвасты, вострыя мордачкі, лапы... Пацук лемантуе, прыскаючы на мяне слінай... Гадзіннік б'е дванаццаць. Сцены майстэрні ажываюць: з кожнай дзірачкі вылазяць хвасты, вострыя мордачкі, лапы...

Яшчэ секунда — і майстэрня напоўніцца гэтымі д'ябламі, яны мяне разарвуць, з'ядуць, знішчаць мае творы.

— Успомні! — чую родны голас. Сваімі сухімі, як пальцы шкілета, вусамі, Пацук драпае мне вушы. Але я пазнаю голас мамы. Вось яна на карціне «Нараджэнне». Толькі ўчора скончыў. Але чаму адна? Дзе тут я — немаўлятка? Дзе шчаслівы бацька? Нашы родзічы і суседзі? Іх усіх з'елі пацукі? Мама гаворыць:

— Як я цябе называла? Успомні! Прыгадай, што ты больш за ўсё на свеце любіш!

Што я люблю? Што люблю? Побач на мальберце стаіць іншая карціна. На ёй палае наша хата, уцякае зялёны конь. Усё патанае ў чырвоным колеры.

Агонь! Вось што я люблю! Ён палохае, але адначасова і зачароўвае... Надае сілы, імпэту... Я сціскаю кулакі. Але гэта ўжо не рукі, а...

Зрываю з сябе коўдру, якая рабіла мяне падобным да кукалкі матылька. І ператвараюся... ў вялікага чырвонага матыля з вогненнымі крыламі. Хто з пацукоў да мяне набліжаецца — становіцца попелам. Лётаю па майстэрні.

Пыльца з маіх крылаў вогненнымі кроплямі знішчае ворагаў, утварае вакол карцін кругі-абярэгі. Цяпер ніхто не можа зрабіць кепска ні мне і маім творам, ні маёй сям'і. Цяпер я не буду баяцца вяртання на Радзіму, рэвалюцыі, галечы, голаду, зверстваў чэкістаў, здрады былых вучняў і паплечнікаў, вымушанай эміграцыі. Я моцны і спакойны. Бо ведаю — у патрэбны момант змагу, здолею ператварыцца ў вялікага матыля з вогненнымі крыламі і тады ніводзін пацук не страшны. Праўда, часам, яны шкрабуцца, прыходзяць у мае сны, але вылезці са сваіх схованак баяцца.

## Гісторыя чацвёртая: ружовы колер

Я вярнуўся з Парыжа, каб забраць Бэлу. Вязу ў падарунак амаль дамаляваную Эйфелеву вежу, якая пераліваецца ўсімі адценнямі ружовага колеру.



**Марк Шагал. «Нявеста і Эйфелева вежа», 1913**

І тут — бах! Першая сусветная... А за ёю — ба-бах! Рэвалюцыя! Яны мяне акружылі, не пускаюць да цябе!

Тру-ру-ру! Тра-та-та!
Тухне вогнішча ў крыві, —
Песню йграйце: «дзінь-дзі-ві!»
Каго зловіш — разарві,
Хто не наш — таго даві!

Бэла... яны мяне ўзялі з сабой... Мая ружовая Эйфелева вежа засталася безабароннай. Адзінае, паспеў дамаляваць казу. У дзяцінстве мяне заўсёды ратавала ад злых хлопчыкаў нашая каза. Калі цяжка захварэў, яе малако мяне жывіла... Каза вартуе маю вежу, а я...

— Ну, што, таварыш Шагал, вы з намі?

— Мы падняліся ў неба, колеру лопнутага вока... і тут я ўбачыў усе іх мары, памкненні, жаданні...

Над абшарамі Польшчы,
Арол белы... Прэч са шляху!
І адным магутным махам, —
Галавы яго не стала...

...дым па Нямеччыне курыцца,
Запахла пажарамі... Чалавечынай...
Пад намі Францыя...
Чырвонае мора абшары вакол залівае...
З магіл паўстаюць камунары!
Сыплюць іскрамі ўлева і ўправа!

Узняўся агонь
ад Патагоніі да самай Аляскі...
Наша ўсё, наша!
Магутней няма нашай сілы!..

Бэла, ратуй! Бо я не вытрымаю! Што рабіць, каб не звар'яцець ад гэтых дзікіх фантазіі?

— Дамалюй сваю ружовую Эйфелеву вежу!

— Дамаляваў...

— Намалюй пасцель з кветак.

— Пасцель гатовая...

— А цяпер — кахаемся ў гэтых кветках!

І мы кахаліся, як ніколі. Вакол нас — выбухі, пажар, крык, лямант, але ўсё паступова заціхае. Нас нехта кліча. Гэта каза. На самым версе Эйфелевай вежы яна... жангліруе ружовымі апельсінамі, якія ператвараюцца ў дзівосныя зоркі. Па гэтых зорках мы, танцуючы, і трапляем у Парыж!

## Гісторыя пятая: чорны колер

МАРК ШАГАЛ. Настрой эмігранцкі прымусіў мяне палюбіць чорны колер. Вам ён падабаецца? Мая дачка Іда яго вельмі баялася. Калі аднойчы ўбачыла ў маёй карціне «Над Віцебскам» самотнага змрочнага жабрака — схавалася пад ложак.

Тады я ўзяў вугаль і намаляваў мяшок.

— Што гэта, дачушка?

— Мяшок...

— А ў ім?

З мяшка выскачылі сем пеўнікаў, колеру вясёлкі. Яны вадзілі вакол Іды карагод, спявалі, а затым ррраз, і схаваліся назад у мех. Дачка запляскала ў ладкі:

— Чый гэта цудадзейны мяшок?

Я паказаў ёй жабрака з карціны, якога яна напалохалася.

— Гэта яго мех. Ён чараўнік. Лётае над Віцебскам, шукае сумных дзяцей і выконвае адно жаданне. Аднойчы, калі я быў маленькі, мяне моцна пабіў старавер за тое, што намаляваў яго партрэт. Я горка плакаў і раптам убачыў гэтага жабрака: адзенне, барада і мяшок былі колеру ночы. Ад яго ўсмешкі боль прайшоў, крыўда забылася.

— Я магу выканаць адно тваё жаданне, — сказаў жабрак, — як не ведаеш, што пажадаць зараз, скажы, калі да цябе з'явіцца, і жаданне будзе выканана ў любы час.

Я захацеў марожанага і білет у цырк. З мяшка выскачылі пеўнікі... Ох, як было смачна, весела, цікава... А ўжо праз хвіліну, калі ўсё знікла, я зразумеў — не гэтага трэба было прасіць...

— Ты хочаш, каб ён вярнуўся?

— Таму і малюю яго так часта над старым Віцебскам, таму амаль у кожнай маёй карціне ты сустрэнеш пеўняў, цырк, клоўнаў...

— Ведаеш, тата, — сказала Іда, — я ўжо не баюся. Чорны колер — гэта колер надзеі.

## Гісторыя шостая: жоўты колер

МАРК ШАГАЛ. Я пазнаёміўся з Бэлай восенню. Яе бацькі хацелі, каб я падарыў ёй залаты пярсцёнак. А я... што пярсцёнак! Дарыў ёй кожны дзень залатыя кароны... сплеценыя з кастрычніцкага лісця. Як мы любілі жоўты колер ва ўсіх яго адценнях!

Побач з Бэлай — усё ператваралася ў паэзію, яркі тэатр.

Падчас абеду я, захоплены якім-небудзь вобразам, забываў пра відэлец і мог есці рукамі. Бэла імгненна адкідала відэльцы з лыжкамі і разам з Ідай смешна паказвала, як я «прыгожа» ем.

Калі адна студэнтка мучыла мяне любоўнымі запіскамі, Бэла на іх аснове разыгрывала перада мной у ложку цэлую п'есу. Якія ў нас пасля гэтага былі ночы кахання!

А больш за ўсё на свеце яна любіла назіраць, як я дапісваю свой новы твор. Карціна гатовая, але яе героі спяць. І тады мая Бэла ідзе да іх у госці. І як толькі робіць вось так: фьюююю! (Дзьме.) Усё ажывае! Музыка! Танцы! Карнавал! Яе дыханне! Яе чароўнае дыханне. Адзінае, што я ніколі не мог намаляваць...



**Марк Шагал. «Я і вёска», 1911**

А пасля наступіла цішыня. Я разлюбіў жоўты колер ва ўсіх яго адценнях. Кляновыя лісты навязліва падалі мне ў рукі, спляталіся ў залатыя кароны, а я адкідаў іх... Восенню 1944 года раптоўна падзьмуў такі пранізліва-моцны вецер, што я не ўтрымаў маю Бэлу... Яе падхапіла, а я застаўся адзін...

## Гісторыя сёмая: белы колер

Я глядзеў на чыстае палатно і не бачыў нічога, акрамя пустога белага колеру. Казалі, што ў мяне была новая жонка, што яна збегла затым да нейкага каханка. Што ў мяне была другая жонка, і мы з ёй добра жылі. Усё можа быць. Не памятаю. У мяне нават з'яўляліся новыя карціны, роспісы, кераміка... Імі захапляліся. Можа быць... Усё можа быць... Я ж нічога не бачыў, акрамя пустога і такога балючага белага колеру.

Аднойчы я адчуў, як на мяне нехта глядзіць. Перада мной стаяў жабрак. Ад яго ўсмешкі боль прайшоў.

— Я магу выканаць толькі адно жаданне. Як не ведаеш, што пажадаць зараз, скажы, калі да цябе з'явіцца, і жаданне будзе выканана ў любы час.

— Але маё жаданне ты калісьці ўжо выканаў...

— Ёсць адна вельмі сумная дзяўчынка... Я з'явіўся да яе, і яна сказала, што дорыць сваё жаданне табе.

— Хто яна? Іда?

— У мяне мала часу. Што ты жадаеш?

Раз! На палатне раптам з'явіўся васількова-сіні плот. Мой бацька лунае над ім і весела падміргвае...

Два! Побач узнік ізумрудны ліхтар, які цалуе сваімі промнямі лужыну ў форме сэрца...

Тры! Загараецца хата. Пажар разрастаецца, але з ружовай Эйфелевай вежы лятуць козы і блазны, скрыпачы і каровы, пеўні і хасіды. Яны ператвараюць языкі полымя ў бутоны руж, рознакляровыя гладыёлусы, бэз, рамонкі... Гэта не проста кветкі, а сапраўднае ложа з якога я чую:

— Кладзіся побач са мной. Будзем кахацца ў гэтых кветках!

Я адчуў дыханне. Яе дыханне. Гэткае: фьюююю! (Дзьме.)

28 сакавіка 1985 года я пачаў ажываць. Чую музыку! Хачу танцаваць! Яе дыханне! Яе чароўнае дыханне. Адзінае, што я ніколі не ўмеў маляваць, але зараз, адчуваю, намалюю. Абавязкова намалюю.

— Бэла, я іду да цябе! Іду!

*У творы выкарыстаны фрагменты з паэм Міхася Чарота «Босыя на вогнішчы» і «Чырвонакрылы вяшчун».* **Заўвага аўтара.**




# Павел Падкарытаў

**бізнэсовец, мецэнат, старшыня культурніцкага фонду «Вяртанне», які падтрымлівае шматлікія літаратурныя, музычныя, тэатральныя і выдавецкія ініцыятывы на Беларусі. Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Снежынску на Урале. Жыве ў Варшаве.**

# Я не выпадкова апынуўся ў Беларусі...

***Ці мелі б мы сёння Біблію Францішка Скарыны, ці чыталі б «Вянок» Максіма Багдановіча, ці любаваліся б залатымі ўзорамі слуцкага пояса, калі б не існавала такіх людзей, якіх называюць мецэнатамі? Сённяшні мой суразмоўца, расійскі бізнэсовец з беларускімі каранямі Павел Падкарытаў якраз належыць да кагорты гэткіх людзей. Ён вядомы як мецэнат, заснавальнік культурніцкага фонду «Вяртанне», стваральнік Музея беларускай шляхты ў маёнтку Падароск... Аб тым, што падштурхнула яго да падтрымкі беларускай Культуры, прымусіла змяніць нацыянальную самасвядомасць і заахвоціла вывучыць беларускую мову — нашая з ім гутарка.***

**Эдуард Акулін:** — *Спадар Павел, сёння на Беларусі вы вядомы, як мецэнат, старшыня культурніцкага фонду «Вяртанне». Як атрымалася, што вы, грамадзянін Расіі, прадстаўнік сучаснай бізнэссферы апынуліся ў самым цэнтры беларускага культурнага мэйнстрыму?*

**Павел Падкарытаў:** — Гісторыя гэта даўняя, але, здаецца, для Екацярынбурга ўжо амаль тыповая, бо вялікі Пясняр Уладзімір Мулявін, мой уральскі зямляк, першы праклаў шлях з расійскай культуры ў беларускую. Так што я толькі пайшоў па ягоных слядах...))

А калі сур'ёзна, то ўсё пачалося з дзяцінства, калі мая бабуля Ірына, якая паходзіць з вёскі Варкі з-пад Чашнікаў, упершыню паведаміла мне пра краіну з назвай Беларусь. Яна яшчэ маладой з'ехала назаўжды з Беларусі, пабраўшыся шлюбам з маім дзедам, які родам з Вяткі, таму што дзеда, які працаваў на чыгунцы, часта перакідвалі з месца на месца: з Лепеля ў Воршу, з Воршы — у Петразаводск, і гэтак далей. У выніку яны апынуліся ў Свярдлоўску (як тады называўся сучасны Екацярынбург), дзе і жыла далей наша сям'я.

Я не выпадкова апынуўся ў Беларусі, таму што з дзяцінства ведаў, што недзе за гарамі і барамі ёсць краіна, не чужая мне. Бабуля апавядала мне пра сваё дзяцінства, казала цудоўныя беларускія словы кшталту «калідор» і «спінжак», спявала народныя песні, а калі чула «Песняроў» — заўжды падцягвала за імі, а па яе шчоках каціліся слёзы. Яна не магла спакойна чуць словы: «Молодость моя, Белоруссия!», казала: «Гэта ж пра мяне песня...».

Так што ўсё гэта было пэўным чынам прадвызначана.

**Э.А**. — *А гэта праўда, што ў школьныя гады, каб падкрэсліць сваю беларускую ідэнтычнасць, на кастрычніцкіх дэманстрацыях вы заўсёды выбіралі беларускі сцяг?*

**П.П.** — Так, быў такі грэх — хадзіў я на кастрычніцкія дэманстрацыі... Ведаеце, мы жылі тады ў Савецкім Саюзе, вакол мяне на Урале гучала толь-

кі руская мова, нікуды мы не ездзілі асабліва, і, хаця я ведаў, што ў СССР ёсць шмат саюзных нацыянальных рэспублік, але чамусьці быў упэўнены, што Мінск, Алма-Ата, Кіеў і Ерэван — такія ж дакладна савецкія гарады, як і Свярдлоўск (Екацярынбург зараз), і там таксама ўсе гавораць па-руску. Але, мабыць, падсвядома я і тады ўжо пратэставаў супраць гэтай аднолькавай руска-савецкай афарбоўкі, і калі фізрук Уладзімір Дзмітрыевіч (ён камандваў усімі транспарантамі на савецкія святы) выдаваў нам сцягі саюзных рэспублік — то я заўсёды браў сабе, хай і савецкі, але беларускі сцяг. Памятаю, як аднойчы нехта мяне апярэдзіў, і мне давялося шукаць сабе іншы сцяг — і я выбраў сцяг Літоўскай ССР. Таксама нядрэнна, лічу.))

**Э.А.** — *А якім вы былі школьнікам? Якія прадметы вам падабаліся больш за ўсё? Чым вы захапляліся? Магчыма складалі вершы ці ігралі на нейкім музычным інструменце?*

**П.П.** — Школьнікам я быў даволі ўзорным. У сэнсе, што ніякіх праблемаў у мяне не было з навучаннем, амаль да самага сканчэння школы я быў, як кажуць, «круглым выдатнікам». Мог, канешне, схапіць і «траяк», і нават «двойку», але гэта было два-тры разы на год. А вось паводзіны кульгалі: вельмі любіў на ўроках «пачасаць» языком з сябрамі — бо, напэўна, хутка разумеў усё, пра што распавядаў настаўнік, і мне было ўжо нецікава...

Вельмі любіў гісторыю. Звычайна я прачытваў увесь падручнік па гісторыі ўжо ў першы дзень, як атрымліваў яго на новы навучальны год. А потым можна было гісторыю і не вучыць. Я, памятаю, купляў нават інстытуцкія падручнікі па гісторыі і праглынаў іх. Дарэчы, менавіта з нейкага вузаўскага падручніка сярэднявечнай гісторыі я даведаўся пра існаванне дзяржавы Вялікае Княства Літоўскае і гэта, упэўнены, таксама паклалася ў падмурак будучага вяртання да Беларусі. Канешне, як хлопца мяне вельмі цікавіла вайсковая гісторыя. Чытаў усё, што траплялася пад руку з гэтай галіны. Была, памятаю, такая кніга — «Книга будущих командиров». Яна зрабілася на пэўны час маёй настольнай кнігай. Мы з сябрамі вывучалі арміі і бітвы мінулых часоў, рабілі ваенна-гістарычныя рэканструкцыі. Я ведаю, што кніжка гэтая адыграла вялікую ролю не толькі ў маім жыцці, але і ў жыцці іншых людзей, якіх я лічу сапраўднымі патрыётамі Беларусі — напрыклад, Міраслава Лазоўскага ці Алеся Кіркевіча. Мы ў дзяцінстве рабілі вялізарныя папяровыя арміі і разыгрывалі асобныя бітвы і цэлыя кампаніі. Я асабіста камандваў французамі Банапарта — у мяне было некалькі скрынак з пяхотай, конніцай, артылерыяй.

Але, па вялікім рахунку, галоўнае захапленне майго дзяцінства — гэта ўсё ж такі кнігі. Кнігі я чытаў усе, што трапляліся. І гэтае захапленне працягваецца па сёння. Нават у войску, дзе ў цябе зусім няшмат рэчаў і месца для іх, я заўжды трымаў у афіцэрскім планшэце якую-небудзь кнігу і не было для мяне лепшага адпачынку, як чытанне... Дарэчы, чытаючы кнігі, я амаль не вучыў рускую мову ў школе — усе правілы правапісу адбіваліся ў галаве менавіта з кніг, і я ўпэўнены, што ўсе гэтыя «жи ши пиши..» вучыць не трэба, дастаткова толькі чытаць кнігі...

Са школьных прадметаў для мяне заўжды цікавая была матэматыка, асабліва, калі пачалася геаметрыя і трыганаметрыя. Вельмі здзіўляла мяне і падабалася, як запісаныя формулы на вачах ператвараюцца ў намаляваныя графікі, быццам нейкім чароўным заклёнам я вызваляў магічныя сэнсы са звычайных літар і лічбаў.

Захапляўся хіміяй, але чамусьці мяне не вельмі любіла выкладчыца хіміі (і загадчыца па вучэбнай частцы) — напэўна, з-за тых жа актыўных маіх паводзін на ўроках, якія ёй, відаць, заміналі весці заняткі. Яна ўляпіла мне ў 10 класе адзіную ў гісторыі майго навучання «тройку» за першую чвэрць, лічу, цалкам незаслужана, з-за чаго «праляцеў, як фанера» мой залаты школьны медаль, які быў цалкам да гэтага рэальны. А класны кіраўнік не здолеў аспрэчыць рашэнне завуча школы.



*Другі клас школы №2 г. Свярдлоўска. 1976 г.*

Вось што я абсалютна не любіў — дык гэта фізіку. Б-р-р-р... Не ведаю нават чаму. І бацькі мае скончылі радыёфак УПІ. І матэматыка ў мяне выдатна ішла, і хімія — таксама, вельмі блізкія да фізікі прадметы, але ж... Калі я нейкім цудам здаў выпускны школьны экзамен па фізіцы на «выдатна» (а там была свая амаль неверагодная гісторыя), то выкладчык з Уральскага дзяржуніверсітэта (электратэхнічны факультэт), які прысутнічаў на экзамене, запрасіў мяне ва ўніверсітэт на свой факультэт без уступнага экзамену — памятаю, як я на злом галавы ўцякаў з гэтага кабінету...

Па-за школай я таксама шмат чым займаўся. З дзяцінства любіў футбол. У школе на фізкультуры нас прымушалі рабіць рознае глупства — скакаць праз казла, падцягвацца, бегаць крос, гуляць у зале ў баскетбол. А я (і мае сябры) марылі пра адно — гуляць у футбол. Восенню і зімой, вясною і летам. Звычайна пасля школы я забягаў дадому, хуценька з'ядаў усе прысмакі, што прыгатавала бабуля Ірына, скідаў школьную форму і імчаў на корт, які месціўся ў суседнім двары. Там мяне ўжо чакалі мае сябры-аднакласнікі і аднашкольнікі, і мы лупцавалі па мячы амаль да прыцемкаў.

Заўзятар я быў таксама апантаны.Напрыклад, я ведаў па імёнах склад кожнай зборнай чэмпіяната свету 1982 года ў Гішпаніі, нават такіх экзатычных, як Алжыр ці Сальвадор. Не ведаю, навошта мне гэта было, але я памятаў гэтую інфармацыю. Як і вынікі кожнага матча, якія я запісваў у сшытку, рабіў групавыя табліцы і пары плэй-офф. У 1984 годзе гэтая ж гісторыя паўтарылася з чэмпіянатам Еўропы ў Францыі, а потым скончылася школа, і з'явіліся іншыя

нагоды для трэніроўкі памяці. Ну і, канешне, беларускасць і тут праявілася — я быў адзіным у класе заўзятарам менскага «Дынама». Усе заўзелі за кіеўскае «Дынама» ці за маскоўскі «Спартак», а я быў фанатам Гурыновіча, Пракапенкі, Курненіна. Памятаю стан абсалютнага шчасця, калі менчукі ў вырашальным матчы 1982 года перамаглі «Спартак» у Маскве з лікам: 4:3.

Я б гуляў у футбол увесь час, але вярталіся з працы бацькі, і даводзілася сядаць за ўрокі, ды яшчэ і наведваць музычную школу. Так, я скончыў музычную школу па класу скрыпкі, і вельмі добра вучыўся — мог бы зрабіць музычную кар'еру, бо быў адным з найлепшых скрыпачоў свайго ўзросту ў горадзе. Выпускны канцэрт я выдатна адыграў, атрымаў «пяцёрку» і запрашэнне ў музычную вучэльню, і нават падумаў — а чаму б і не? Але доўжылася гэта максімум пару дзён. Пачаліся канікулы пасля 8-га класа — лета, свабода, футбол, і думкі пра музычную кар'еру былі пакладзеныя ў шафу разам са скрыпічным футаралам. Праўда, я раз-пораз бяру скрыпку адтуль і нешта пілікаю для сябе. У мяне зараз дзве скрыпкі — адна XIX стагоддзя, сямейная рэліквія, якую перадала мне другая мая бабуля — Зінаіда, якая паходзіць з Санкт-Пецярбургу, і электраскрыпка, якую я набыў год таму.

Гуляў я падлеткам і ў хакей — тады амаль у кожным двары былі хакейныя пляцоўкі, і нават прафесійныя трэнеры працавалі з дваровымі камандамі. Я гуляў брамнікам і вельмі няблага, але калі трэба было зрабіць выбар на карысць хакейнай кар'еры і перавесціся ў адпаведную спартовую школу, то не змог развітацца са школьнымі сябрамі і «прафесійны» хакей кінуў. Больш за ўсё радая гэтаму была мая настаўніца па скрыпцы — думка пра тое, як я сваімі тонкімі музыкальнымі пальцамі два разы на тыдзень трымаю нейкую грубую клюшку і нават лаўлю шайбу, кідала яе ў дрыжыкі. Зараз мы часам збіраемся з сябрамі і таксама гуляем у хакей, але я ўжо гуляю ў полі, бо брамнікаў у нас няма.

А вось вершы — гэта не маё. За ўсё юнацтва я склаў адзіны верш, вядома, пра каханне, але зараз не рызыкну яго прачытаць. Хаця празаічныя формы мне добра даваліся — школьныя сачыненні заўжды атрымлівалі высокую адзнаку.))

**Э.А.** — *Як і Максім Багдановіч, па адукацыі вы — юрыст... А яшчэ, здаецца, пачыналі сваю прафесійную кар'еру як вайсковец... Хто паўплываў на выбар вашай прафесіі?*

**П.П.** — Натуральна, цікавасць да вайсковай справы і вайсковай гісторыі адыгралі сваю ролю. Памятаю таксама кнігу савецкага пісьменніка Уладзіміра Карпава «Маршальскае жазло», якую падаравалі мне ў школе за выдатнае заканчэнне 5 класа. Кніга была пра савецкую армію 70-х, яна мяне вельмі ўразіла, і ўпершыню тады з'явілася думка паступаць у вайсковую вучэльню. Напрыканцы школы я ўжо не так каб надта хацеў быць вайскоўцам, такой традыцыі не было і ў нашай сям'і. Я ўсё ж больш схіляўся пайсці ў юрыдычны інстытут. Але ў савецкі час хлопцаў бралі ў юрыдычны толькі пасля войска,



*За пяць хвілін да лейтэнанцкіх пагонаў... Экзамен па тактыцы. 1989 г.*

і пэўны час я вагаўся, што ж рабіць пасля школы — ці паступаць некуды ці чакаць прызыву, каб пасля службы ў войску пайсці ў юрыдычны. І тут бацька ўзяў мяне, як кажуць, «на слабо» — спытаў, можа, я баюся паступаць у вайсковую вучэльню? І я пайшоў. Памятаю, толькі крыху больш за тыдзень прайшло пасля выпускной вечарыны ў школе, а я ўжо пагрукаўся ў дзверы ваенкамата з рэчамі.

Вайсковая вучэльня была ў Свярдлоўску, і яна была не камандная, а ваенна-палітычная (і танкава-артылерыйская яшчэ). Дарэчы, конкурс туды складаў у 1985 годзе 12 чалавек на месца, так што трапіць у шэрагі курсантаў было не так і проста. Але я паспяхова здаў экзамены і ў 17 гадоў стаў вайскоўцам. Пасля сканчэння вучэльні атрымаў лейтэнанцкія пагоны і два гады служыў афіцэрам. Год быў у складзе савецкага кантынгенту ў Чэхаславаччыне, а ў 1990 годзе пасля вываду адтуль савецкага войска і пачатку масавага скарачэння арміі, я звольніўся ў запас і ў 1991 годзе ўсё-ткі паступіў у юрыдычны інстытут, спраўдзіўшы сваю школьную мару. Дарэчы, пра вайсковую службу не шкадую, бо знайшоў там лепшых сяброў на ўсё жыццё, атрымаў велізарны жыццёвы досвед, зрабіўшыся не «мальчиком, но мужем». Зрэшты, правёў я ў войску не так і шмат часу, каб гэта неяк негатыўна паўплывала на мой светапогляд. Ды й часы тады былі ўжо не такія людажэрскія... І хаця я і быў з 1986 года ў шэрагах камуністаў (для зампаліта не было іншых варыянтаў), але апынуўся ўжо сярод «партыйных дысідэнтаў» — падтрымліваў земляка Барыса Ельцына ў ягонай барацьбе з партыйнай наменклатурай, а таксама «Дэмплатформу» ў КПСС, потым МДГ на З'ездзе народных дэпутатаў СССР. А пасля путча 1991 года (які амаль супаў з маім сыходам з войска) спыніў сваё членства ў Камуністычнай партыі.

**Э.А.** — *Распавядзіце крыху пра сваіх бацькоў... Кім яны працавалі? Ці былі ў іх творчыя здольнасці?*

**П.П.** — Мае бацькі нарадзіліся ўжо на Урале і сваё дзяцінства правялі ў Свярдлоўску. Вучыліся ў адной школе, дзе і пасябравалі, потым паступілі ў адзін інстытут — Уральскі Палітэхнічны, пабраліся шлюбам і разам паехалі працаваць у «паштовую скрыню» — сакрэтны горад паміж Свярдлоўскам і Чалябінскам, дзе распрацоўвалася савецкая ядзерная бомба... У гэтай «скрыні» я і нарадзіўся, зараз яна атрымала ўласнае імя — горад Снежынск. Праз тры гады мы адтуль з'ехалі, бо ў Свярдлоўску памёр мой дзед Павел Цімафеевіч (муж бабулі Ірыны), і мы пасяліліся разам з бабуляй у трохпакаёўцы, якую дзед атрымаў ад чыгункі. Больш з Свярдлоўска яны не з'язджалі нікуды і цяпер жывуць там, толькі перабраліся ў іншую кватэру. І бацька, і маці працавалі на абарончых прадпрыемствах інжынерамі ў канструктарскім бюро, а зараз ужо на пенсіі.

Бацька, Уладзімір Паўлавіч, — вельмі творчая асоба. У дзяцінстве навучыўся іграць спачатку на гармоніку, потым на баяне, акардэоне і піяніна. На акардэоне ён іграе проста віртуозна, цудоўна спявае, заўжды быў і ёсць у цэнтры кожнага нашага сямейнага ці сяброўскага свята — ад 70-х (ужо на маёй памяці) і дагэтуль.

Калі ён вучыўся ў інстытуце, то разам з сябрамі яны стварылі каманду КВЗ, удзельнічалі ў шматлікіх конкурсах, а потым стварылі ВІА «Вясёлыя рабяты», які быў зоркай інстытута, а потым Снежынска, куды ансамбль пераехаў на

*«З песняй па жыцці». Уладзімір Паўлавіч Падкарытаў. 2012 г.*





*Сям'я святкуе 70-гадовы юбілей Уладзіміра Паўлавіча, бацькі Паўла. 2012 г.*

працу амаль поўным складам. Яны выконвалі савецкія эстрадныя песні, джаз, а бацька адразу стаў салістам-вакалістам, візітоўкай калектыву.

Дагэтуль раз на год у Снежынску кіраўнік ансамбля Вадзім Андрэеў (зараз ён кіруе ўжо эстрадна-сімфанічным аркестрам Снежынска) ладзіць вялікі тэматычны канцэрт, прысвечаны то савецкай эстрадзе, то сусветнаму джазу — і запрашае бацьку як саліста на 2-3 кампазіцыі. І бацькаў выступ робіцца сапраўдным «цвіком праграмы». Я аднойчы трапіў на такі канцэрт (гэта быў адзіны раз, калі я наведаў горад свайго маленства, бо ён дагэтуль закрыты і патрапіць туды вельмі цяжка) і быў уражаны тым прыёмам, які снежынцы зладзілі бацьку.

У Свярдлоўску ён спяваў у мастацкай самадзейнасці свайго прадпрыемства, а таксама ў вакальнай студыі Палаца чыгуначнікаў, засвоіў і класічны рэпертуар, і аперэту, выступаў на шматлікіх канцэртах у Свярдлоўску-Екацярынбургу. Рабілі мы некалькі камерных нумароў сямейным трыа — бацька, я на скрыпцы і мая малодшая сястра Наталля на піяніна. Нас запрашалі некалькі разоў на Свярдлоўскае радыё і тэлебачанне. Карацей, ён — сапраўдны прафесійны спявак, і лепш за ўсё пра яго сказаць словамі, якія аднойчы папярэднічалі ягонаму выхаду на сцэну, а зараз з'яўляюцца ягоным жыццёвым дэвізам: «Через концерты и года шагает он с душой открытой — вчера, сегодня и всегда поёт Владимир Подкорытов!»

Маці, Ніна Паўлаўна, спяваць таксама ўмее, хаця і не так хараша, як бацька. У сямейных застоллях яна заўжды спявае, але сольнай кар'еры не зрабіла, яна фактычна была галоўным музычным менеджарам сям'і, апякуючы і

бацькаву творчасць, і нашае з сястрой Наталляй навучанне музыцы, і заняткі ўнучкі Міланы ў вакальна-харэаграфічнай студыі. Сястра мая, скончыўшы музычную школу, вучэльню і кансерваторыю па класе фартэпіяна, зараз працуе канцэртмайстрам у кансерваторыі, забяспечвае музычнае суправаджэнне студэнтам опернага факультэта.

**Э.А.** — *Ці памятаеце вы сваё першае каханне? Кажуць, што яно не заўжды шчаслівае... А як склалася ў вас? У якім узросце вы стварылі сям'ю?*

**П.П.** — Першае каханне не памятае хіба што зусім чэрствы чалавек... Скончылася яно, як і павінна было скончыцца тыповае першае каханне, — няўдала. Гэтую дзяўчынку, якая мела класічнае рускае імя Наташа, я прыкмеціў (і адразу закахаўся) у 5 класе. Партфель ёй я не цягаў, бо гэтак не было прынята ў нас, а часцей мы біліся з ёй і з яе сяброўкамі, вось такое суворае ўральскае

*З жокай Вольгай. Нотр Дам дэ Пары.2015 г.*



каханне. Жартую, канешне, біліся мы не па-сапраўднаму, так, валтузіліся крыху, але гэтак мы, неразумныя падлеткі, выказвалі сваю ўвагу адно да аднаго. Адносіны нашыя складаліся ўвесь час зменліва, як на арэлях — яна то вельмі прыязна ставілася да мяне, то амаль не заўважала... А я моўчкі пакутваў. Прызнаўся ёй у каханні на Новы год у 10 класе, і да выпускной вечарыны мы былі амаль штодня разам, і кароткія белыя ночы падчас выпускных экзаменаў гулялі па начному Свярдлоўску, не даючы спакойна спаць бацькам.

Але потым я стаў курсантам, на першым і нават другім курсе хадзіў у звальненні вельмі рэдка (мы вучыліся на казарменным становішчы і дысцыпліна была вельмі жорсткая), сустракаліся нячаста і я, відаць, згубіў адчуванне сітуацыі. Яна чакала ад мяне наступнага рашучага крока, прапановы рукі і сэрца, а я чамусьці яго не зрабіў — нават зараз не магу адказаць сабе, чаму. І знайшоўся іншы хлопец, які такі крок зрабіў. Так што я сам цалкам вінаваты ў тым, што страціў свае першае каханне...

Тры гады пасля гэтага я нават глядзець не хацеў на іншых дзяўчат, але неяк на вечарыне ў свайго сябра па вучэльні, з якім мы разам служылі потым, сустрэў ягоную аднакласніцу Вольгу, і як толькі зазірнуў у яе прыгожыя вялікія вочы, толькі пачуў яе голас — дык закахаўся адразу і назаўжды...

Праз 9 месяцаў мы пабраліся шлюбам, нам было па 23 гады, і мы ўжо 26 год разам.

**Э.А**. — *Бізнэс, асабліва буйны, напрыканцы 90-ых гадоў у Расіі быў вельмі небяспечным заняткам. Яго часам не без прычын пар ўноўвалі з сапраўдным полем бою... Ведаю, што асабіста для вас, гэтая бізнэс-вайна закончылася трагічна... І адабрала 5 гадоў вольнага жыцця. Але, як кажуць, ліха без дабра не бывае, бо менавіта ў вязніцы да вас прыйшло беларускае пакліканне... Як гэта здарылася?*

**П.П.** — Уральскі бізнэс, сапраўды, вельмі часта быў полем бою — і па сёння пра гэта нагадваюць шматлікія помнікі на Шырокай Рэчцы ці на Паўночных могілках Екацярынбурга. Але мы не былі ў цэнтры гэтых разборак — бо былі ўсё ж не бандытамі ці спартсменамі. Наша каманда складалася з былых студэнтаў эканамічнай і юрыдычнай акадэміяў, і працавалі мы не на полі бітвы за рэчавыя рынкі ці каналы пастаўкі легальнага і нелегальнага алкаголю і цыгарэтаў, на якім часта гучала аўтаматная страляніна, а на іншай дзялянцы. Мы заснавалі чэкавы фонд прыватызацыі, які браў удзел у прыватызацыйных працэдурах, якія адбываліся тады з былымі савецкімі прамысловымі прадпрыемствамі. Наш фонд дзейнічаў у супрацы з кіраўніцтвам буйных энергетычных прадпрыемстваў Урала і карыстаўся пэўным заступніцтвам з боку гэтых, тады дзяржаўных, структураў. Таму канфліктаў з бандытамі ў нас амаль не было. Хаця пару разоў і нам давялося сутыкнуцца з прадстаўнікамі сапраўдных арганізаваных злачынных груповак... Нам тады і пагражалі, і некалькі разоў давялося літаральна фізічна сутыкацца каля заводаўпраўленняў з крымінальнікамі і міліцыянтамі, якія падтрымлівалі іх вядома з якіх прычынаў.

## 25 чэрвеня 2016 г., субота.

Я не бачыў, не чытаў тыя празаічныя старонкі Максіма Багдановіча, якія маюць хоць і ўмоўную, але вабную назву «Інтымны дзённік».

І што цікава — і не хачу іх чытаць.

Раз-пораз на нашым гнілым літаратурным ганку ўзнікае дробная гаворка: «... друкаваць іх... не друкаваць...»

Не ведаю — праўда, часам думаю: наогул калі прыхоўваюцца тыя ці іншыя падрабязнасці жыцця знакамітых пісьменнікаў, то праз гэта ці не абмяжоўваецца чытацкая цікавасць да іхняй творчасці?!

## 26 чэрвеня 2016 г., нядзеля.

І напраўду ж у гарачыню думкі зусім кволыя і памяць такая ж...

Хацеў сёння згадаць адзін кароткі (добра засвоены раней!) верш і не згадаў, бо лета і сталы ўзрост менш спрыяюць памяці, а от зіма і маладосць...

У марозным снежні 1979-га з Вольгай (а мы толькі што пазнаёміліся!) паехалі з Масквы ў Звянігарад паглядзець на славутыя цэрквы і манастырскія муры.

І вось мы йдзем па стылай дарозе са станцыі ў сам Звянігарад, і я, студэнт Літаратурнага інстытута, раздзел за раздзелам (амаль на памяць!) пераказваю Вользе раман Эміля Заля «Нана», а на зваротным шляху з тым жа імпэтам пераказваю яшчэ адзін твор Э. Заля — раман пра мастака, якому не шанцуе — «Творчасць».

Малоў гадзіны з дзве, Вольга ж і слоўца не вымавіла.

Словам, была маладосць і снежаньскі мароз!

Не тое што цяпер — сталасць і чэрвеньская спёка...

Дарэчы, тады, калі, схаладалыя, вярнуліся ў Маскву, Вольга пастанавіла: «Лёня, у цябе жонка павінна быць такая, як я... Цярплівая...»

## 7 ліпеня 2016 г., чацвер.

Міхась Шавыркін адтуль — з Вільні, з Віленскай вуліцы, з дому братоў Луцкевічаў. Ён — пашыральнік ведаў пра Беларусь, а перш за ўсё — пашыральнік ведаў пра беларускую песню. Цяпер ці не ўсе гавораць пра ягоную светлую душу, лагодны характар, любоў да людзей...

«Як можна любіць людзей?!» — здзіўляюся, ці не летась адкрыўшы для сябе: «Людзей любіць немагчыма, бо каб інакш было, то Святое Дабравесце не заклікала б — любі свайго блізкага, любі сваіх ворагаў...»

А Міхась Шавыркін любіў — і гэта праўда, як і праўда тое, што і яго любілі.

Мноства забудзецца і ўжо, дзякуй Богу, забылася, а ён, Міхась Шавыркін, у маёй душы застанецца.

## 4 жніўня 2016 г., чацвер.

Пазаўчора коратка, але з толкам (ажно самому спадабалася!) размаўляў з Васілём пра Алеся Адамовіча і згадаў свайго літінстытуцкага выкладчыка — кіраўніка паэтычнага семінара Уладзіміра Мількова.

Аднойчы абмяркоўваючы нечыя вершы, У. Мількоў раптам загаварыў пра Твардоўскага, і мне вельмі спадабалася, што мой кіраўнік сказаў пра аўтара «Цёркіна»: «Твардоўскі быў настолькі прыгожы, што ад ягонай постаці нават веяла нейкай асаблівай фізічнай чысцінёй!»

Гэтыя пяшчотныя словы заўсёды прачынаюцца ў душы, калі думаю пра Твардоўскага і Алеся Адамовіча (вось такая сувязь!); для мяне словы У.Ількова заўсёды стасуюцца і з абліччам Алеся Адамовіча, калі ўяўляю яго, жывога, ці проста гляджу на ягоныя фотаздымкі, асабліва тыя, якія цудоўна рабіў Яўген Коктыш.

## 5 жніўня 2016 г., пятніца.

Яшчэ ўспамін пра Алеся Адамовіча...

У снежні 1984-га мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў БССР; у той жа дзень прынялі таксама С. Новіка-Пеюна, М. Дубянецкага, А. Каско, Л. Галубовіча, У. Марука, А. Пісьмянкова...

Словам, я трапіў у слаўную кампанію, скарбнікам якое выступіў Валодзя Марук, у выніку чаго ў рэстаране Дома літаратара дружна паселі за бясконцыя сталы чалавек сто віншавальнікаў, але найбольш з гэтай блішчастае сотні запомніўся Алесь Адамовіч. Ён кпіў з кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў, называў сакратароў імпатэнтамі, раскрываючы ім вочы: «Прымаеце ў Саюз адных толькі хлопцаў, а дзяўчат — не, ці гады ў рады!»

Ніл Гілевіч пры гэтым чырванеў, Міхась Стральцоў шчасліва ўсміхаўся.

Гледзячы на ўсіх нас, на А. Каско, Л. Галубовіча, У. Марука, А. Пісьмянкова і мяне, Алесь Адамовіч настаўляў: «Вучыцеся ў Міхася Стральцова!»

Ніл Гілевіч зноў чырванеў, а Міхась Стральцоў зноў шчасліва ўсміхаўся.

Калі ўсе ўжо ладна падпілі, а гоман за сталамі пабольшаў, Алесь Адамовіч вымавіў, мусіць, самае галоўнае: «Вось вы паэты... А паэт — гэта зграбны музыкант, не тое што празаік! Мы, празаікі, можам не ведаць нот, бо мы йграем на простым вясковым гармоніку! А вы, паэты, ноты павінны ведаць, бо вы йграеце на скрыпцы!»

## 7 жніўня 2016 г., нядзеля.

Пра царскія грошы...

Калі я Вольгу браў за жонку, баба Леся на разжытак падаравала мне залатую пяцёрку і залатую дзясятку — у 1980-м годзе пяцёрка ўпотай ад міліцэйскага вока йшла за 300 савецкіх рублёў, дзясятка — за 500.

Бацька мой Васіль хваліў тады Мікалая II:

— Гэто цар дык цар! Такія грошы прыдумаў, шчо па сённяшні дзэнь у ходу!

Доўгі час я думаў, што існавалі толькі царскія пяцёркі і дзясяткі, аднак у 1897 годзе адчаканены былі і 15 залатых рублёў...

У красавіку 1949 года сталінскія службісты падпалкоўнік Масленнікаў, старшы лейтэнант Казлоўскі і старшы лейтэнант Сакалоў падчас вобыску забралі такую манету ў ксяндза Адама Станкевіча.

Аўтар манаграфіі «Хрысціянства і беларускі народ» падзвіжнік і пакутнік Адам Станкевіч у сваёй віленскай кватэры на Полацкай вуліцы меў кнігазбор у 2000 тамоў і толькі адну залатую манету вартасцю 15 рублёў.

## 23 жніўня 2016 г., аўторак.

З Лагацкім, героем апавядання Міхася Стральцова «Блакітны вецер», рабілася нешта незразумелае, нешта даткліва-няўпыннае — яму, маладому няўдачніку, які не ўмеў «... уладкаваць сваю душэўную гаспадарку...» сніўся... блакітны вецер. Звычайна ў дзве гадзіны ночы Лагацкі прачынаўся і пачынаў бадзяцца па горадзе.

Пэўна, з гэтага адчування Міхась Стральцоў выснаваў і вершаваныя радкі:

*Ды скруха скорыцца журбе,*
*Душа ізноў рахманай стане.*
*І твой зласлівец на цябе*
*У неспакоі раптам гляне!*

## 17 верасня 2016 г., субота.

Ягор Ісаеў аднойчы сказаў нам, студэнтам:

— Звярніце ўвагу на мову артыстак... Яны ў інтэрв'ю ніколі не забудуць пахваліць свайго рэжысёра, як і прамовіць, што вельмі шчаслівыя працаваць з ім... Яны заўсёды скажуць, што ягоны фільм (спектакль) зрабіў на іх вялікае ўражанне... Наогул, без слова ўражанне (впечатление) артысткі абысціся не могуць і, вымаўляючы яго, заўжды соладка заплюшчваюць вочкі...

Дакладнасць назірання!

## 18 верасня 2016 г., нядзеля.

У красавіку 1974-га я вучыўся ў дзясятым класе; бацька і маці, а таксама баба Прося, паехалі, як заззвычай ездзілі вясною, на Данбас гандляваць насеннем кветак і гародніны, а мне трэ было ўскапаць і засеяць два гароды — свой у Кодаку[2], які быў на шэсць сотак, і бабін, што на вуліцы Альшанскай — пляц гэтак сотак на дзесяць.

Разам склаўшы, выходзіў даволі вялікі майдан.

Я працаваў больш за тыдзень, а можа нават і два тыдні — як той казаў, ад світання да змяркання не выпускаў з рук жалезняка і граблі, і зрабіў усё як след — і ўскапаў, і засеяў, і забаранаваў, і, вядома ж, межы выпляскаў.

Увесь прапах вясновай свежай раллёй, стаміўся дужа — рабіў жа ўсё сам, толькі ў апошні дзень мой кодацкі сябар Валодзя Вінаградаў дапамог кінуць бульбу ў бабіным гародзе.

Словам, па вялікай рабоце я захацеў адпачыць, таму і пайшоў у кіно; давалі якраз новы фільм «Каліна чырвоная», і я купіў білет на 17 гадзін.

Карціна так узяла за душу, так увайшла ў сэрца, так спадабалася, што пасля сеанса, як зачараваны, я зноў ткнуўся ў касу і ўзяў квіток і на 19 гадзін.

[2] «Кодак» — вуліца ў Давыд-Гарадку. Яе савецкая назва – вуліца Антона Макаранкі.

З таго красавіка мінула дай Божа колькі гадоў, аднак жа ніводзін фільм вось так запар два разы я не глядзеў — толькі яе адну, «Каліну чырвоную» Васіля Шукшына. І фільм гэты для мяне заўсёды пахне вясновай красавіцкай зямлёй ускапаных і засеяных давыд-гарадоцкіх агародаў.

**11 кастрычніка 2016 г., аўторак.**

На тэлевізійным экране мільгае рэкламны радок: «Пакроўскі кірмаш».

Паводле беларускага напісання, ці праўдзівей — паводле беларускага сінтаксісу трэ было б нашым рэкламшчыкам накрэсліць: «Кірмаш на Пакровы!»

«Пакроўскі» ж — гэта калька рускага «Покровский»; па-беларуску так нельга ні пісаць, ні казаць!

**24 кастрычніка 2016 г., панядзелак.**

Яўген Еўтушэнка на тэлевізійным экране...

Гальштук і пінжак (хоць вочы заплюшчы!) колераў нейкай неверагоднай вясёлкі — такіх колераў, мусіць жа, няма і ў самой прыроды, аднак жа ў яго, Яўгена Еўтушэнкі, яны ёсць!

Яму за восемдзесят, а ён па-ранейшаму захоўвае інтэлектуальную вышыню і па-ранейшаму па-мужчынску прыгожы, нават у дробным руху таленавіты, разумны, чалавек вялікага ахопу, а галоўнае — добры...

З нязменнай пашанай гаворыць пра Твардоўскага і Сіманава, як і пра Анатоля Кузняцова — аўтара «Бабінага яра»; пэўна ж, у Расіі ён толькі адзін і ўмее хваліць іншых творцаў!

Зрэшты, не толькі ўмее хваліць...

У ліпені 2000-га я бачыў іншага Яўгена Еўтушэнку — тады, у Маскве, у французскім пасольстве на маіх вачах ён паслаў на х... аднаго надакучлівага ліберала, і мне гэта вельмі спадабалася, бо (мяркую з таго, што ведаю) пранырлівага фацэта было за што пасласць...

Наогул жа, Яўген Еўтушэнка абуджае ў маёй памяці толькі дадатныя ўспаміны...

У леташняй гутарцы з Наталляй Бардзілоўскай ён сказаў добрае слова пра беларускую мову...

У 2010 годзе падтрымаў Уладзіміра Някляева...

У 1981 годзе ён званіў Валянціне Шчадрыной — яму вельмі патрэбна было, каб у паэме «Мама і нейтронная бомба» прагучала беларуская мова, і менавіта з вуснаў Валянціны Шчадрыной наша мова ўвайшла ў 11-ты раздзел ягонай знакамітай паэмы (памятаеце: «... Ды няма нічога, каб хаваць...», «... Песні пішуць для задавальнення, якая ж гэта праца...», «... Шукай радню і заўсёды радню адшукаеш, як нас адшукаў і за гэта дзякую, унучак...» і г.д.)...

У снежні 1979-га ў Маскве ля Цэнтральнага Дома літаратараў (ЦДЛ) я першы раз убачыў сваю будучую жонку Вольгу; ужо праз некалькі хвілін мы сядзелі ў вялікай зале ЦДЛ і слухалі яго, Яўгена Еўтушэнку.

Такое шчаслівае супадзенне!

Высокі, худы, у лыжна-белым світэры «пад душу» ён артыстычна чытаў раздзел са свайго рамана «Ягаднае месца».

І тут можна сказаць хіба наступнае — з ягонай прозы, а не з ягонай паэзіі (што само па сабе даволі цікава!) пачалося маё сямейнае жыццё.

А яшчэ можна сказаць і так — ён не толькі паэт, ён перш за ўсё тая асоба, імя якой — захапленне...

## 29 кастрычніка 2016 г., субота.

Аповесць Янкі Брыля «Сірочы хлеб»...

Хлопчык Даніла Малец і яго ранняя, яшчэ да школкі, праца — ён свінапас!

Хлопчык Даніла і яго маці-ўдава, і польская школа, і старэйшы сябар, ягоны абаронца на вёсцы, Мікола Кужалевіч, на якога палюе дэфензіва; менавіта Мікола, што невыпадкова, адкрывае хлопчыку паэзію Янкі Купалы.

А яшчэ — чужая польская дзяржава і вельмі вабная польская культура, і дзівосная настаўніца пані Мар'я, якая прыехала працаваць у Заходнюю Беларусь з цэнтральнай Польшчы.

Настаўніца далікатная, а галоўнае — разумная і чулая; яна сэрцам адчувае — беларускім дзецям патрэбна беларуская мова і самастойна вывучыла яе!

Мікола Кужалевіч з аднадумцамі дамагаецца, каб у іхняй школе вучыліся і на мове Янкі Купалы, і вось з вуснаў пані Мар'і вучні чуюць не толькі апавяданні Генрыка Сянкевіча, аднак жа і творы Алаізы Пашкевіч — Цёткі!

Ды жыццё застаецца жыццём, бо яно заўсёды жыццё — часцей паказвае сябе не на покуці, а дзе-небудзь пад павучыным ганкам — словам, пані Мар'я на нейкі час мусіла па хваробе пакінуць школу, а з ёю на гэты ж час школу пакінула й беларуская мова.

Сталася непамыснае — не было каму дзетак вучыць па-хатняму!

І тады вучні змаўляюцца — на ўроках (няхай сабе) размаўляць па-польску, а паміж урокамі, на перапынках, гаварыць толькі па-беларуску, а «... хто акажацца, хоць слоўцам па-польску — пяць грошаў штрафу...»

Дарэчы, пра грошы...

У аповесці «Сірочы хлеб» — гэта, можна сказаць, асобная тэма.

Данілкаў дзядзька Пятрусь, які жыве ў СССР, прыслаў ім з маці адтуль савецкія чырвонцы — калі іх абярнуць у мікалаеўскае золата, будзе ажно цэлых трыццаць рублёў!

А мікалаеўскае золата ў Заходняй Беларусі, памятаць трэба, вышэй за польскія злотыя!

Вось і солтыс Марка Палуян не за злотыя, а за сорак пяць залатых расійскіх рублёў купляе ў пана Вільчыцкага дзве дзесяціны мурожнага лугу...

Аднак вярнуся да раптоўнай дзіцячай пастановы: за польскае слова, сказанае на школьнай пераменцы, — пяць грошаў штрафу!

А гэта ўжо крамола!

Бунт!

Ведаючы з кім сябраваў вучань чацвёртага класа Даніла Малец (а Мікола Кужалевіч ужо ў турме!), на Данілу й падумалі: «Завадатар ён!», таму й абрынулі найбольшую кару — выгналі са школы, не далі вучыцца далей...

А што ж ты думаў, хлопча?!

Вяртайся назад у пастухоўства!

Ты ўжо вырас, можаш пасвіць не толькі свінні, табе ўжо давераць і кароў...

Як сказаў твой новы настаўнік стары пастух Мікіта: «З пугі пачаў, пугай і завяршыў...»

Раз не ўмееш лізаць каму трэба сраку, раз не прадаў школьных сяброў і старэйшага сябра, свайго надзейнага абаронцу Міколу Кужалевіча — забудзься на кніжку (у сэнсе: на вучобу!), бяры торбу і пугу...

Не, на кніжку Даніла Малец не забыўся, і кніжка гэта (падарунак пані Мар'і!) — навелы Баляслава Пруса.

Якая сімвалічная карціна!

Адвярнуўшы кароў ад поля, з пастуховай пугай у руцэ беларускі хлопчык, вытураны з польскай школы, чытае творы польскага пісьменніка!

І няхай сабе абачлівы дзед Мікіта вучыць: «Унучак, калі трэба скінуць шапку перад панам, скінь...»

Не, гэты беларускі хлопчык шапку перад панам не скіне!

Такая яна, аповесць Янкі Брыля «Сірочы хлеб»...

## 3 лістапада 2016 г., чацвер.

Раптам падумалася пра Анатоля Ярмоленку, як пра спевака прасторы, і яшчэ падумалася пра тую адметную чароўнасць, пра якую вельмі добра сказаў Янка Брыль у сваёй прыкметнай аповесці «У сям'і»:

«... на школьную парту трэба больш сонца, — такога, каб на роднай мове гаварыла...»

Словам, падумалася пра вельмі цікавае — Анатоль Ярмоленка і беларуская мова.

І тут маю такія ўспаміны: у 1984 годзе ў ліку іншых пісьменнікаў я выступаў у Іркуцкім універсітэце, а сярод гэтых «іншых», замечу стараною, былі і самыя знакамітыя — Распуцін і Астаф'еў.

Астаф'еў, дарэчы, запомніўся найбольш, — ён сказаў, што ў Расіі ўжо немагчыма сустрэцца з рускай песняй, што рускую песню ён пачуў толькі ў Японіі, а пасля, калі ў яго студэнты спыталіся пра Мікалая Рубцова, Астаф'еў прачытаў на памяць твор Мікалая Рубцова «Вечаровыя вершы», і прачытаў, трэба сказаць, бліскуча, ні разу не запнуўся, хоць гэты рубцоўскі тэкст не такі й маленькі — недзе каля пяцідзесяці радкоў!

Калі надышла чарга маёй дэкламацыі, то свае тэксты я падаў без перакладу, па-беларуску, і пасля сустрэчы да мяне падступілі тыя ж студэнты, мусіць жа, будучыя паэты, прываблены якраз беларускай мовай.

І вось нехта з іх і паведаміў, што быў на канцэрце ансамбля «Сябры» і чуў беларускую мову з вуснаў Анатоля Ярмоленкі.

Праз год выступаў я на «Дальрыбе» (ёсць такое прадпрыемства ва Уладзівастоку), і, як скончылася выступленне, адзін з рабочых зноў жа загаварыў пра Анатоля Ярмоленку — мне, беларусу, нібыта ў аддзяку за маю мову, гэты слаўны дальрыбавец пачаў чытаць, як верш, пачутую ад нашага спевака песню «А я лягу-прылягу»...

Анатоль Ярмоленка даў беларускай мове (прычым далёка за межамі Беларусі!) абсяг існавання — пра гэта варта памятаць кожнаму самаздаволенаму пустаслову з чырвонай куражачкай СПБ ці СБП у кішэні, бо кожны такі дзеяч гарбузова ўпэўнены, што ніхто, а менавіта ён зрабіў і робіць найбольш для прапаганды беларускай мовы.

## 15 лістапада 2016 г., аўторак.

Анатоль Ярмоленка і вядомасць — гэта цэлая тэма, і гэта ўжо звыклае жыццё, калі на вуліцы артыста пазнаюць і, вядома ж, просяць аўтограф, калі на канцэртах дораць яму кветкі; калі афіцыянты, як толькі ён зойдзе ў кавярню, пачынаюць шчасліва ўсміхацца.

Магу ўспомніць і такую карціну: вось мы ў Рускім тэатры на Васілёвай п'есе «Пясняр», у антракце выходзім з глядзельнай залы, і да Анатоля з усіх бакоў ляцяць нашы тэатралы з просьбай сфатаграфавацца.

Дарэчы, пра неадольнае жаданне такіх фотаздымкаў...

Аднойчы мы сядзелі ў машыне, якую ён паставіў на тратуары паблізу Акадэміі Музыкі. Мы абмяркоўвалі будучы наш сумесны твор, і Анатоль у бейсболцы, глыбока насунутай на вочы, цікава разважаў пра магчымасць новай песеннай творчасці.

Спачатку ён быў увесь у гаворцы, а тады маўчаў, ахоплены одумам, — і тут нам і пастукалі ў бакавое шкло, з таго боку, дзе ён сядзеў.

Пастукалі нечакана, настойліва і разам з тым даволі далікатна.

— Што?! Я не там машыну прыпаркаваў?! — схамянуўся Анатоль.

Не, гэта быў не аўтаінспектар, а юнак гадоў сямнаццаці, а з ім, пад яго ўзрост, дзве дзяўчыны.

Заўважу: якраз такія ненавідныя мне безрабоцькі штолета закідваюць мой двор гарой недакуркаў і гурбамі бясконцага макдональдснага смецця!

Я, незадаволены, скрывіўся, а дарма — моладзь гэтая зусім не збіралася дол засмечваць, яна хацела... зняцца з Анатолем Ярмоленкам!

«І як толькі пазналі яго?! За амаль таніраваным шклом і ў амерыканскай шапцы, насунутай на самыя вочы?!»

Я здзівіўся вельмі моцна. (...)

## 13 снежня 2016 г., аўторак.

Некалі было, што менскі аўтобус нечакана затармазіў (нейкі хлопчык рызыкоўна перабягаў дарогу), і маладая пасажырка, каб не ўпасці, схапілася за

мяне і даўжэй, чым гэтага вымагала пачуццё бяспекі, затрымала сваю лёгкую руку на маім рукаве, а тады па-беларуску папрасіла прабачэння.

— Калі да наступнага прыпынку вы будзеце размаўляць са мной па-беларуску, то кожны дзень буду вам прыносіць кветкі! — сказаў я.

— На наступным якраз выходжу, але размаўляла б з вамі па-беларуску хоць да канца маршрута і без ніякіх кветак, — адказала маладая пасажырка, — аднак заўтра назаўсёды еду ў Ізраіль...

## 14 снежня 2016 г., серада.

У тралейбусе можна падслухаць, і ў гэтым сэнсе тралейбус (як і наогул грамадскі транспарт) дае большыя магчымасці для творчага пісьма, чым, скажам, легкавік...

Гадоў пяць-шэсць таму ў менскім тралейбусе пачуў такую кухонную шчырасць:

— Мой сабака сасіску за восем тысяч не есць, а гуляецца з ёю, як з цацкай. А вось калі звару сэрца, есць з радасцю...

## 15 снежня 2016 г., чацвер.

Год 1968-мы, Давыд-Гарадок, мая родная вуліца Кодак...

Усё адбываецца, як у даўнім кіно — я вылётваю са сваёй хаты, перабягаю, пудзячы курэй і качак, вуліцу і, сплюнуўшы на ганку прыліплую да ніжняй губы курыную ці качыную пушынку, ускокваю ў суседскую хату насупраць.

У той хаце — хлопчык, мой сябар, яму дзесяць гадоў, і ягоная сястра, якой — дванаццаць, а мне тады было адзінаццаць...

Хлопчык з вялізнай місы п'е халоднае малако, і яно такое халоднае, што хлопчыка ажно кінула ў дрыжыкі.

Тады ён паставіў недапітую місу на ўслоне і, каб сагрэцца, адкусіў шакаладку, а каб не заўважыла сястра (праз хвіліну яна злезла з печы), заляпіў адкусанае хлебам.

Сястра такі ўгледзела шкоду — бацькоў якраз не было, парадак пільнавала яна; сястра зазлавала і так штурхнула хлопчыка, што ён, хістануўшыся, сеў у місу з недапітым малаком.

*26 кастрычніка 2017 г., чацвер, 17 г. 32 хв.; Менск.*



# Гурт «HAINA»

у 2014 годзе гурт «HAINA» выпусціў мініальбом «Мішэні», з якім на конкурсе «Даём рады» атрымаў перамогу ў намінацыі «Дэбют года» і сертыфікат на запіс песень у студыі «Осмас». У 2015 годзе запісаў альбом «Прыцягненне». У 2016 годзе ўдзельнічаў у рок-фестывалі «БАСовішча». У 2017 годзе выдаў максі-сінгл «Токам», зняў кліп на кампазіцыю «Кантроль» і прыняў удзел у фэсце «Рок за жыццё». Заснаваны ў лістападзе 2013 года.

# Нашу музыку мы робім сэрцам...

***Імпульсіўнасць, дынамічнасць, экспрэсія, драйв, павышаная эмацыйнасць і непрыхаваная трывожнасць — усё гэта ўласціва музыцы гурта «HAINA». Прычым арыгінальнага рок-н-рольнага гучання музыканты дасягаюць, выкарыстоўваючы ўсяго тры інструменты: баян, скрыпку і барабаны.***

***Як нараджаюцца мелодыі і тэксты? Ці лёгка перадаць эмоцыі пры запісе? Ці змяніўся гурт за чатыры гады? На гэтыя і іншыя пытанні адказалі Ілля Паплёўка (вакал, баян), Кацярына Кузьміна (скрыпка), Аляксандр Кузьмін (бубны).***

**Алена Масцерава.** — *Добры дзень! Якое самае частае пытанне гучыць наконт назвы вашага гурта?*

**Аляксандр Кузьмін.** — У мяне часта запытваюць: «Што азначае гэта слова?». І я расказваю, што мы доўга думалі, як назваць гурт. Напярэдадні аднаго канцэрта Ілля нечакана прапанаваў слова «HAI-NA» — у сэнсе «хай будзе». І нам гэта назва спадабалася.

**А. М.** — *Раскажыце, што вас аб'яднала для стварэння сапраўды незвычайнай музыкі?*

**Ілля Паплёўка.** — Да ўзнікнення сённяшняй каманды мы доўга ігралі ў іншых гуртах. Калі пачалі іграць утрох, ніхто не верыў, што гэта магчыма. Але ўсё атрымалася. Прытым у нас не было ідэі здзівіць некага — толькі іграць. Можна сказаць, за чатыры гады адбылася музычная трансфармацыя. Сёння ў нас амаль не засталося песень, якія выконваліся на самым пачатку.

**А. М.** — *Баян, скрыпка асацыіруюцца найперш з акадэмічным выкананнем, а ваша музыка разбівае ўсе стэрэатыпы. Як вы змаглі дасягнуць патрэбнага гучання? Неяк адмыслова рыхтавалі інструменты?*

**Кацярына Кузьміна.** — З электраінструментам я пачала працаваць яшчэ ў Акадэміі музыкі. Калі пісала дыпломную працу «Новыя тэхнічныя магчымасці электраскрыпкі», то вяла пошукі новага гучання. Спрабавала іграць і адна, і як аркестр, гэта было цікава. Зразумела, што ў рок-калектывах іграць на звычайнай скрыпцы вельмі складана, а вось электраінструмент — выдатнае выйсце.

**І. П.** — Нам падабаецца гульня з інструментам. Забаўляе, калі ніхто не разумее, што гучыць у дадзены момант. І сапраўды, нават прафесіяналам не заўсёды лёгка распазнаць, які інструмент якую функцыю выконвае.

Была праведзена карпатлівая праца для дасягнення патрэбнага гучання. Раней ні ў каго такой музыкі не было, таму мы вучыліся ўсяму самі. Акустычны ба-

ян абсталявалі спецыяльнымі мікрафонамі ўнутры. Алесь сам падбіраў розныя тэхнічныя прыстасаванні, якія б дапамагалі атрымаць добры гук. Мы імкнуліся, каб вынік і нам падабаўся, і спрацоўваў на канцэртах. Бывалі пры гэтым правальныя выступленні. У прынцыпе, мы і зараз увесь час эксперыментуем.

**А. М. —** *Такім чынам, як можна акрэсліць стыль, у якім працуеце? Рок, арт-рок?*

**І. П. —** Я не ведаю, ці гэта рок. Мы іграем эксперыментальную музыку, таму складана вызначыць пэўны кірунак. Калі запаўняем фармуляры для розных фестываляў, то пішам, што гэта рок, індзі-рок. Калі ўлічыць, што заўсёды шукаем нешта новае, то можна стыль акрэсліць як эксперыментальны рок.

**А. М. —** *Напэўна, ёсць нейкія нюансы падчас студыйных запісаў вашых песень? Раскажыце, калі ласка, як ішла праца над альбомамі «Мішэні», «Прыцягненне»?*

**І. П. —** Праца над міні-альбомам «Мішэні» заняла ў нас пяць гадзін. Проста прыйшлі ўсе разам, у нармальным настроі адыгралі, запісалі. А ўвогуле, гэта складана, ніяк нельга перадаць, хоць мы спрабуем па-рознаму.

Калі пісалі альбом «Прыцягненне», то старанна чысцілі партыі, ігралі вельмі акуратна, стараліся выконваць прыгожа. Праца заняла 6 — 7 месяцаў. Мне не спадабалася, што ў выніку выйшла, бо таго, што мы лічым нашым плюсам, у альбоме няма. Там ёсць класныя песні, партыі, тэксты нармальныя, але экспрэсія якраз адсутнічае. Яе мы, напэўна, пакінулі ў студыі падчас запісу.

**А. К. —** Таму мы зараз у пошуку патрэбнага студыйнага гучання. Магчыма, наступныя рэчы будзем запісваць самі.

**А. М. —** *А вы ўжо можаце парадаваць прыхільнікаў новымі песнямі?*

**К. К. —** Так, ёсць новыя песні, гатовы плэй-ліст на бліжэйшы канцэрт. Увогуле, мы вельмі хутка адмаўляемся ад старых кампазіцый, іграем толькі тое, што нас цікавіць менавіта зараз. Гэта творчы, няспынны працэс, і калі нешта не падабаецца, то можна проста перайсці да іншага.

**А. М. —** *Што, на вашу думку, дазваляе лепш перадаць пачуцці: музыка ці тэкст?*

**І. П. —** Безумоўна, музыка. Музыка найперш. А тэкставыя вобразы ўзнікаюць ужо пад гатовыя мелодыі. У нас няма песень, у аснове якіх быў бы нейкі тэкст, які б мы хацелі перадаць. Часам, калі я пішу словы на нейкі музычны матэрыял, то пытаюся ў каманды, пра што можа быць гэта песня. Мы разам абмяркоўваем нават нейкія канкрэтныя радкі.

**А. М. —** *Акрэсліце асноўныя тэмы вашых песень. Што вы хочаце данесці да слухача?*

**А. К. —** Мне здаецца, прывабнасць любога гурта ў тым, што кожны чалавек знаходзіць у яго творчасці нешта сваё, блізкае толькі яму. І гэта вельмі важна.

**І. П. —** Растлумачыць нейкі тэкставы мэсэдж у нас не атрымаецца. Менавіта музыка паказвае, чаго мы хочам, а тэксты падкрэсліваюць тыя ідэі, якія спрабуем перадаць праз мелодыю. Хоць існуюць іншыя меркаванні, аднак, мы

насамрэч пазітыўная каманда. Проста, каб пазітыў адчуваўся лепш, патрэбна зведаць самае дно, тады і складаецца цэлая палітра жыцця. Калі перад вачыма ёсць палітра, то самае лепшае бачыцца больш выразна. Веданне рэчаіснасці заўсёды будуецца на кантрасце.

**А. М. —** *Магчыма, ёсць пэўныя аўтары ў літаратуры, музыцы, якія на вас паўплывалі?*

**І. П. —** Сярод любімых пісьменнікаў магу назваць Кафку. Прывабліваюць у яго творах пераўвасабленні, метамарфозы, існаванне некалькіх рэальнасцяў. Нумар два ў літаратуры для мяне — гэта Голдзінг. А музыку лепш не называць, таму што — гэта бясконцы пералік.

**К. К. —** Мы вельмі шмат чаго слухалі і слухаем, беларускага і замежнага. Дэльфін, і П'яцола, і Muse, і Бах, і Nirvana — нам гэта падабаецца, таму і ўплывае.

**І. П. —** Мы ходзім на канцэрты, ведаем, што адбываецца ў сучаснай музыцы. Ёсць канкрэтны кантэкст: Мінск, Беларусь, 2017-ты год. Мы жывём у ім,



таму, безумоўна, тое, што мы чуем, на нас уплывае. Як і наша музыка можа ўплываць на кагосьці.

**А. М.** — *У вас выйшаў цудоўны відэакліп «Кантроль». Хто аўтар сцэнарыя? Чаму дзеянне адбываецца не ў горадзе, сярод людзей, а ў лесе?*

**І. П.** — Мы ўсё рабілі самі, інтуітыўна. Ёсць людзі, якія нам дапамагалі, парады давалі, напрыклад, Аляксандр Паклонскі. Хацелася зрабіць нешта атмасфернае. Пры гэтым ніякага сцэнарыя не было, а толькі імправізацыя. Як і на нашых канцэртах, як і ва ўсім, што мы робім.

**А. К.** — Хачу адзначыць, што мы акцэнтуем увагу не на сэнсе, а на эмацыйнай нагрузцы. Так, можна было б здымаць кліп у горадзе, рабіць акцэнт на тэкст, аднак тады не атрымалася б так поўна перадаць эмоцыі. А гэта якраз было нашай задачай. На канцэрце мы таксама ўсе эмоцыі прапускаем праз сябе і робім гэта на 100 %.

**А. М.** — *Якія праблемы вас турбуюць зараз? Якія тэмы вы б хацелі падняць у сваёй творчасці?*

**А. К.** — У нас эмоцыі розныя. У кагосьці ў жыцці адбываюцца адны падзеі, у кагосьці іншыя. Таму і праблемы ўзнікаюць розныя. Я, напрыклад, у апошні час задумваюся над сэнсам жыцця...

**К. К.** — У мяне ёсць страх перад будучыняй, выкліканы пытаннем, як захаваць сапраўднае ў людзях?

**І. П.** — Мне здаецца, лепш за ўсё — гэта не памятаць, што было раней, і не ведаць, што цябе чакае заўтра. Трэба жыць напоўніцу цяпер. А тэмы мы ніякія не падымаем. Мы не маніфестная каманда і не маем такой мэты — сабрацца разам і нешта некаму данесці. Мы арыентуемся на сябе, на тыя эмоцыі, якія перадаём.

**А. М.** — *На якіх пляцоўках вы б хацелі выступіць: у пэўных клубах, гарадах, краінах, на фестывалях?*

**А. К.** — Мы хацелі б выступіць у Мінску, у PrimeHalle.

**К. К.** — У Славакіі б далі канцэрт. Мне падабаецца гэта краіна.

**І. П.** — Нам прапаноўвалі выступленні ў Польшчы і Чэхіі. Мне здаецца, у якую б еўрапейскую краіну мы ні прыехалі, мы б спадабаліся там болей, чым тут. У нас быў вопыт з іншымі камандамі, і там усюды класна рэагавалі на музыку, не падобную да іншых. У Мінску ж гурту «HAINA» трэба было спачатку нешта даказаць. Хаця каму і навошта? Зараз мы ўжо абстрагаваліся ад гэтага, проста іграем канцэрты і чакаем на іх сваіх слухачоў.

**А. М.** — *Дзе вы чэрпаеце натхненне для творчасці, жыцця, працы?*

**А. К.** — Калі мы непасрэдна займаемся творчасцю, тады і прыходзіць натхненне. У жыцці, на жаль, не заўсёды атрымліваеш патрэбны зарад. А творчасць нам дапамагае жыць.

**К. К.** — Яно нараджаецца само. Адкуль? Не ведаю. Магчыма, з космасу.

**І. П.** — Трэба быць шчырым перад сабой і перад тым, з кім ты займаешся творчасцю. У нас шчырыя адносіны ў камандзе, і ў аснову песень кладуцца



таксама шчырыя эмоцыі. Мы іграем тое, што сапраўды для нас важна ў дадзены момант. А натхненне — гэта акумуляцыя настрою. З часам творчасць становіцца часткай жыцця, і ты не можаш ад гэтага проста так адмовіцца, бо тады не будзеш самім сабою.

**А. М.** — *Што трэба рабіць, каб змяніць свет да лепшага?*

**А. К.** — Не спыняцца. Увесь час развівацца, шукаць сябе, рухацца наперад. Памятаць, што жыццё кароткае. Калі пра гэта памятаць, то жыццё набывае зусім іншыя фарбы.

**К.К.** — Жыць тут і цяпер. Мне дадзены прынцып вельмі дапамагае. Калі я спыняюся і гляджу вакол, то знаходжу сэнс для далейшага руху. Яму спрыяе і наша з Алесем дачушка Варвара. Яна, дарэчы, з'явілася на свет тады, калі з'явіўся гурт «HAINA». Цікава глядзець, як расце, змяняецца дзяўчынка, а разам з ёй змяняецца і наш гурт.

**А. М.** — *Можаце назваць свае мары?*

**І. П.** — Іх шмат. Мне здаецца ўвогуле, што чалавек павінен марыць. Калі ты марыш, значыць, у цябе ўсё нармальна, ты да нечага імкнешся. Мне падабаюцца сны, люблю ўяўляць сябе на месцы іншых людзей і думаць, што б я зрабіў, калі быў бы ў іншым часе на месцы іншага чалавека.

**К. К.** — Аб'ездзіць увесь свет. Мару аб вялікім доме, дзе збіралася б вялікая сям'я, сябры. Каб у ім заўсёды быў вялікі рух і нічога не спынялася. Каб гурт выйшаў на такі ўзровень, што падарожжы па розных краінах супадалі б з нашымі гастролямі.

**А. К.** — Быць здаровым, мужным, увогуле, быць, ствараць. Хацеў бы атрымліваць прызнанне, аддачу — яна неабходная, каб адчуць далейшы штуршок для руху і развіцця.

**А. М.** — *Што б вы пажадалі сваім слухачам, чытачам часопіса «Верасень»?*

**А. К.** — Жывіце, будзьце шчаслівыя ў кожную хвіліну свайго жыцця. Працуйце, гадуйце, любіце сваіх блізкіх, не забывайце пра іх.

**І. П.** — Трэба верыць у сябе і ў людзей, якія побач з вамі, на сто працэнтаў. Гэта вера вяртаецца.

**К. К.** — Не глядзець на іншых, рабіць тое, што табе падабаецца, што просіць душа. Часцей прыслухоўвацца да свайго сэрца, а не да розуму. Мне здаецца, што нашу музыку мы робім сэрцам.

**А. М.** — *Дзякуй вялікі за гутарку.*

**Алена Масцерава.**



# Юры Кур'яновіч

літаратар, гісторык, мастак. Аўтар зборнікаў прозы: «Ён і Яна» (1996 г.), «Гарадская элегія» (2007 г.), перакладаў украінскай прозы «Цвітуць сланечнікі» (2013 г.), гісторыка-краязнаўчай кнігі «Аповеды старасвецкай Лошыцы» (2005 г.). Карціны захоўваюцца ў мастацкай галерэі Пухавіцкага краязнаўчага музея (г. Мар'іна Горка Мінскай вобласці), Львоўскім нацыянальным літаратурна-мемарыяльным музеі Івана Франко (г. Львоў, Украіна), прыватных калекцыях. Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Дыярыуш беларускага падарожніка

***У кожнага з нас са з'яўленнем на свет Божы пачынаецца жыццёвая дарога. На ёй напаткаюць і радасць, і сум, і надзея, і мары... І неадступныя нашы спадарожнікі на ёй — успаміны, — адбітак нашых уяўленняў, уражанняў і асэнсаванняў. І ў кожнага — свае. Дарагое і незабыўнае варта захоўваць. Бо якое жыццё без памяці? Вось і занатоўваю-захоўваю...***

***Напярэдадні свайго юбілею асобныя ўспаміны прапаноўваю аднаму з адметных літаратурна-мастацкіх выданняў нашай краіны, што мае мілагучную назву і месяца майго нараджэння — «Верасень».***

*27 лістапада 1997 года*

Параўнальна нядаўна, 1 лістапада 1997 года, адкрылася мая першая мастацкая выстава — «Варыяцыі на спрадвечнае». Для мяне вельмі сімвалічна, што гэта адбылося ў музеі нашага славутага паэта Максіма Багдановіча, у Траецкім прадмесці старажытнага Менска. Мінула не так шмат часу, але жыццёвая мітусня ды сямейныя клопаты адсоўваюць той надзвычайны дзень далей і далей.

Пераглядаю фотаздымкі і кнігу водгукаў. Запісы ў ёй, зробленыя нашым вядомым перакладчыкам Васілём Сёмухам і народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным, — не проста добрыя словы, але ж істотная маральная падтрымка творчых намаганняў самадзейнага мастака і важкі аванс яму на будучыню.

...Васіль Сяргеевіч Сёмуха першым з пісьменнікаў чытаў мае апавяданні (чытаў як крытык, з каштоўнымі заўвагамі і парадамі), па яго рэкамендацыі я прыйшоў у 1994 годзе ў «Першацвет» да Алеся Масарэнкі.

Рыгор Барадулін асабіста, па маім запрашэнні, наведаў выставу 5 лістапада, што з'явілася для мяне прыемнай нечаканасцю, бо не быў упэўнены, што ўбачу яго менавіта ў гэты дзень. Прагледзеўшы карціны, Рыгор Іванавіч сказаў, што яны робяць нейкі магічны ўплыў (адзначыў, што нездарма іх сем) і пасля іх прагляду яго пакінуў галаўны боль, а потым, схіліўшыся над кнігай водгукаў, экспромтам напісаў дарагое для мяне чатырохрадкоўе:

Мастак —
    Разумнае дзіця,
Ён ходзіць і на галаве.
Сусвет жыцця і пачуцця
У творах Юрася жыве.

У той дзень мы з ім упершыню пасля папярэдніх дзвюх кароткіх нашых сустрэч (6 жніўня 1996 г. у выдавецтве «Мастацкая літаратура» і 25 сакавіка

1997 г. у Мінскім Палацы мастацтваў на святочным мерапрыемстве з нагоды абвяшчэння БНР) даволі доўга гутарылі — амаль гадзіну. Канешне, калі цябе як творцу народны паэт адорвае шчырымі, цёплымі словамі, — гэта, безумоўна, значна падсілкоўвае твой творчы імпэт. А гэты верш народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, да ўсяго, стаў у маім жыцці ўвогуле першым прысвячэннем.

Але, папраўдзе, задаволенасці ад уласных карцін сёння адчуваецца ўсё меней, болей бачыцца ў іх недапрацаванасці, што, дарэчы, і адзначыў у той жа дзень другі наш народны творца — Уладзімір Стальмашонак. Сустрэліся мы з ім і пазнаёміліся зусім нечакана і выпадкова, і гэта заслугоўвае асобнага аповеду.

Пасля выставы я ўзяўся праводзіць Рыгора Іванавіча да прыпынку. Мы крочылі па Багдановіча ў бок Опернага тэатра, дзе на скрыжаванні са Старажоўскай і сустрэлі «маэстра» (як, артыстычна вітаючы, назваў яго спадар Рыгор), які ішоў нам насустрач. Рыгор Іванавіч і пазнаёміў мяне з Уладзімірам Іванавічам. Крыху паразмаўлялі, і спадар Рыгор папрасіў «маэстра» наведаць маю выставу, каб «сказаць хлопцу, як прафесіянал, што ён думае пра яго карціны». Але перад тым, як Уладзімір Іванавіч у маім суправаджэнні накіраваўся ў музей (відаць, яму ўсё-такі было па дарозе), ён зацягнуў нас у двор блізкага ад нас 25-га дома па Багдановіча. Сапраўды зацягнуў сваёй настойлівасцю, а дакладней сказаць — зацягнуў менавіта Рыгора Іванавіча, які не адразу згадзіўся, мякка аднекваўся, матывуючы тым, што спяшаецца, і, відаць, мяркуючы, што гэта зойме не пяць хвілін, а Уладзімір Іванавіч у дадатак, нічога не тлумачачы, толькі загадкава-настойліва прапаноўваў: «Давайце, хлопцы, нешта цікавае пакажу». На фасадзе гэтага дома, у двор якога мы ўвайшлі праз арку з Багдановіча, устаноўлена мемарыяльная дошка: «На гэтым месцы знаходзіўся дом, у якім 9 снежня (27 лістапада) 1891 года нарадзіўся выдатны беларускі паэт Максім Багдановіч». Уладзімір Стальмашонак паказаў нам краму (у савецкія часы — пункт шклатары) і сказаў, што менавіта яе падмурак — гэта і ёсць падмурак таго самага дома, які, на жаль, не захаваўся, дзе нарадзіўся Максім Багдановіч. Крама месціца на ўзгорку, з якога паўстае прыгожы краявід штучна пашыранай Свіслачы. У.Стальмашонак адзначыў, што з дапамогай беларускіх мастакоў нават распрацаваны праект аднаўлення таго дома, у якім наш выбітны паэт з'явіўся на свет Божы. Але ўсё толькі на паперах і ў марах нацыянальна свядомых людзей...

Па дарозе на выставу Уладзімір Іванавіч распавёў мне, як упершыню сустрэўся з Рыгорам Барадуліным. Было тое ў другой палове 1950-х гадоў. Неяк ён забег у БДУ, як кажуць, па патрэбе, знаёмай кожнаму чалавеку. Убачыў у вестыбюлі чарнявага хлопца ў чысценькіх цёмных штанах і кашулі з закасанымі рукавамі, з кнігай у руках, што сваім выглядам ствараў уражанне акуратнага, выхаванага юнака, і запытаў: «Слушай, хлопец, где тут у вас туалет?». Той неяк падазрона, з недаверам паглядзеў на незнаёмца і зусім нечакана спытаў:

«А Вам навошта?». Што прымусіла тады Рыгора Барадуліна так адказаць, і па сёння невядома. Бывае, што з вуснаў злятае зусім нечаканае і недарэчнае, што і сам таго не хацеў сказаць. Але не будзем дадумваць. Безумоўна, такі адказ, як падкрэсліў У. Стальмашонак, «мяне разззлаваў, і я яму прамым тэкстам адказаў, навошта мне тое месца». Урэшце яны паразумеліся, Рыгор Іванавіч паказаў Уладзіміру Іванавічу, дзе знаходзіцца ва ўніверсітэце прыбіральня, і з таго часу завязалася іх сяброўства.

***Каментар:***

*Мастацкая выстава «Варыяцыі на спрадвечнае»* — 7 карцін (алей, палатно, дошка; 1995 — 1997 гг.), аб'яднаных агульнай назвай «Варыяцыі на спрадвечнае»: «Дзе Вы?», «Спрадвечнае», «Элегія», «Ён і Яна», «Паненка», «Роздум», «Неспазнанае».

*«Першацвет»* — літаб'яднанне пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі (СПБ) у 1992 — 1998 гг., якое ўзначальваў Алесь Масарэнка. Выпускала аднайменны часопіс (галоўны рэдактар — Алесь Масарэнка), які стаў выданнем маладых літаратараў Беларусі. Рэдакцыя часопіса месцілася ў будынку СПБ — Доме літаратара (г. Мінск, вул. Фрунзэ, 5), на трэцім паверсе, у 301-м пакоі, дзе ўвечары кожны панядзелак, акрамя святочных, адбываліся пасяджэнні літаб'яднання.

*Масарэнка Алесь Герасімавіч* (12 красавіка 1938 г., Ходарава, Слаўгарадскі р-н, Магілёўская вобл.) — беларускі празаік, перакладчык.

*Стальмашонак Уладзімір Іванавіч* (6 лютага 1928 г., Мінск — 7 чэрвеня 2013 г., Мінск) — беларускі мастак, педагог. Народны мастак Беларусі (1988 г.).

*...падмурак таго самага дома...* — Сёння на гэтым месцы знаходзіцца мемарыяльны знак са словамі М. Багдановіча на 5 мовах — беларускай, англійскай, рускай, украінскай і польскай: *«Я ж кажу вам: добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?»*. А від на Свіслач загарадзіла высачэзная сцяна-монстр — 25-павярховы жыллёвы комплекс «Ля Траецкага», які архітэктурна сапсаваў усё наваколле.

*25 ліпеня 2004 года*

## «І духмяным пахне пірагом...»

У мінулыя выходныя разам з Андрэем Іванчэнкавым на ягонай «дзявятцы» наведалі Тураў. Андрэй — заўзяты рыбак, і вандроўка ў беларускую Палесціну для яго прываблівала выключна адной мэтай — рыбалкай. Варта адзначыць, яна ўдалася. У нядзелю ранкам, перад ад'ездам у Мінск, Андрэй злавіў на «дарожку» 28 выдатных шчупакоў.

Гасцявалі ў спадарыні Святланы Балбуцкай у Запясоччы.

У суботу, у такі ціхі, цёплы летні вечар, ля веранды ўтульнай Святланінай хаты, пад капелюшом цнатлівай вінаграднай лазы елі юшку са шчупакоў, што ўдзень налавіў Андрэй. А потым спадарыня Святлана прачытала такія шчырыя вершы, напоўненыя сялянскай душой і пахам вясковага хлеба, што проста захацелася пакласці ў рот кавалак гэткага духмянага пірага.

Вымыта падлога чыста-чыста,
З ножыкам і дзеркачом.
Стол накрыты надта ўрачыста,
І духмяным пахне пірагом...

Але ў спадарыні Святланы ёсць яшчэ адзін яскравы верш на дадзеную тэму, некалькі слупкоў з якога не магу не прывесці.

Не хлебам, купленым у краме,
Частуе маці госцяў дарагіх.
Яна заўсёды, як па якой заяве,
Спячэ хлябоў духмяных для дзяцей сваіх.

І дзед, па праву, ганарліва
На лусты рэжа пірагі:
Табе, дачка, а то — для сына,
А то табе, унучак дарагі.

І мы прымаем лусты, як святыню,
З бацькоўскіх рук, з бацькоўскае душы,
І нас ахоплівае плынню
Сямейнай еднасці, любові, цеплыні.

Мажліва, што вершы патрабуюць яшчэ дапрацоўкі. Але не пра гэта гаворка. А пра тое, што жыве на старажытнай беларускай Тураўшчыне невядомая настаўніца матэматыкі Святлана Мікалаеўна Балбуцкая і выхоўвае ў вучняў любоў не толькі да мовы, на якой «напісана кніга прыроды», але і да той мовы, без якой беларуская нацыя не існуе як нацыя.

***Каментар:***

*Балбуцкая Святлана Мікалаеўна* (30 мая 1968 г., Поўчын, Жыткавіцкі р-н, Гомельская вобл.) — настаўніца матэматыкі Верасніцкай сярэдняй школы (в. Верасніца Жыткавіцкага р-на), паэтка. Вершы друкаваліся ў калектыўных зборніках «Роздум над вечнасцю» (Гомель, 2004), «Вуліца Настаўніцкая» (Гомель, 2004), «Натхненне» (Мазыр, 2004), альманаху «Панядзелак» (Мінск, 2003), духоўна-асветніцкім выданні «Тураўшчына: мінулае, сучаснасць, будучыня».

*Запясочча* — вёска Жыткавіцкага р-на (Верасніцкі сельсавет) Гомельскай вобл. Яе тэрыторыя пачынаецца адразу за адміністрацыйнай мяжой Турава. Фактычна з'яўляецца заходнім прадмесцем Турава.

*Вымыта падлога чыста-чыста...* — Першы слупок верша, упершыню надрукаванага ў жыткавіцкай раённай газеце «Новае Палессе» ў 2000 годзе.

*...мовы, на якой «напісана кніга прыроды»...* — Выказванне вядомага італьянскага навукоўца Галілеа Галілея (1564 — 1642) — «Матэматыка — гэта мова, на якой напісана кніга прыроды».

*5 верасня 2004 года*

## «Знаменитые представители рода человеческого»

Я ў Тураве, дзе сёлета святкуецца Дзень беларускага пісьменства і друку.

А час ляціць хутка. Зусім нядаўна, у першай палове жніўня, адпачываў з сям'ёй на Нарачы. Добрыя ўспаміны засталіся ад экскурсіі ў Будслаў, знакаміты наш Будслаўскі касцёл — Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай. Свята Маці Божай Будслаўскай адзначаецца 2 ліпеня, яна абвешчана Апякункаю і Каралеваю Беларусі.

У касцёле асабліва ўразіў разны, чорны з пазалотаю, драўляны барочны алтар «Узнясенне Марыі» з фігурамі пракрокаў Старога Запавету, напісаным алеем абразом Маці Божай Балеснай і гарэльефнай выявай сэрца ў цярновым вянку — уверсе. Алтар захаваўся з XVII стагоддзя!

Я ніколі не фатаграфую ў цэрквах і касцёлах (лічу, што ўсё, што бачыш і адчуваеш там, павінна адбівацца найперш у душы чалавека), а тут не ўтрымаўся і сфатаграфаваў Дашу ў цэнтральнай частцы храма. Але не, хлушу. Адзін раз усё-ткі ўжо фатаграфаваў. Было тое восенню 2002 года, калі павёз у Тураў Валеру Пазнякевіча і Валянціну Паліканіну. Тады, 14 верасня, мы выступалі ў Тураўскім доме культуры. Падчас той вандроўкі я і сфатаграфаваў ва Усіхсвяцкай царкве знакамітыя тураўскія каменныя крыжы і побач з імі Валеру Пазнякевіча.

Але, вяртаючыся да пілігрымкі ў Будслаў, не магу не напісаць колькі слоў пра экскурсавода — цыбатую кабету ў джынсах, з хлапчуковай прычоскай. Дарэчы, з гэтай жанчынай сустрэўся ўжо другі раз; першы — у чэрвені мінулага года, калі з Дашай паехаў на экскурсію па касцёлах Нарачанскага краю. Добра памятаю, як здзівілася гэтая экскурсаводка, калі тым разам ля касцёла святога Андрэя Баболі (у вёсцы Кабыльнік) я пра нешта спытаў у яе па-беларуску. І першае, што яна прамовіла ў адказ: «О, Вы говорите на беларускай мове...». Праўда, трошкі пазней, на чарговым экскурсійным аглядзе, у кароткай размове са мной адзначыла, што яе, здаецца, нябога вучыцца ў беларускім ліцэі ў Мінску.

Па дарозе ў Будслаў уважліва слухаў яе расповед на расейскай мове пра нашу спадчыну і не мог зразумець, куды падзелася Беларусь. Выразным акцэнтам гучала Літва, Польшча, Расія, польскі кароль... Чалавек дасведчаны разумее, што калі гаворка ідзе пра ВКЛ, то, значыцца, пра магутную еўрапейскую дзяржаву сярэднявечча, якая мела назву Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, аснову якой складалі менавіта беларускія землі і ў якой дзяржаўнай была старабеларуская мова. І што беларусы — гэта гістарычныя ліцвіны. А калі слухач — іншаземец або зямляк, атручаны ідэалогіяй «вялікай і недзялімай Расіі», то тады ў яго застанецца (а ў каторага і ўзмоцніцца) ураджанне аб нейкай, выбачайце, «неполноценности» беларусаў.

...Едзем праз Мядзел. Экскурсавод звяртае нашу ўвагу на прыдарожны абеліск на брацкай магіле загінуўшых у час Другой сусветнай вайны, цытуе

надпіс з гэтага абеліска, які напісаны па-беларуску, і дадае: «Так гласит надпись на белорусском языке».

І яшчэ. Як адзначыла наш гід у пачатку экскурсіі, па дарозе ў Будслаў яна пазнаёміць нас «со знаменитыми представителями рода человеческого», якія нарадзіліся ў гэтых мясцінах. Потым гэтая абязлічаная назва — «знаменитые представители рода человеческого» — шчэ рэзанула мой слых, калі экскурсавод пералічвала прозвішчы вядомых людзей зямлі беларускай: Яна Ходзькі, Максіма Танка, Вінцэнта Жук-Грышкевіча (дзякуй Богу, не забыліся пра яго)... Мяркую, што для кожнага беларуса яны ў першую чаргу павінны быць славутымі продкамі, землякамі, а потым ужо «знаменитыми представителями рода человеческого». Ну гэта ж зразумела!

***Каментар:***

*...выступалі ў Тураўскім доме культуры.* — Паведамленне пра гэта было змешчана ў газеце «Літаратура і мастацтва», нумар ад 6 снежня 2002 г. (Папова, К. Гасцявалі ў Тураве / К. Папова // ЛіМ. — 2002. — 6 снеж. — С. 12.)

*Пазнякевіч Валерый Феліксавіч* (10 красавіка 1968 г., Сінкевічы, Лунінецкі р-н, Брэсцкая вобл.) — беларускі паэт, бард.

*Паліканіна Валянціна Пятроўна* (11 ліпеня 1958 г., Крычаў, Магілёўская вобл.) — паэтэса.

*Даша* — Дачка Дар'я (10 чэрвеня 1998 г., Мінск), студэнтка Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта.

*Ходзька Барэйка Ян* (24 чэрвеня 1777 г., Крывічы, Вілейскі павет, Мінскае ваяводства (цяпер — Мядзельскі р-н, Мінская вобл.) — 10 лістапада 1851 г., Мінск) — пісьменнік (псеўданімы: Ян са Свіслачы, Jan ze Swisloczy), грамадскі дзеяч.

*Жук-Грышкевіч Вінцэнт Антонавіч* (10 лютага 1903 г., Будслаў (сёння ў Мядзельскім р-не Мінскай вобл.) — 14 лютага 1989 г., Канада) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, настаўнік.

*3 снежня 2004 года*

Увечары, калі прыйшоў з працы, дачка паведаміла, што чула ўрывак з нейкай радыёперадачы, дзе казалі, што пра благіх міліцыянераў можна прачытаць у газеце, назву якой яна, на жаль, забылася. Потым Даша спытала, ці ёсць у такіх міліцыянераў сем'і і ці таксама дрэнна (раз благія) яны паводзяць сябе ў сваіх сем'ях. Пытанне дачкі ўразіла і схіліла да філасофскіх разважанняў. Адказаў, што раз чалавек благі, то гэта, безумоўна, будзе выяўляцца ва ўсіх яго паводзінах і ўчынках.

*5 сакавіка 2005 года*

## Музыка ў малюнках

Увечары з Дашай слухалі класіку. Стала цікава, а якія вобразы, малюнкі ўзнікаюць у дачкі, калі чуе вядомыя мелодыі. Папрасіў Дашу хутка адлюстра-

ваць на паперы «Serenade» Шуберта, «For Elise» і «Moonlight sonata» Бетховена. І вось што атрымалася:

«Serenade» — вясёлы дождж, хмаркі ўсміхаюцца;

«For Elise» — усё вясёлае: сонейка, хмаркі, кветкі, анёл і Бог.

«Moonlight sonata» — усё сумнае: сонейка, хмаркі, кветкі, анёл, Бог і яшчэ ў выглядзе трох маланак Пярун, як сама назвала гэты намаляваны вобраз Даша.

*18 сакавіка 2005 года*

## «Неправильные песни»

Увечары з Сержуком і К° наведалі залу камернай музыкі Белдзяржфілармоніі, што месціцца ў касцёле Святога Роха на Залатой Горцы. Быў вечар памяці кампазітара Ігара Паліводы «Матчын спеў». Гучалі песні на вершы Максіма Багдановіча, якія заўсёды слухаю з душэўным, нацыянальным хваляваннем (хоць і не лексічнае тут апошняе спалучэнне, але адзначу менавіта так: нацыянальным хваляваннем). Асаблівую ўрачыстасць і ўзнёсласць гэтаму вечару надавалі гатычныя абрысы касцельнага памяшкання. Сярод выканаўцаў: Пятро Ялфімаў, Ірына Дарафеева, Якаў Навуменка.

У паўзах паміж выкананнямі чыталіся дзённікавыя запісы кампазітара з цікавымі замалёўкамі пра вядомых творчых асоб. У прыватнасці, пра Ігара Лучанка і Эдуарда Ханка. Гэтыя абразкі І. Паліводы, мяркую, даволі вобразна і трапна паказваюць тых, каго апісваюць. Па памяці падам адзін з іх. «Генералиссимус Лученок», як адзначае І. Палівода, неяк сказаў яму: «Ты пишешь неправильные песни». На што апошні адказаў: «Правильных много, надо же кому-то писать неправильные. Пусть будет несколько неправильных».

***Каментар:***

*Палівода Ігар Ігаравіч* (16 мая 1950 г., Башкартастан — 28 лютага 1996 г., Мінск) — беларускі кампазітар, піяніст.

*Сяржук* — Мудрачэнка Сяргей Уладзіміравіч (4 жніўня 1970 г., Салігорск), аднакашнік па вучобе на планава-эканамічным факультэце Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава, галоўны бухгалтар ТДА «Рэдакцыя газеты «Мир косметики БЕЛИТА-ВИТЭКС».

*30 сакавіка 2005 года*

## «Грэшны кавалак неба»

Увечары Даша нечакана спытала: «Тата, а вось ты ведаеш, як я разумею, што такое «грэшны кавалак неба»?» Яна мела на ўвазе словы з песні «Раскажы» на тэкст Алеся Камоцкага ў выкананні Зміцера Вайцюшкевіча:

Грэшны кавалак неба
Бачыш ты навылёт,
Што табе заўтра трэба...

Я часцяком слухаю Вайцюшкевічаў кампакт «Паравіны года» з гэтай песняй, якая і запомнілася Дашы.

Ну і як разумее амаль што сямігадовая дзяўчынка вобраз «грэшнага неба»? «Тата, — тлумачыць Даша, — вось ёсць зямля і неба, і хтосьці дзесьці саграшыў. І вось той кавалак неба, дзе гэта адбылося, і ёсць «грэшны кавалак неба». І з такім дзіцячым гонарам, што сама, без падказкі дарослых, адолела гэтую задачку, дачушка дадала: «Я сама так дадумалася».

***Каментар:***

*Камоцкі Аляксандр Верамеевіч* (9 чэрвеня 1958 г., Барысаў) — беларускі паэт, бард.

*Вайцюшкевіч Зміцер* (20 ліпеня 1971 г., Бярозаўка, Лідскі р-н, Гродзенская вобл.) — беларускі спявак і музыка.

*1 красавіка 2005 года*

Сумны дзень. З навінаў па «EuroNews» даведаўся, што знаходзіцца пры смерці Ян Павел II. За ўсю гісторыю Касцёла першы славянін на папскім прастоле, чалавек, асоба якога выклікае ў мяне вялікую сімпатыю. Што робіцца на плошчы Св. Пятра ў Ватыкане! Яе брукаванку заслаў людскі дыван, які, і варта гэта падкрэсліць, утварыўся не па партыйнай разнарадцы і не дзеля забеспячэння «массовости», як сёння пішацца ў адпаведных дакументах: «необходимо обеспечить участие...». На тварах людзей слёзы, якія міжвольна з'яўляюцца і ў мяне. У жалобе ўся радзіма Пантыфіка — Польшча. Тое, што адбываецца ў суседняй краіне, можна параўнаць толькі са стратай нечага найвялікшага ў нацыянальным плане.

***Каментар:***

*Ян Павел II* (Караль Юзаф Вайтыла; 18 мая 1920 г., Польшча — 2 красавіка 2005 г., Ватыкан) — Папа Рымскі 1978 — 2005 гг. У 2014 г. абвешчаны святым.

*23 ліпеня 2005 года*

## «Стрелецкий» Полацк

Наведаў з экскурсіяй Полацк. Здаецца, што старажытны беларускі Полацак — нейкі «стрелецкий» горад: супермаркет «Стрелец» па вул. Юбілейнай, па вул. Гогаля — торговый дом «Стрелец», кафе-мороженое «Стрелецкое», крама «Уютный стрелецкий уголок», товары для дома и комфорта, «Созвездие стрельца» — фирменный магазин «VinReal», нарэшце — Стрелецкий рынок.

Відавочна, што тут «стрелецкий» мае выразны расійскі вектар. А павінна быць так: супер-маркет «Францыск», кавярня «У Францыска», крама «Скарынаўскі скарб», Скарынаўскі рынак.

*9 лістапада 2006 года*

## «Голас»

Патэлефанаваў Васіль Цімафеевіч Якавенка. А 16-й сустрэліся на праспекце каля «Падпісных выданняў». Пагаманілі.

...Пры развітанні затрымаў Васіля Цімафеевіча яшчэ на некалькі хвіляў. Узгадаў з'езд.

Мяне ўразіла, колькі ж пісьменнікаў адышло ў нябыт за перыяд паміж апошнімі двума з'ездамі. Здаецца, Алесь Пашкевіч прачытаў не меней за 50 імёнаў, калі не болей. І не лічачы тыя адзінкі такіх вядомых, як Васіль Быкаў, Янка Брыль, Анатоль Сыс, пераважная частка сярод калег-нябожчыкаў — гэта ж малавядомыя творцы нашай літаратуры, але якія ўнеслі свой, няхай і маленькі, здабытак (дарэчы, маленькі ці вялікі, вызначыцца пазней) у агульнанацыянальную скарбніцу.

Маё сэрца апошнім часам закранула паэзія Васіля Гадулькі, паэта з Берасцейшчыны. З ягонай творчасцю пазнаёміўся дзякуючы падараванай мне Віктарам Патапенкам кнізе «Голас», што пабачыла свет у 2004 годзе, пасля смерці паэта.

А колькі ж такіх Гадулькаў нарадзіла зямля беларуская? Колькі іх жывуць у правінцыі і таксама, як Васіль Гадулька, «незразуметыя, расчараваныя і пакінутыя ўсімі» трагічна паміраюць? У прадмове да выбранага Гадулькі ў «Голасе» яго сябар Васіль Сахарчук, які, на жаль, таксама не дажыў да выхаду гэтай кнігі, пісаў: «Здаецца, Васіль Быкаў казаў, што ва ўмовах правінцыі ў творцы ёсць тры шляхі: вырвацца з яе атмасферы і рэалізавацца ў сталіцы альбо змірыцца з роляй серадняка і публікацыямі ў рэспубліканскім друку час ад часу напамінаць пра сябе, ці проста паддацца цячэнню і спіцца, што ў літаратурным жыцці нярэдка здараецца».

Самае галоўнае і, мабыць, балючае, што пры жыцці яны ў большасці застаюцца па-за ўвагай літаратурнага Менска і сваіх братоў па цэху, і ўспомняць іх на пісьменніцкім з'ездзе, бадай, толькі вось так, з нагоды сумнай даты.

Няблага было б мець электронны банк дадзеных нашых пісьменнікаў і адсочваць знамянальныя даты ў іх жыцці (40-годдзе, 50-годдзе..., 20, 30 гадоў творчай дзейнасці). Сёння гэта ўсё можна зрабіць з дапамогай камп'ютара. Упэўнены: калі ў такі дзень творцу дашлюць віншаванне ці нават патэлефануе старшыня Саюза або хтосьці з кіраўніцтва СБП, гэта будзе яму важкая маральная падтрымка, якой сёння так бракуе.

Сваёй думкай падзяліўся з Васілём Цімафеевічам. Можа, гэты голас будзе пачуты...

***Каментар:***

*Якавенка Васіль Цімафеевіч* (5 мая 1936 г., Пажыхар, Светлагорскі р-н, Гомельская вобл.) — беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч.

*...на праспекце каля «Падпісных выданняў»...* — Кнігарня «Падпісныя выданні», г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 14.

*Пашкевіч Аляксандр Аляксандравіч* (11 верасня 1972 г., Набушава, Слуцкі р-н, Мінская вобл.) — беларускі паэт, празаік. Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў у 2002 — 2011 гг.

*Узгадаў з'езд.* — XV з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў, 22 кастрычніка 2006 г., Мінск.

*Гадулька Васіль Уладзіміравіч* (18 мая 1946 г., Федзькавічы, Жабінкаўскі р-н, Брэсцкая вобл. — 15 чэрвеня 1993 г., Федзькавічы, Жабінкаўскі р-н, Брэсцкая вобл.) — беларускі паэт. Пасмяротная кніжка «Голас» выйшла ў 2004 годзе ў выдавецтве «Літаратура і мастацтва».

*Патапенка Віктар Уладзіміравіч* (19 верасня 1955 г., Калодзезкая, Касцюковіцкі р-н, Магілёўская вобл.) — беларускі пісьменнік.

*Сахарчук Васіль Якаўлевіч* (10 ліпеня 1953 г., Свадзьбічы, Бярозаўскі р-н, Брэсцкая вобл. — 26 студзеня 2003 г., Жабінка, Брэсцкая вобл.) — беларускі паэт, перакладчык.

*Снежань 2006 года*

## «Что Вы хотите?»

Што адбылося за месяц.

Вандроўка ў наш радзівілаўскі Нясвіж.

Наведванне з Дашай у выходны дзень двух музеяў: гісторыі беларускай літаратуры (экспазіцыя, прысвечаная І. Шамякіну, і выстава «Кола часу») і дома Ваньковіча. Адзначу з сумам, што нідзе, ані ў Ваньковіча, ані ў музеі гісторыі літаратуры (а гэта больш за ўсё абурыла) не чуў беларускай мовы.

Калі зайшлі ў музей літаратуры, убачылі ў фае дзвюх кабет-супрацоўніц, якія аб нечым няспынна гаманілі. Павітаўшыся, стандартна пацікавіўся, ці можна ў іх набыць квіткі, бо ў касе, што месцілася адразу за ўваходнымі дзвярыма, нікога не ўбачыў. Гэтыя музейныя працаўніцы, дужа здзіўленыя мо першымі за дзень наведвальнікамі, рэзка перапынілі размову і двойчы перапыталі: «Что Вы хотите?». Зноў паўтарыў пытанне. Мабыць, нарэшце зразумеўшы сэнс простых беларускіх слоў, адна з кабет няспешна падышла да касы, некалькі разоў паўтарыўшы «пожалуйста», і прадала квіткі. У залах экспазіцыі нас суправаджала другая з гэтых дзвюх кабет. Трэба падкрэсліць, яна ветліва правяла для нас кароткую экскурсію, акцэнтуючы ўвагу на пэўных прадметах, аднак пры гэтым размаўляла выключна на рускай мове, нягледзячы на тое, што з ёй гавораць па-беларуску ды, і ўсе экспанаты анатаваны на роднай мове (для нашага экскурсавода, відаць, дакладна не роднай). У музеі ў той час мы былі сапраўды адзінымі наведвальнікамі. Назаўтра не стрымаўся, каб не патэлефанаваць Лідзіі Вітальеўне Макарэвіч (дырэктару музея) і звярнуць

яе ўвагу як кіраўніка галоўнага літаратурнага музея краіны на веданне асобнымі (спадзяюся, што асобнымі) працаўнікамі гэтай установы элементарных асноў беларускай гутарковай мовы. Лідзія Вітальеўна з сумам канстатавала, што ёсць такая праблема, яна ўсё ведае, падзякавала за званок і дадала, што будзе працаваць над выпраўленнем такога становішча. Цікава, як?

*28 студзеня 2007 года*

## «Жыдзюк»

Вандроўка ў мінулае з Антосем Астаповічам. Цікавая экскурсія па поўначы Гарадзеншчыны (Воранаўскі раён) — нальшанскай зямлі: Гайцюнішкі — Канвелішкі — Больцінікі — Нача — Радунь — Беняконі — Пеляса. Храмы, сядзібы, старажытныя забудовы.

...У Беняконях на цвінтары пры касцёле Святога Яна Хрысціцеля магіла Марылі Верашчакі (1799 — 1863), каханай Адама Міцкевіча. Гэта, аказваецца, ейны продак, як падкрэсліў Антось (праўда, не ўдакладніў, дзед або прадзед), працаваў кухмістрам пры двары караля Аўгуста III і прыдумаў вядомую нашу страву — верашчаку.

У Пелясе (літоўскім асяродку) наведалі касцёл Святога Лінуса (1910). Прыязная кабета, што адчыніла нам дзверы ў храм, размаўляла па-беларуску. Калі паказвала лялечную экспазіцыю, прысвечаную Раству, размешчаную з правага боку ад алтара, узяла ляльку — маленькага Езуса і сказала: «Глядзіце, які прыгожанькі жыдзюк!». Гэта выклікала ўсмешкі на тварах нашых вандроўнікаў. На што кабета прамовіла: «Ну сапраўды, ён жа быў жыдам».

***Каментар:***

*Астаповіч Антон Уладзіміравіч* (23 кастрычніка 1964 г., Асіповічы) — беларускі гісторык-этнолаг і культуролаг. Старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Ініцыятар і стваральнік (сумесна са Зміцерам Каспяровічам (25 лютага 1982 г., Мінск)) экскурсійнага праекта «Вандроўкі ў мінулае» (краязнаўча-пазнавальныя экскурсіі па гістарычных мясцінах Беларусі і замежжа). Праект рэалізоўваецца А. Астаповічам з аднадумцамі з 2003 года (у 2003 — 2008 гг. — са З. Каспяровічам пад эгідай незарэгістраванай ініцыятывы «Беларускі шлях», з 2013 г. арганізатарам выступае ТАА «Куфэрак падарожжаў»).

*Аўгуст III* (1696 — 1763) — кароль польскі і вялікі князь літоўскі ў 1733 — 1763 гг.

*18 лютага 2007 года*

Чарговая аўтобусная экскурсія са Зміцерам Каспяровічам і Антонам Астаповічам па Гарадзеншчыне, цяпер па Зэльвеншчыне. Грамада вандроўнікаў, як і раней, у пераважнай большасці беларускамоўная.

Падарожнічалі: Менск — Сынкавічы — Луконіца — Пруд — Дзярэчын — Зэльва — Аляксандраўшчына — Міжэрычы — Славацічы — Менск.

Сынкавічы. На прыступках Сынкавіцкай царквы здарылася бяда. Паслізнулася і зламала галёнкаступнёвы сустаў маці Зміцера. Адвезлі ў Зэльвенскую лекарню, у тую, дзе працаваў Янка Геніюш. Пасля наведвання Зэльвы забралі яе ўжо з гіпсам.

Зэльва. Аповед спадара Антона ля помніка Ларысе Геніюш, што ўсталяваны на тэрыторыі Свята-Троіцкай царквы, побач з уваходам у храм, нечакана перапыніў святар (айцец Аляксандр), які выйшаў з царквы. Ён запрасіў нас у храм, дзе, пачакаўшы, пакуль усе нашы вандроўнікі не зайшлі, папрасіў прабачэння, што перапыніў экскурсію, і нагадаў пра сённяшняе свята (Грамніцы), а таксама і пра тое, што спадарыня Ларыса Геніюш была хрысціянкай і памяць пра яе трэба перш за ўсё ўшаноўваць па-хрысціянску. Адзначу: айцец Аляксандр гаварыў па-беларуску, што было вельмі прыемна. Паказаў нам старое Святое Дабравесце ў чырвоным аксамітавым убранні (аксаміт на аздабленне Евангелля ахвяравала Ларыса Геніюш). Потым прапанаваў ушанаваць памяць вялікай беларускі, пацалаваўшы абраз і крыж, але гэта зрабілі толькі адзінкі з нашай грамады. «Вось і паглядзіце, — сказаў айцец Аляксандр, — падышлі ўсяго некалькі чалавек. Вось так і прыехалі вы ўшаноўваць памяць Ларысы Геніюш. А астатнія што? Хіба гэта нашчадкі камуністаў і атэістаў, якія руйнавалі храмы?». Апошнія словы былі ім ужо сказаны грамадзе наўздагон, бо яна ў пераважнай большасці чамусьці спешна пакідала храм.

*26 сакавіка 2007 года*

## «Тройца»

Паглядзелі выставу Леаніда Шчамялёва ў мастацкім музеі. Даша, як і раней, з неад'емнымі атрыбутамі наведвання падобных мерапрыемстваў: нататнікам і асадкай. Занатоўвала назвы карцін, што спадабаліся.

Для сябе адзначыў, што сучасны Шчамялёў істотна адрозніваецца ад ранейшага (1970 — 1980-х). На мой погляд, тады ягоныя палотны былі больш рэалістычнымі, і палітра фарбаў у іх была больш разнастайнай і сугучнай зместу. Цяпер пераважаюць шырокія мазкі (адчуванне, што карціна малюецца, як кажуць, за адзін раз) і звычайныя фарбы.

У стылёвым і фактурным плане вельмі вызначаецца адна з самых ранніх карцін Шчамялёва «Вяселле» (1957), якое адлюстроўвае зімовае вяселле ў беларускай вёсцы. Варта падкрэсліць, што народнаму мастаку ўжо 84, але ён для сваіх гадоў шчэ даволі плённа працуе, і гэта, безумоўна, заслугоўвае павагі.

Але хочацца шчэ некалькі слоў пра палатно «Працаўнікі муз» (1975), што схіліла мяне да філасофскай усмешкі. Гляджу, за сталом намалявана своеасаблівая тройца. Узіраюся — знаёмыя твары. Пазнаю: Ігар Лучанок, Васіль Быкаў і Міхаіл Савіцкі. Такая тройца магла ўяўляцца і малявацца толькі ў 1975-м...

***Каментар:***

*Шчамялёў Леанід Дзмітрыевіч* (5 лютага 1923 г., Віцебск) — народны мастак Беларусі (1983).

*...у мастацкім музеі.* — Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь, г. Мінск, вул. Леніна, 20.

*Савіцкі Міхаіл Андрэевіч* (18 лютага 1922 г., Звянячы, Талачынскі р-н, Віцебская вобл. — 8 лістапада 2010 г., Мінск) — народны мастак Беларусі (1972), народны мастак СССР (1983), акадэмік Нацыянальнай АН Беларусі, Герой Беларусі (2006).

*14 траўня 2007 года*

Увечары паглядзеў «Хама» Элізы Ажэшкі ў пастаноўцы тэатра-студыі імя Я. Міровіча ў Беларускай Акадэміі мастацтваў (БАМ). Ролі выконвалі студэнты 4 курса. Вельмі спадабалася. Праўда, дзяўчына, якая іграла Франку, здаецца, перайгравала, занадта ўжо экспрэсіўна выяўляла пачуцці гераіні.

Але як набываў квіткі на гэты спектакль?

Заходжу праз галоўны ўваход у БАМ. Да пачатку заставалася яшчэ хвілінаў дваццаць пяць. Насупраць вахцёра за столікам сядзіць кабета. Пытаю у яе, дзе глядзельная зала. Жанчына ўтаропілася ў мяне і таксама задае пытанне: «Что вы сказали?». Паўтараю. Зноў, як робат, глядзіць на мяне. Праз хвіліну-другую, відаць, зразумеўшы сэнс беларускіх слоў, гаворыць: «А-а-а, зрительный зал, на втором этаже. А Вы на спектакль?». Адказваю «так» і пытаю, дзе можна набыць квіткі. Пачынаецца, як кажуць, дубль два. Кабета маўкліва і нерухома сузірае мяне і толькі пасля паўторнага пытання адказвае: «А-а-а, билеты, у меня, пожалуйста, пожалуйста».

*9 чэрвеня 2007 года*

Увечары глядзеў тэлевізар.

Звярнуў увагу на расейскую рэкламу піва «Сибирская корона», што ўжо вока намуляла. Рэстаран часоў царскай Расіі пачатку XX ст. За столікам паручнік з дамай, які дорыць ёй каштоўнае калье і заказвае «Сибирскую корону». Адначасова такі ж самы заказ робіць за іншым столікам і барадаты таўстасум у чорным гарнітуры-тройцы (па антуражы — купец або фабрыкант). Але афіцыянт выносіць на падносе бутэльку піва і абвяшчае, што яна апошняя. Паміж паручнікам і фабрыкантам разгараецца аўкцыён-спаборніцтва: хто больш. Нарэшце фабрыкант называе суму, што ўжо афіцэру непасільна пераадолець. І ў гэтую хвіліну фіяска погляд паручніка неўзабаве спыняецца на дэкальтэ дамы, упрыгожаным падораным ім калье. Фінал: паручнік з півам і аплявухай ад дамы.

Падумалася: мабыць, такая рэклама алкагольных напояў у рускім нацыянальным духу.

Але ж гэтую рускую культуру (і пітва ў прыватнасці) прапагандуюць і сярод нас, беларусаў-літвінаў, і, вядома, ужо не першае стагоддзе.

*4 жніўня 2007 года*

## «Транзіт»

Наведалі з Дашай купалаўскую «Вязынку». Падпісаў у музей сваю «Гарадскую элегію», што атрымаў з выдавецтва два дні таму. Дарэчы, падпісваў яе ўпершыню, і для мяне знакава і знамянальна, што падпісваў менавіта ў музеі Янкі Купалы і ў дар музею, і ў год 125-годдзя Песняра.

Адбылася там цікавая і нечаканая сустрэча. Размаўляю з загадчыцай музея. Даша аглядае экспанаты. Наведвальнікаў няма і, ужо каторы раз з сумам сам сабе адзначаю, відаць, сёння і не прадбачыцца. І вось яны нечакана з'яўляюцца — у хату заходзіць спадарыня са спадаром і двума хлопцамі-падлеткамі. Спадарыню адразу пазнаю — аднакашніца па наргасу Таня Лібоза з Докшыц. А яна, бачу, не. Звяртаюся да спадара (разумею — ейнага мужа); ці з Глыбокага вы, пытаю. Той трошкі здзіўлена паглядзеў на мяне і адказаў станоўча. Далей кажу, што ведаю гэту спадарыню. Нарэшце пазнае мяне і Таня. Пагаманілі. Не бачыліся, здаецца, з пачатку 1990-х. Аказваецца, спадарыня Таццяна з сям'ёй завітала ў музей выпадкова, так бы мовіць, транзітам, па шляху на Лінію Сталіна, куды абяцала экскурсію дзецям. Вось і сюжэт новага апавядання «Транзіт». Сумна.

***Каментар:***

*Лінія Сталіна* — гісторыка-культурны комплекс «Лінія Сталіна», размешчаны ў 20 км на паўночны захад ад Мінска. Адкрыты ў 2005 годзе. На тэрыторыі комплекса прадстаўлена шматлікая вайсковая тэхніка часоў Другой сусветнай вайны і пасляваенных гадоў, а таксама ўсталяваны бюст І.В.Сталіну (1879 — 1953).

*14 верасня 2007 года*

Зайшоў у «Галерэю мастацтва» на праспекце. Звярнуў увагу на суседства двух маленькіх бюстаў аднолькавых памераў, выстаўленых на продаж: Леніна і Янкі Купалы. Першы коштам 68 830 руб., другі — 67 700 руб. Перамагае пакуль што таварыш Ленін...

***Каментар:***

*«Галерэя мастацтва»* — мастацкая крама па праспекце Незалежнасці, 12, у Мінску.

*9 сакавіка 2008 года*

У Палацы Рэспублікі ўпершыню паглядзеў выступ Аль Бана ўжывую. Канцэрт з Прэзідэнцкім аркестрам (дырыжор Віктар Бабарыкін). Атрымаў вялікае задавальненне. Спявак прачытаў з паперы некалькі вітальных слоў, і першае было на беларускай мове — «Шаноўнае спадарства». Адметна, што Аль Бана кожны

раз за апладысменты казаў публіцы «дзякуй». Падсумоўваю: у гэты вечар на сцэне толькі з вуснаў Аль Бана прагучалі беларускія словы, і ніводнага з вуснаў В. Бабарыкіна і вядучай — заслужанай артысткі Беларусі Алены Свірыдовіч.

***Каментар:***

*Аль Бана* (італ. Al Bano; 20 мая 1943 г.) — вядомы італьянскі спявак. У 1970 — 1990-х гг. выступаў на сцэне разам з жонкай — Ramінай Паўэр (дуэт Аль Бана і Раміны Паўэр, сусветную вядомасць якому прынесла песня Felicita («Шчасце»), выкананая ў 1982 г. на фестывалі Сан-Рэма).

*14 студзеня 2009 года*

На сустрэчу з выкладчыкамі Акадэміі МУС запрасілі Генадзя Гарбука. Раней акрамя сцэны яго не бачыў і з ім асабіста не сустракаўся. Па шчырасці, яго акцёрская ігра мне падабаецца. Але ад гэтай сустрэчы ў міліцэйскай акадэміі застаўся і асадак горычы. Генадзь Міхайлавіч цікава апавядаў пра сябе, пра свой лёс, пра бацьку, які ў 1930-х гг. быў рэпрэсіраваны і якому пашчасціла вярнуцца ў родную вёску яшчэ да вайны, і які, як заўважыў спадар Гарбук, «не ожесточился против Советской власти». Усё, здаецца, добра. Але артыст Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы, народны артыст Беларусі, які стварыў на сцэне яскравыя нацыянальныя вобразы, гаварыў спрэс па-расейску. Да таго ж, калі ён закрануў тэму прыгажосці нашай Беларусі і апявання гэтай прыгажосці беларускімі паэтамі і пісьменнікамі, узгадаў... Валянціну Паліканіну, нашу вядомую рускамоўную паэтэсу, і з кнігі прачытаў яе верш, зразумела, напісаны па-руску.

Валю асабіста ведаю. Добрая, сімпатычная, прыязная жанчына. І вершы ў яе добрыя, па-жаноцку чуллівыя. Мне падабаюцца. Дарэчы, калі яна працавала ў «Беларусі», напісала некалькі апавяданняў і па-беларуску. Мяркую, калі б пісала вершы заўсёды па-беларуску — была б другой Я. Янішчыц. Дарэчы, пра гэта сам ёй калісьці гаварыў.

*3 красавіка 2011 года*

Экскурсійнае падарожжа з Антосем Астаповічам «Косаўскі абшар» (мястэчкі Івацэвіцкага раёна): Быцень — Любішчыцы — Івацэвічы — Косава — Белавічы — Бусяж.

У Быцені ля барочнай Прачысценскай царквы (1654; афіцыйна — Свята-Успенская царква, на ахоўнай шыльдзе — 1779 год), былой уніяцкай, да нашай грамады з непрыхаванай цікавасцю падышла ўжо ў гадах гожая кабета, у белай пуховай хустцы і ў чорным чысценькім паліто. Сваім хударлявым, скуластым тварам з прамым доўгім носам і разумнымі вачыма яна вельмі нагадвала гэткую старую шляхцянку і была, дарэчы, дужа падобная да Стэфаніі Станюты. Ува ўсёй яе постаці няцяжка было разледзець прадстаўніцу вясковай інтэлігенцыі. Яна пацікавілася ў Антося, адкуль мы, прадставілася — Башчук

Антаніна Васілеўна, і з відавочнай прыязнасцю да нашай беларускамоўнай грамады пастаралася дапоўніць аповед Антося іншымі цікавымі фактамі. Размаўляла, як і належыць, па-беларуску. Сказала, што чытала разам з панам Бембелем лекцыі ва ўніверсітэце культуры. Адзначыла, што ў царкве захоўваюцца мошчы Сімяона Стаўроўскага — першага настаяцеля ўніяцкага кляштара, які тут быў, а таксама, што ў Быцені нарадзіўся першы прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі. Сям'я бацькі Усевалада Ігнатоўскага сапраўды жыла ў Быцені, і гэта малавядомы факт; ува ўсіх даведніках месцам нараджэння першага прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі пазначана вёска Такары ў Камянецкім раёне. Можа, тут недакладнасць, і сапраўды Усевалад Ігнатоўскі нарадзіўся ў Быцені? Гэтая выпадковая, цёплая сустрэча з Антанінай Васілеўнай была ва ўнісон сонечнаму і цёпламу надвор'ю, якое спадарожнічала нашай вандроўцы.

*9 верасня 2014 года. Сяло Крыварыўня, Карпаты, Украіна*

...Калі прыехаў у Крывары́ўню, адразу пайшоў у царкву да айца Івана Рыбарука. Спытаў, дзе пахавалі пана Міколу. Айцец Іван правёў на цвінтар. Магільны грудок увесь у вянках. На драўляным крыжы, перавязаным ручніком, партрэт нябожчыка і кароткі надпіс на шыльдзе: *Дзурак Микола Іванович (07.10.1946 — 27.07.2014)*. Пасядзелі і пагаманілі ля магілы амаль гадзіну: безумоўна, пра Міколу Іванавіча і пра Украіну, і пра Беларусь.

Міколу Іванавіча Дзурака, вядомага франказнаўца, ва Украіне варта ўзгадваць публічна, гучна і з пашанай, як чалавека, які самаахвярна служыў нацыянальнай культуры. Нарадзіўся ён у карпацкай Крывары́ўні, скончыў Львоўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Івана Франко, а потым, з 1970 года, працаваў у родным сяле ў літаратурна-мемарыяльным музеі Івана Франко, дзе прайшоў шлях ад супрацоўніка да дырэктара. Калі гаварыць сцісла, усё жыццё ён прысвяціў захаванню спадчыны свайго роднага гуцульскага асяродка. А Крывары́ўня — знакавае для Украіны месца. З ім злучаны лёсы такіх вядомых асоб, як акадэмік Міхайла Грушэўскі (1866 — 1934), Галава Цэнтральнай Рады Украінскай Народнай Рэспублікі (1917 — 1918); пісьменнік Міхаіл Кацюбінскі (1864 — 1913), аўтар аповесці «Цені забытых продкаў» (1911), напісанай пад уплывам наведвання Крывары́ўні, паводле якой выдатны армянскі кінарэжысёр Сяргей Параджанаў (1924 — 1990) зняў тут у 1964 годзе аднайменны фільм, што стаў сусветным кінашэдэўрам; польскі пісьменнік Станіслаў Вінцэнз (1888 — 1971), аўтар рамана пра Гуцульшчыну «На высокай паланіне» («Na wysokiej połoninie», першая частка пабачыла свет у 1938 г.)... Не называючы ўжо вялікага Каменяра — Івана Якаўлевіча Франко (1856 — 1916), які з сямейнікамі адпачываў у Крывары́ўні (1901 — 1914).

Не без намаганняў Міколы Іванавіча пабачыла свет першая кніга самабытнай гуцульскай пісьменніцы, казачніцы, фальклярысткі і мастачкі Параскі Плиткі-Горыцвіт (1927 — 1998) — *«Старовіцкі повісторькє»* (2008). Упершыню з творчасцю «Гамера Гуцульшчыны», як назваў яе мне тады пан Мікола, я пазнаёміўся ў верасні 2008 года, падчас адпачынку ў Крывары́ўні. Наведаўшы



*Мікола Дзурак, Роланд Франко (унук Івана Франко), пан Андрэй (муж праўнучкі Івана Франко — пані Надзеі Франко). Крываръіўня. 2010 г.*

ў гэтым сяле маленькую хату, дзе аскетычна жыла «Гамер Гуцульшчыны», і дзе пасля яе смерці стварылі грамадскі музей, быў уражаны стосамі самаробна-самапісных кніг, аўтарам, мастаком і выдаўцом якіх з'яўлялася гаспадыня. Гэтыя аўтарскія кнігі Парасхі Плиткі-Горыцвіт з казкамі, вершамі, павучаннямі і малітвамі можна ў пэўнай ступені параўнаць з самапіснымі кнігамі нашага Юрыя Малаша (1957 — 2011), асобнікі якіх захоўваюцца ў Нацыянальнай і Прэзідэнцкай бібліятэках Беларусі. Яна перажыла і лагеры сталінскага ГУЛАГа, пра знаходжанне ў якіх, дарэчы, ніколі не распавядала, прымаючы пад увагу, што гэта можа прынесці толькі нянавісць і людскую непавагу, і неразуменне, і адзіноту... Але асоба Парасхі Плиткі-Горыцвіт і яе драматычны лёс патрабуюць асобнай аповесці.

Драматычна склаўся лёс і ў Міколы Іванавіча. Ён зведаў боль страты, якую, як кажуць, не пажадаеш нават і ворагу, — смерць дзяцей і жонкі. Калі не памыляюся, адно дзіця пакінула гэты свет яшчэ малым, а другое (донечка) вырасла, вучылася ў Прыкарпацкім нацыянальным універсітэце імя В.Стэфаніка (Івана-Франкоўск), але так і не скончыла, раптоўна памерла ад хваробы. Здаецца, у 2012 годзе ў пана Міколы здарыўся інсульт, пасля чаго яны з жонкай, пані Юляй, на пэўны час перабраліся на яе радзіму — у сяло Бярэзіў суседняга Касіўскага раёна. Я некалькі разоў наведваў там пана Міколу і пані Юлю. Памятаю, як ён ад скрухі, што не зможа ўжо нічога зрабіць у даследчыцкай і музейнай справе, нават аднойчы пры мне заплакаў. Але пакуль была жывая жонка, якая ім апекава-

лася, трымаўся. А потым захварэла пані Юля і вясной 2014 года памерла, пасля чаго, як разумею, існаванне для пана Міколы страціла сэнс. Апошні раз наведаў яго з паняй Юляй у Бярэзіве 23 верасня 2013 года. Казаў яму, што абавязкова сустрэнемся з ім у наступным годзе ў Крыварыўні, каб ён дачакаўся... Перафразуючы вядомага паэта, сказаў, што для мяне асоба пана Міколы Дзурака ў наступных радках: «Мы гаворым Крыварыўня — разумеем Мікола Дзурак, кажам пан Дзурак — чуем Крыварыўня». І для мяне асабіста з часу майго знаёмства з ім у ліпені 2007 года гэта было менавіта так.

І яшчэ адну рэч хачу абавязкова адзначыць. Пан Мікола Дзурак чытаў на памяць вершы Янкі Купалы, чытаў па-беларуску...

Дарагі пан Мікола, у 2014-м нам так і не выпала сустрэцца... Айцец Іван сказаў, што памёр Мікола Іванавіч ціха, седзячы ў фатэлі, пад голас пляменніцы, якая чытала яму яго любімага Вінцэнза...

***Каментар:***

*Крываръіўня* (укр. Криворівня) — сяло ў Вэрхавынскім раёне Івана-Франкоўскай вобл., на Гуцульшчыне — украінскім этнакультурным рэгіёне, арэал якога ахоплівае ўвесь Вэрхавынскі раён.

*Іван Рыбарук* — настаяцель царквы Раства Прасвятой Багародзіцы (1719) у Крываръіўні. Лаўрэат пятага літаратурнага фестывалю імя Тараса Мельнічука *«Покрова»* (2013), які штогод ладзіцца ў Івана-Франкоўскай вобласці, за кнігу эсэ-пропаведзяў *«Невіста Господня».*

*10 снежня 2014 года*

У абедзенны перапынак каля «Тартоў» па папярэдняй дамоўленасці сустрэўся з Генрыхам Далідовічам. Раней неаднаразова з ім бачыліся на ўсялякіх літаратурных мерапрыемствах, але вось асабіста не былі знаёмы. А тут нагода — мая дысертацыя і кніга пра міліцыю 1920-х, дзе закранаю асобу М. Фрунзэ, якога, на мой погляд, Генрых Вацлававіч вельмі ўдала адлюстраваў у рамане «Пабуджаныя» са сваёй трылогіі — «Гаспадар-камень» (1984), «Пабуджаныя» (1988), «Свой дом» (1989). Гэты твор, які нядаўна прачытаў, і стаў падставай для гутаркі з вядомым пісьменнікам. Пасядзелі і пагаманілі ў невялічкай кавярні насупраць Вайсковых могілак. Яна месціцца на першым паверсе старога, даваеннага дома ў канструктывісцкім стылі, дома, добра мне знаёмага з юнацтва. У 70 — 80-я гады ў гэтым памяшканні знаходзілася гадзіннікавая майстэрня. Калі вучыўся ў старэйшых класах, кожную раніцу па дарозе ў школу на 50-цы праязджаў па Казлова міма гэтага дома, які міжволі прыцягваў маю ўвагу. Чаму? Цяжка адказаць; магчыма, з-за свайго архітэктурнага аблічча. Мабыць, старыя мінскія будынкі і разбудзілі ўва мне гісторыка і дасюль падсілкоўваюць мой даследчыцкі імпэт. Нездарма маё першае гістарычнае даследаванне — пра мінскую Лошыцу. А вось да сённяшняга дня ўнутры гэтага канструктывісцкага дома мне быць і не давялося. Усё ў гэтым жыцці невыпадкова.

Па-мастацку праўдзіва намаляваць вобраз пэўнай гістарычнай асобы — задача нялёгкая для пісьменніка, а калі яшчэ тая асоба ў адрозненне ад творцы належыць іншай эпосе — удвая цяжэйшая. Тут трэба вывучаць архівы, мемуарныя крыніцы, ведаць асаблівасці тагачаснай гутарковай мовы і, безумоўна, мець асабліваe чуццё. На жаль, нярэдка, ствараючы гістарычныя творы, пісьменнікі не даходзяць да архіваў ці абыходзяць. І з'яўляюцца ў іх раманах і аповесцях пра мінулыя часы розныя недарэчнасці і смешнасці, накшталт таго, калі гістарычныя асобы размаўляюць па-сучаснаму.

А ў Генрыха Далідовіча не так. Я адразу прыкмеціў, што ён меў справу з архівамі. Ды яшчэ такія цікавыя, малавядомыя дэталі падаў — напрыклад, звязаныя з прызначэннем Фрунзэ начальнікам Мінскай міліцыі і спрыяннем у гэтым дэпутата Дзяржаўнай Думы Мікалая Шчэпкіна. На дакументы пра тое прызначэнне я натрапіў гадоў дзесяць таму ў НАРБ.

Можа, памыляюся, але, здаецца, у беларускай літаратуры падзеі лютага 1917 года ў Мінску, і ў прыватнасці асоба Фрунзэ, па-сапраўднаму добра адлюстраваны бадай толькі ў аднаго Далідовіча. У М.Чаргінца, у яго «Приказе № 1» (1985), Фрунзэ для мяне выглядае ідэалагічна-штампаванай асобай. Чаргінцоўскаму Фрунзэ, як сказаў бы Станіслаўскі, — «Не веру!». Цікава, ці звяртаўся Чаргінец увогуле да архіваў? Варта адзначыць: з усіх тых спраў, што тычацца гісторыі міліцыі, якія мне давялося перагледзець у НАРБ (а з 2001 года гэта не адна сотня), я ніколі не сустракаў там прозвішча Чаргінца ў адпаведных «листах использования». На гэтых лістах, якія знаходзяцца ў кожнай справе, даследчыкі ўласнаручна пазначаюць сваё прозвішча, дату азнаямлення са справай і выкарыстаныя аркушы справы, і запісы такія ёсць з 1960-х гадоў.

Што тычыцца «Пабуджаных», неабходна заўважыць, што з'явіліся яны яшчэ ў савецкія цэнзурныя часы і, як адзначыў Генрых Вацлававіч, не ўсё ў рамане прайшло праз цэнзурнае сіта. У партыйным архіве, тады закрытым для шырокага кола даследчыкаў, у які ён трапіў не без дапамогі дабрадзеяў, яму дапамагаў працаваць з дакументамі ўжо нябожчык, вядомы гісторык (пазней — прафесар) Мікалай Сташкевіч, які фактычна, як падкрэсліў Генрых Вацлававіч, быў прыстаўлены да яго і з цэнзурных меркаванняў. А ўвогуле гэтай трылогіі Генрых Далідовіч аддаў 15 год жыцця.

***Каментар:***

*...каля «Тартоў»...* — Крама № 25 «Торты» ААТ «Постгандаль» на рагу вуліц Казлова і Румянцава ў Мінску.

*Далідовіч Генрых Вацлававіч* (1 чэрвеня 1946 г., Янкавічы, Стаўбцоўскі р-н, Мінская вобл.) — беларускі пісьменнік.

*...у невялічкай кавярні насупраць Вайсковых могілак.* — Бар № 42 ААТ «Постгандаль», вул. Казлова, 10.

*...па дарозе ў школу на 50-цы..* — Маршрут 50-га аўтобуса (Серабранка — плошча Я. Коласа). Сярэдняя школа № 19 імя Янкі Купалы.

*НАРБ* — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

*У партыйным архіве...* — Архіў Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, пасля рэарганізацыі ў 1990 г. — Цэнтральны партыйны архіў Кампартыі Беларусі (ЦПА КПБ). У 1995 г. на базе Беларускага дзяржаўнага архіва (да 1993 г. — Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР), якому быў перададзены комплекс дакументаў ЦПА КПБ, стварылі Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ).

*Сташкевіч Мікалай Стэфанавіч* (23 жніўня 1938 г., в. Мокрае, Быхаўскі р-н, Магілёўская вобл. — 18 жніўня 2011 г., Мінск) — беларускі гісторык. Доктар гістарычных навук (1990), прафесар (1994). У 1967 — 1990 гг. працаваў у Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ. У 1999 — 2005 гг. в.а. дырэктара Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі.

*17 снежня 2014 года*

Увечары разам з Валерыем Васільевічам Стралко завіталі ў майстэрню Івана Міско, што месціцца ў двары за касцёлам Найсвяцейшай Панны Марыі. У Народнага мастака ўжо былі госці — яго зямляк са Слонімшчыны Уладзімір Чыгрын і наш суайчыннік з Нямеччыны Станіслаў Шастак (Шостак). Мой старэйшы таварыш прадставіў мяне, пазнаёміліся. Першы раз тут. Колькі дзён таму Валерый Васільевіч паабяцаў мне, што пазнаёміць з адным цікавым чалавекам, імя якога да апошняй хвіліны трымаў у сакрэце. Вось і збылося. Гаворка прайшла за гарбатай. А размова ўдалася надзвычай цікавай і патрабуе асобнага апавядання, ды і не аднаго.

Іван Якімавіч, закранаючы тэму сваёй прафесійнай дзейнасці, казаў, што, каб вылепіць добрую скульптуру з жывой натуры, трэба адчуць таго чалавека, «злавіць» у ім уласцівую яму адметнасць, якая можа нечакана выявіцца ў рухах, словах... У гэтам кантэксце распавёў, як ляпіў акадэміка Ф.Фёдарава (сына Янкі Маўра). Той нерухома і маўкліва, як робат, сядзеў і сядзеў на стуле, а потым, на чарговым сеансе як стукне кулаком па падлакотніку: «Рашыў!». Акадэмік не проста ўвесь час маўкліва пазіраваў, а думаў над рашэннем нейкай матэматычнай задачы, якое нарэшце і знайшоў.

А вось іншы кароткі ўспамін Івана Міско на тэму «адданасці прафесіі». Неяк у Алега Папова, вядомага клоўна і свайго даўняга сябра, ён пацікавіўся, што той адчувае, калі бачыць нешта сумнае, трагічнае, напрыклад, аварыю на дарозе. Адказ А. Папова: «Думаю, как из этого сделать смешное».

Кранальны аповед Івана Якімавіча быў пра Анастасію Фамінічну Купрыянаву (1872 — 1979) — беларускую маці, пяць! сыноў якой загінулі на франтах Другой сусветнай. У яе гонар у Жодзіне (1975) усталявана вядомая скульптурная кампазіцыя з шасці фігур у поўны рост — маці праводзіць на вайну сваіх сыноў у салдацкіх шынялях. Мне асабіста гісторыя гэтага помніка добра знаёмая з дзяцінства, бо ў 17-й мінскай школе, дзе вучыўся да 8-га класа, піянерская дружына насіла імя Героя Савецкага Саюза яфрэйтара Пятра Купрыянава, які закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота. Аўтарскі калек-



*Валеры Стралко ў майстэрні Івана Міско. 2014 г.*

тыў, членам якога з'яўляўся і Іван Міско, за гэты манумент атрымаў у 1977 годзе Дзяржаўную прэмію СССР. Пасля атрымання прэміі, як распавёў Іван Якімавіч, яны заехалі ў госці да А.Ф.Купрыянавай. Было позна, і яна запрасіла застацца нанач. У той вечар Анастасія Фамінічна прызналася, што часцяком прыходзіць да помніка і... гаворыць з сынамі, як з жывымі.

І быў я ў гэты вечар сведкам гістарычнага моманту. У майстэрні стаяў недапрацаваны бюст канцлера ВКЛ Льва Сапегі. Іван Якімавіч сказаў, што працуе над скульптурай для помніка ў Слоніме, але цяжкавата лепіцца, бо не захавалася прыжыццёвых выяў Льва Сапегі, акрамя аднаго партрэта. І, уважліва паглядзеўшы на Валерыя Васільевіча, мабыць, злавіўшы ў яго твары нешта сугучнае канцлеру ВКЛ (тое, што спадар Валеры Стралко, па таленту і здзейсненым, набліжаны да канцлера перакладу ў нашым, так бы мовіць, Княстве пісьменніцкім, — гэта дакладна), папрасіў яго зараз жа папазіраваць і адразу прыняўся за працу. Такім чынам, народны мастак Беларусі Іван Міско ляпіў канцлера ВКЛ Льва Сапегу ў тым ліку і са знанага беларускага і ўкраінскага перакладчыка Валерыя Васільевіча Стралко.

***Каментар:***

*Стралко Валеры Васільевіч* (19 снежня 1938 г., Любеч, Чарнігаўская вобл., Украіна) — беларускі і ўкраінскі перакладчык. Пераклаў на ўкраінскую мову «Новую зямлю» Якуба Коласа.

*Міско Іван Якімавіч* (22 лютага 1932 г., хут. Чамяры, Слонімскі р-н) — беларускі скульптар. Народны мастак Беларусі (2008).

*Папоў Алег Канстанцінавіч* (31 ліпеня 1930 г., Вырубава, Маскоўская вобл. — 2 лістапада 2016 г., Растоў-на-Доне) — расійскі артыст цырка (клоўн, вядомы на арэне як «Сонечны клоўн»). Народны артыст СССР (1969).

*10 жніўня 2015 года. г. Сазопал, Балгарыя*

## «Шэдэўры савецкай лірыкі»

Набыў у букіністычнай кнігарні ў старым Сазопалі «100 шэдэўраў савецкай лірыкі» («100 шедьоври на съветската лирика», Сафія, 1977). Шмат цікавых старых кніг, і нямала на рускай мове, дарэчы, па прымальных коштах, але шукаў што-небудзь беларускае або звязанае з Радзімай. І знайшоў такую кнігу, а дакладней — дзве аднолькавыя, адна з якіх захавалася ў супервокладцы (каштавала на 2 левы даражэй). Прадавец (сярэдняга ўзросту балгарын) настойліва прапаноўваў купіць іх разам (агулам за меншы кошт), але я набыў адну, і не ў супервокладцы. І справа тут не ў кошце, а ў аўтографе, які быў менавіта толькі на ёй: «За активно участие във викторината «100 год освобождението на България». ПК при инж. факултет награждава II р. Парт. секретар. Подпіс». Захацелася мець кнігу з гэтай, так бы мовіць, партыйнай пячаткай свайго часу. Праўда, цяпер думаю: можа, сапраўды было варта набыць дзве. Але што зроблена, тое зроблена.

«100 шедьоври на съветската лирика» — даволі цікавае тагачаснае выданне. Як зразумела з назвы, у кнізе змешчаны 100 лепшых вершаў, напісаных паэтамі СССР. Сярод іх дзявятка беларускіх: Рыгора Барадуліна, Петруся Броўкі, Анатоля Вялюгіна, Анатоля Вярцінскага, Ніла Гілевіча, Васіля Зуёнка, Максіма Лужаніна, Пімена Панчанкі і Максіма Танка.

Увогуле, па якім прынцыпе адбіраліся лірычныя «шэдэўры» ў гэту кнігу — сказаць цяжка, бо ў ёй прадстаўлена розная паэтычная тэматыка: рэвалюцыя, вайна, мір; а сярод ідэалагічна правільных вершаў трапляецца і высокая паэзія, накшталт «Малітвы Франсуа Віёна» Булата Акуджавы або верша біблейскага зместу (у балгарскім варыянце — «Творец на природата») Аванеса Шыраза.

Але даволі рэдкая з'ява для падобных зборнікаў (мне такое раней не траплялася) — да кожнага верша далучана фота аўтографа аўтарскага каментара, у якім паэт сцісла тлумачыць, чаму менавіта гэты верш (на яго думку — лепшы) ён выбраў для зборніка. А ўнізе пад фота змешчаны пераклад аўтографа на балгарскую мову. Падкрэслю, гэтыя аўтографы — уласнаручна напісаныя паэтамі сказы з іх подпісамі.

З сённяшняй адлегласці часу цікава чытаць у «100 шедьоври на съветската лирика» тагачасныя словы нашых вядомых паэтаў.

Рыгор Барадулін (верш «Дзверы»): «Ленінская тэма — самая запаветная і адказная для кожнага паэта. Задуму верша «Дзверы» падказаў мне ў свой час стары камуніст, які неаднаразова сустракаўся з Уладзімірам Ільічом, выконваў яго заданні».

Пятрусь Броўка (верш «Дубовы ліст», 1956): «Любить жизнь, любить, беречь и защищать землю, на которой обрел жизнь, заботливо встречать идущего на смену — вот смысл стихотворения «Дубовый лист».

И в этом, по-моему, его достоинство».

Анатоль Вялюгін (верш «Балада аб уральскім танку»): «Пасля ранення ў Сталінградзе я лячыўся на Урале — там і нарадзілася мая «Балада аб уральскім танку», — на якім я... уварваўся ў паэзію роднай Беларусі».

Анатоль Вярцінскі (верш «Косім траву — яна не крычыць...»): «Стихотворение дорого мне как выражение определенного мироощущения, как попытка образно мотивировать необходимость человечности, гуманного начала в жизни».

Ніл Гілевіч (верш «Бярозы ў яркай стыні», у перакладзе змешчаны пад назвай «Зіма»): «Чаму так соладка і так балюча вяртацца памяццю ў далёкія гады ранняга юнацтва ў бацькоўскім краі? Адказ на гэта пытанне, напэўна, і быў бы тлумачэннем, чаму верш «Бярозы ў яркай стыні» для мяне адзін з саміх дарагіх».

Васіль Зуёнак (верш «Тры вышыні...»): «Лес белорусский, лес партизанский...

Колыбель мудрости и красоты. Как нужно беречь его, как лелеять!.. Лес для меня всегда был самой близкой и радостной песнью».

Максім Лужанін (верш «От мисли уморена...» — у балгарскім варыянце): «Калі верш хочацца перачытаць, значыць яго ўлада над табой не канчаецца. Гэтую марку я паспрабаваў прыкласці і да сябе. Думаецца, тут жыве першапачаткова штуршок пачуцця, які даў жыццё вершу».

Пімен Панчанка (верш «Краіна мая»): «Я посылаю Вам стихотворение «Краіна мая». У меня, как говорят, есть более сильные стихи.

Но это стихотворение я считаю лучшим. Оно написано в 1942 году на фронте. Белоруссия была оккупирована фашистами. У меня, как у сотен тысяч солдат белоруссов, остались на заполоненной земле родные и близкие.

Утрата Родины — это утрата всего самого дорогого для человека. Любовь к своей земле, боль, ненависть к врагу — это и хотел я выразить».

Максім Танк (верш «Мой хлеб надзённы»): «Может быть, стихотворение «Мой хлеб насущный» не лучшее, т. к. авторы часто ошибаются в оценке своих произведений. Но я его выбрал потому, что в нем нашли наиболее полное свое отражение мои тревоги и думы, и еще потому, что оно является исповедью моей перед временем, перед народом, перед своей совестью. Минск, 15.XII.76».

***Каментар:***

*Акуджава Булат Шалвавіч* (9 мая 1924 г., Масква — 12 чэрвеня 1997 г., Францыя) — расійскі бард, паэт, празаік, кампазітар і сцэнарыст.

*Шыраз Аванес* (сапр. Анік Карапецян; 27 красавіка 1914 г., Александропаль (сёння — Гюмры), Арменія — 14 сакавіка 1984 г., Ерэван, Арменія) — армянскі паэт, грамадскі дзеяч.

*12 сакавіка 2016 года*

Незабыўная сустрэча з Міколам Аўрамчыкам. Самага старэйшага беларускага пісьменніка наведалі разам з Валерыем Васільевічам Стралко. Перад дарогай сустрэліся з ім каля будынка міліцэйскай Акадэміі на праспекце Машэрава і зайшлі спачатку ў прадуктовую краму, размешчаную непадалёк, па вул. Чырвонай (больш слушна — Краснай), — не з пустымі ж рукамі ў госці. Я звярнуў увагу Валерыя Васільевіча на дом насупраць крамы — інтэрнат па Чырвонай, 15, у якім да 1973 г. жыў разам з маці. А Валеры Васільевіч, у сваю чаргу, адзначыў пэўную сімвалічнасць, бо такі нумар мае і дом М. Аўрамчыка (вул. Казлова, 15), куды мы, прыдбаўшы пляшку «Мінскай», неўзабаве рушылі.

На парозе кватэры ласкава сустрэла дачка Міколы Якаўлевіча — спадарыня Наталля. Распрануліся, і яна праводзіла ў пакой, дзе нас ужо чакаў паважнага ўзросту і акадэмічнага выгляду, з кароткай белай барадой і сумнымі вачыма шляхціч — беларускі паэт і празаік Мікола Якаўлевіч Аўрамчык.

Душэўна пагаманілі. Безумоўна, і пра літаратуру, і пра пісьменнікаў.

Я ўзгадаў першыя два радкі верша М. Аўрамчыка, прысвечанага С. Грахоўскаму: «Ад Глуска да Краснага Берага...». Сказаў, што амаль кожны месяц наведваю той Красны Бераг, бо адтуль жонка, і часта чыгункай ездзім да яе бацькоў, а па дарозе праязджаем станцыю Цялушу, што ў некалькіх кіламетрах ад яго родных Плёсаў. Мікола Якаўлевіч ажывіўся і па памяці прачытаў далей радкі свайго верша:

Ад Глуска да Краснага Берага
Дарога па ўскрайку сяла
Праз Плёсы мае перабегла
І ў сэрцы тваім пралягла.

Трошкі распавёў пра сваю вучобу ў Цялушскай вясковай школе, а таксама адзначыў, што ў Цялушы працаваў тэлефаністам.

І яшчэ адну цікавую акалічнасць паведаміў Мікола Якаўлевіч. Аказваецца, да яго, у гэту кватэру, неяк заходзіў М. Чаргінец і прапаноўваў перайсці ў свой саюз, абяцаўшы, так бы мовіць, пашану і павагу ў афіцыйна-дзяржаўным фармаце...

На развітанне Мікола Якаўлевіч падпісаў кожнаму з нас кнігу сваіх выбраных твораў, што выйшла ў «Беларускім кнігазборы» ў 2015 годзе.

Калі яшчэ сустрэнемся?

***Каментар:***

*Аўрамчык Мікола Якаўлевіч* (14 студзеня 1920 г., Плёсы, Бабруйскі р-н, Магілёўская вобл. — 8 мая 2017 г., Мінск) — беларускі паэт, пісьменнік, перакладчык.

*22 чэрвеня 2016 года*

У актавай зале Мінскага радыётэхнічнага каледжа прэзентацыя кніг Алеся Гібок-Гібкоўскага — вершаванага зборніка «Дакрануцца да неба» (Мінск, 2016)

і філасофскага дзённіка «Навучыцца любіць» (Мінск, 2016). Не мог не быць, бо як не прыйсці на такое важнае для сябра мерапрыемства? Для кожнага пісьменніка — гэта падзея. З усіх нашых творцаў з Алесем сустракаемся найчасцей, бо не толькі сябруем, але і жывем побач на Паўднёвым Захадзе Мінска. І гаворым, і абмяркоўваем, і дзелімся набалелым, і спрачаемся, ды, бывае, так зацята і сур'ёзна, што, як гаворыцца, ледзьве не да бойкі. Але ўрэшце разумеемся, бо беларусы, для якіх Беларусь — запаветнае і дарагое, што ў сэрцы назаўсёды.

Па сённяшніх мерках, калі падае інтарэс да друкаванага слова ўвогуле, і ў прыватнасці беларускага, людзей прыйшло шмат — была запоўнена палова залы. Сярод творцаў — Навум Гальпяровіч, Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Камоцкі, Хрысціна Лялько, Валерый Максімовіч, Серж Мінскевіч, Валеры Пазнякевіч, Зіновій Прыгодзіч, Міхась Тычына...

Уразіла і запомнілася выступленне Пятра Краўчанкі — вымаўленнем, зместам і, адзначу, артыстычнасцю. На прэзентацыю ён спазніўся, за што, дарэчы, са сцэны, калі выступаў, папрасіў прабачэння, патлумачыўшы, што быў на афіцыйным прыёме ў Літоўскай амбасадзе. Апрануты быў у белыя нагавіцы і белую вышыванку. У дадатак да добрых слоў, якія прамовіў у гонар аўтара прэзентацыі, былы першы міністр замежных спраў незалежнай Беларусі яшчэ... публічна пакланіўся ў пояс паэту Алесю Гібок-Гібкоўскаму з вялікай ўдзячнасці, бо ў складаны жыццёвы час менавіта Алесь Сямёнавіч аказаў яму значную маральную падтрымку.

Дарэчы, Алесь мне пра гэта распавядаў. Было тое ў 1996 — 1997 гг., калі Пятро Краўчанка выпаў, так бы мовіць, з фармату грамадска-палітычнага жыцця Беларусі — ужо не міністр, не дэпутат Вярхоўнага Савета... І вось тады з'явіліся матэрыялы Алеся Гібок-Гібкоўскага ў «Беларусі» і «Літаратуры і мастацтве» пра Пятра Кузьміча Краўчанку — беларускага палітыка і дыпламата. Можа, гэтыя публікацыі і паспрыялі таму, што неўзабаве, у 1998 годзе, Пятра Краўчанку прызначылі Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Японіі.

Варта таксама адзначыць: большасць з выступоўцаў былі людзі не з літаратурнага асяроддзя. А гэта, мяркую, з'яўляецца пэўным сведчаннем: кнігі Алеся Гібок-Гібкоўскага дайшлі да масавага чытача.

***Каментар:***

*Гібок-Гібкоўскі Алесь Сямёнавіч* (1 лютага 1952 г., Рупейкі, Ваўкавыскі р-н, Гродзенская вобл.) — беларускі паэт, публіцыст, перакладчык.

*Краўчанка Пятро Кузьміч* (13 жніўня 1950 г., Смалявічы) — беларускі палітык, дыпламат і гісторык. Першы Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь (19 верасня 1991 г. — 28 ліпеня 1994 г.).



# Сяргей Чыгрын

паэт, гісторык, краязнавец, журналіст. Напісаў і выдаў дзясяткі гісторыка-краязнаўчых і літаратуразнаўчых кніг. У тым ліку: «Слонімскія падмуркі», «Такі іх лёс», «Па слядах Купалы і Коласа», «Беларуская Беласточчына», «Хочацца дахаты», «Іншых шляхоў не было», «На радзіме Ігната Дварчаніна» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

# Паэт быў са Слоніма родам...

Да канца 2017 года ў Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа адбудзецца ўрачыстае адкрыццё пакоя-музея Алега Лойкі (1931-2008) — пісьменніка, доктара філалагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук. Цяпер актыўна збіраюцца экспанаты для музея. Сястра Алега Антонавіча Людміла Антонаўна Клімовіч перадала для музея гармонік, на якім любіў іграць Алег Лойка, яго дзённік, начоўкі, у якіх купалі малога Алега, ягоныя лісты і іншыя рэчы. Сярод экспанатаў ёсць і першае студэнцкае пісьмо слонімскага юнака.

Восенню 1948 года Алег Лойка паступіў на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Гэта былі пасляваенныя няпростыя гады. Але гэта быў і час самага шырокага наплыву ў інстытуты Мінска моладзі з былой Заходняй Беларусі. Менавіта студэнцкія гады, інтэрнат упершыню прымусілі юнака з заходнебеларускага горада Слоніма сур'ёзна задумацца над жыццём, над стаўленнем да чалавека, да свайго часу.

Алег Лойка пачаў пісаць вершы са школы. Першыя паэтычныя творы з'явіліся ў 1943 годзе ў «Баранавіцкай газеце». Спрабаваў ён іх пісаць і ў студэнцкія гады, але без вялікага поспеху. Сяды-тады заходзіў пачатковец у рэдакцыі газет і часопісаў. І хоць не друкаваўся, але непрыкметна набіраўся пэўнага вопыту, дзякуючы перш за ўсё шчырым, клапатлівым адносінам літаратараў Міколы Аўрамчыка і Сяргея Дзяргая. А ў 1959 годзе слонімец выдае свой першы паэтычны зборнік «На юначым шляху».

Родная сястра Алега Лойкі Людміла Клімовіч, якая жыве ў Слоніме на Зялёнай вуліцы, пазнаёміла мяне нядаўна з адным з першых студэнцкіх лістоў свайго брата, датаваным 27 лютага 1949 года. Юнак толькі тры тыдні адвучыўся ў Мінску. І напісаў бацькам у Слонім свой першы ліст. Давайце яго пачытаем. Ён пачынаецца вершам:

*Добры дзень, каханыя,*
*Хата пажаданая,*
*Хлеўчыкі, садок —*
*Ўсё! Нат халадок,*
*Што царыць ля печкі*
*І не грэе плечкі*
*Ні маме, ні Люсі*
*І сягоння мусіць!*
*Жыў, здароў, і Вам чаго*
*Арганізм жадае мой,*
*Ўсім прыветы да таго*
*Я кладу сюды ў пісьмо,*
*Плюс шчэ пацалункі*

*Шлю пісьма я клункам*
*Вам усім, каханыя!*
*Далей прозаю пішу,*
*Бо сказаць кой-што спяшу,*
*А іменна...*

Далей юнак са Слоніма апісвае сваё студэнцкае жыццё, як ён кажа, прозаю. А пісаў ён з гумарам, быў, відаць, у добрым настроі. Вось што піша: «Тры тыдні прайшлі, як я тут. Ніякіх цяжкасцей няма. Усё — норма. Стыпендыю — ура!— атрымаў! І... павышаную. Вылічылі за інтэрнат 90 руб. і яшчэ там на нейкія дробязі і на рукі атрымаў 257 руб. Так што грашыма забяспечаны да новай стыпендыі. Сёння ў мяне на руках 200 руб. з капейкамі, за тое забяспечыў сябе ўсім неабходным і купіў аўтаручку, ножык, шчотку, гуталін да ботаў, шнуркі, сшыткаў, паштовак... Ну і яшчэ тое-сёе, успамінаю. Хлеб купляў, купляў лапшу, варыў. Сёння, як яго...кхкхкх... не магу ўспомніць... ну... гэтага... а! Балерона — наканец успомніў — прыкончыў: засталіся рожкі ды ножкі! Цыбуля, як гэта кажуць, канула ў ваду, але не ў ваду. А ў нешта больш паважнае, благачасцівае, вазвышанае — у гэтае, значыць, маё, так сказаць, хайло, а па-медыцынску — поласць рота, глотка, стрававец, кішэчнік, дванаццаціперсную... баюся пералічваць, бо яшчэ дабяруся... кропка! (А паставіў клічнік — от махляр!) І так, капут балерррон (а смачны быў, ей Богу, капут і цыбуля). І сала ўжо мала. Хопіць да канца гэтага тыдня. На пасылку не спадзяюся. Думаю, сам глянуць праз тыдзень-другі дахаты за падсілкаваннем. Мама! Вы мне прыгатуйце альбо кг масла, альбо шмальцу. Больш не трэба. Апошняе — здагадаецеся і ведаеце лепш самі мяне. Мука ў мяне яшчэ ёсць — палавіна ўзятай. Зубы свае балючыя я вылечыў, ляжаць «пробныя» пломбы, на днях угняздзяцца і сапраўдныя. Штаны ў мяне — красата, любата, захапленне, і канты яшчэ трымаюцца, во! Што ж яшчэ! Ну, сёння я дзяжурны ў пакоі, і парадак добранькі. Наогул, усё ідзе добранька. Вам жадаю і, кахаючым Вас, застаюся — Алег.

Шлю табе, Люсёнак (маецца на ўвазе сястра Алега Лойкі Людміла. — С. Ч.), паштоўку. Напішы. Ці спадабалася і яшчэ што-небудзь. Прывет! Прывет! Прывет! Пацалункі! Лёлек-студэнт».


МІНІСТЭРСТВА АСВЕТЫ БССР
ВУЧНЁЎСКІ БІЛЕТ №
Лойко Алег Антонавіч
(прозвішча, імя і імя па бацьку)
нарадзіўшага 1931 г. з'яўляецца вуч...
класа X-го школы БСШ №1
гор. Слоніма
(горада, сяла)
Баранавіцкай об.
(вобласці)
Выдадзены 29 сакавіка 1948 г.
Сапраўдны да 1 верасня 1948 г.
М. П. Дырэктар, Загадчык школы
Месца для фотаздымку

МИНИСТЕРСТВО ПРОСВЕЩЕНИЯ БССР
УЧЕНИЧЕСКИЙ БИЛЕТ №
Лойко Олег Антонович
(фамилия, имя, отчество)
рождения 1931 г. является учени...
класса X-го школы БСШ №1
гор. Слонима
(города, села)
Барановичской об.
(области)
Выдан 24 марта 1948 г.
Действителен по 1 сентября 1948 г.
М. П. Директор, Завед. школы

*Вучнёўскі білет Алега Лойкі*

ВЕДАМАСЦЬ ПАСПЯХОВАСЦІ

Прозвішча Лойко імя Алег

вучня IX-га класа Беларускай Сярэдняй школы за 1946/1947 гг.

| Назва прадметаў | Адзнакі паспяховасці I чв. | II чв. | III чв. | IV чв. | Гад. адзн. | Экзамены Вяс. | Асен. | Агульн. адзн. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Беларуская мова вусн. / пісьм. | 5<br>4/5 | 4 | 5<br>4 | | | | | |
| 2. Беларуская літаратура | 4 | 5 | 5 | | | | | |
| 3. Руская мова вусн. / пісьм. | 4 | 4 | 4 | | | | | |
| 4. Руская літаратура | 5 | 5 | 5 | | | | | |
| 5. Арыфметыка | – | – | – | | | | | |
| 6. Алгебра | 5 | 5 | 5 | | | | | |
| 7. Геаметрыя | 4 | 5 | 5 | | | | | |
| 8. Трыганаметрыя | 5 | 5 | 5 | | | | | |
| 9. Прыродазнаўства | 5 | 5 | 5 | | | | | |
| 10. Гісторыя | 5 | 5 | 5 | | | | | |
| 11. Канстытуцыя СССР | – | – | – | | | | | |
| 12. Геаграфія | 5 | 5 | 5 | | | | | |
| 13. Фізіка | 4 | 5 | 5 | | | | | |
| 14. Астраномія | – | – | – | | | | | |
| 15. Хімія | 5 | 4 | 5 | | | | | |
| 16. Замежная мова | 4 | 5 | 5 | | | | | |
| 17. Ваенна-фізічн. падрыхт. | 5 | 5 | 5 | | | | | |
| 18. Рысаванне | – | – | – | | | | | |
| 19. Чыстапісанне | – | – | – | | | | | |
| 20. Чарчэнне | 4. | 4 | 5 | | | | | |
| 21. Спевы | – | – | – | | | | | |
| Пропускі | | – | | | | | | |
| Спазненні | | – | | | | | | |
| Паводзіны | 5. | 5. | 5. | | | | | |

Адзнака аб пераводзе

М. П.

Подпіс клас. кіраўніка

Подпіс бацькоў

Вальчык Марыя Паўлаўна.

*Апошняя старонка дзённіка Алега Лойкі*

Вось такі быў першы ліст студэнта Лойкі Алега ў Слонім да бацькоў. Ён вельмі добра адлюстроўвае той пасляваенны час, калі некаму пашанцавала быць студэнтам.

Алег Лойка, наогул, меў вялікае шчасце, што нарадзіўся ў Слоніме на беразе ракі Шчары. Пра свой родны горад і пра Шчару ён напісаў сотні радкоў:

*І я рады, што зразумеў:*
*З гэтай радасцю — не таіцца,*
*Што я шчасце вялікае меў*
*Па-над Шчараю нарадзіцца!..*

Упершыню са сваім знакамітым земляком я сустрэўся ў Мінску на філфаку Белдзяржуніверсітэта ў 1980 годзе. Я, як і многія мае аднакурснікі, запісаліся



*Алег Лойка з сябрамі літаб'яднання «Узлёт». БДУ, 1982 г.*

да яго ў літаратурнае аб'яднанне «Узлёт». Нячаста адбываліся пасяджанні літаб'яднання, але калі яны былі, то праходзілі даволі цікава, весела, актыўна. І Алег Антонавіч нас адразу запамінаў, ведаў і шанаваў.

Да мяне старастай літаб'яднання была паэтка-студэнтка Ала Канапелька. А потым, калі Ала скончыла філфак, Алег Лойка прызначыў мяне. Хлопцы нават жартавалі: «Слонімцы літаратуру хочуць узяць пад свой кантроль». Іншыя называлі мяне вядомым лойкіным радком «Юнак быў з-пад Слоніма родам...». Тым не менш, ніхто за гэта ў крыўдзе не быў. Літаб'яднанне актыўна працавала, а ў 1985 годзе «ўзлётаўцы» выдалі свой чарговы паэтычны зборнік «Вусны».

Быў 1984 год. На філфаку сустрэў мяне Алег Антонавіч і кажа: «На наступным тыдні будзе пасяджанне «Узлёту», то напішы аб'яўку і вывесі на другім паверсе факультэта(мы тады вучыліся на Чырвонаармейскай вуліцы, 6). І я «выканаў» просьбу прафесара. Напісаў: «У такі дзень і час адбудзецца пасяджэнне літаратурнага аб'яднання «Узлёт». Запрашаюцца паэты і празаікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску».

Вечарам да мяне ў інтэрнацкі пакой прыбягае вахцёр і кажа, што прафесар Лойка тэлефануе і хоча тэрмінова са мной пагутарыць. Я бягу на першы паверх, падымаю трубку і чую ўсхваляваны голас Алега Антонавіча: «Сяргей, калі ты пісаў гэтую аб'яву, чым ты думаў — галавой ці іншым месцам?». «Галавой!», — адказваю. «Не думаю, што галавой, — сказаў прафесар і паклаў трубку. Нічога не зразумеўшы, я пайшоў у свой пакой. Толькі потым я даве-

даўся, што Алега Антонавіча па змесце аб'явы выклікалі ў рэктарат і зрабілі заўвагу. А ён папярэдзіў мяне. Бо ў тыя 1980-я гады радок «запрашаюцца паэты і празаікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску» «пах» нацыяналізмам. У апошнія гады жыцця, калі Алег Лойка жыў у Слоніме, я яму прыгадаў гэты выпадак. Алег Антонавіч сказаў: «Ей Богу, Сяргей, не памятаю...».

У 1982 годзе прафесар Лойка выдаў у Маскве ў серыі «ЖЗЛ» кнігу «Янка Купала». Гэта была першая кніга, напісаная беларусам пра беларуса і выдадзеная ў вядомай расійскай серыі, якую заснаваў Максім Горкі яшчэ ў 1933 годзе. Пасля выхаду кнігі, у актавай зале філфака БДУ адбылася яе прэзентацыя. Зала была запоўнена студэнтамі і выкладчыкамі. Прафесар Сцяпан Александровіч выступіў з вострай крытыкай кнігі, усе астатнія выступоўцы яе хвалілі і віншавалі Алега Антонавіча з творчай удачай. Пазней я запытаўся ў свайго земляка: «А чаму ваш сябра і калега так крытычна аднёсся да выдання кнігі?» Алег Лойка адказаў: «Сцяпан Хусейнавіч Александровіч хацеў у Маскве выдаць аднячасова кнігу і пра Якуба Коласа. Але Маскве тэкст той кнігі не спадабаўся. Вось ён і зазлаваў». Прадмову да кнігі Алега Лойкі напісаў Народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Прадмова была невялікая, але важкая. У ёй Іван Пятровіч адзначыў, што «кніга ёсць, — гістарычна дакладная, праўдзівая, шчырая».

Супраць выдання кнігі Алега Лойкі пра Янку Купалу ў Маскве была і пляменніца Янкі Купалы Ядзвіга Юліянаўна Раманоўская. Па словах Алега Лойкі, у 1981 годзе яна паехала ў Маскву, завітала ў выдавецтва «Молодая гвардия» і прасіла, каб не выдавалі кнігу Алега Лойкі пра Янку Купалу. Не ўсё Ядзвізе Раманоўскай падабалася ў той кнізе, як і некаторым іншым даследчыкам творчасці Янкі Купалы.

Але кніга выйшла. Наклад яе тады быў 150 тысяч экзэмпляраў. Тым не менш, купіць у Беларусі кнігу было немагчыма. Толькі праз 16 гадоў Алег Лойка мне яе падпісаў у Слоніме: «Майму земляку і філфакаўцу Сяргею Чыгрыну, што Купалаўскімі сцежкамі крочыць. Поспехаў і шчасця! Алег Лойка, 1998 г.».

Калі Алег Лойка жыў у Слоніме, я вельмі часта яго наведваў. З ім можна было гутарыць бясконца, гутарыць на ўсе тэмы. Мне здаецца, што побач з Алегам Антонавічам я скончыў два філалагічных факультэты. Неяк я спытаў у яго: «А які ганарар вы атрымалі за маскоўскае выданне кнігі пра Янку Купалу?» Алег Антонавіч сказаў: «Сорак тысяч савецкіх рублёў». О, гэта былі вялікія грошы на той час! Калі груба іх перавесці ў даляры, то атрымаецца — больш за сорак тысяч амерыканскіх даляраў. «Я быў тады самым багатым беларускім пісьменнікам. Грошай нікому не шкадаваў: даваў ці пазычаў пісьменнікам, сябрам...», — прызнаваўся Алег Антонавіч.

У Слоніме Алегу Лойку жылося цяжка, але пісалася лёгка. Хвароба яго даймала. Але, калі я да яго прызджаў, — ён радаваўся, ажываў, усміхаўся. Алег Антонавіч адказваў на ўсе мае пытанні. Найбольш я ў яго пытаўся пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Гэта з яго вуснаў я даведаўся, што Янка Купала пер-

шы заўважыў і ацаніў талент Канстанцыі Буйло. Калі Купала быў рэдактарам «Нашай Нівы», да яго ў кабінет часта заходзіла Канстанцыя. Дарэчы, яна была тры разы замужам, па пашпарту — значна маладзейшая, бо мяняла гады. Купала быў у яе закаханы... У 1914 годзе ў друкарні Марціна Кухты выйшаў яе першы паэтычны зборнік «Курганная кветка», адрэдагаваны Янкам Купалам.

Алег Антонавіч пра Купалу і Коласа мог распавядаць гадзінамі. Ён казаў, што Янка Купала і Якуб Колас былі добрымі сябрамі. Хаця паміж імі здаралася рознае. Жонка Якуба Коласа — Марыя Дзмітрыеўна была даволі багатай жанчынай, ідэальнай, інтэлігентнай мяшчанкай, вельмі выхаванай, хатняй, аддадзенай мужу. Яна кахала Якуба Коласа. І Якуб Колас яе кахаў. Але падчас вайны, калі пясняр апынуўся ў Ташкенце, ён моцна закахаўся ў перакладчыцу Сомаву з Санкт-Пецярбурга. Колас прысвяціў ёй цэлы цыкл вершаў «Ташкенцкая торба». Гэты цыкл не апублікаваны да сённяшніх дзён. Толькі пару вершаў з гэтага цыкла трапілі ў друк...

Расказваў Алег Лойка і пра іншых беларускіх пісьменнікаў, прыгадваў вучоных, медыкаў, палітыкаў...

Апошнія гады жыцця мой зямляк правёў у родным Слоніме. Гэты горад ён называў сваім першым святлом, прасторам і любоўю. Ён так і пісаў: «Ды я не ведаю. Рос я ў горадзе ці ў вёсцы, бо з кожнай вуліцы і вулічкі гэтага лёгшага абапал Шчары гарадка відаць на ўзгоркавым небасхіле сінія лясы, відаць разлогія палі: вясною — у руні, летам — у спелых нівах, восенню — у срабрыстым павуцінні...».

Алег Лойка любіў родны Слонім, любіў людзей, якія жывуць і жылі ў ім, ці, як ён называў у «гэтай Шчаравай даліне». Ён заўсёды ўсёй душой быў з родным горадам. Любы Слонім — ён шчыра насіў у сэрцы. А Першамай (нарадзіўся 1 мая) у Слоніме для Алега Антонавіча быў найвялікшым днём, які збіраў усіх

*Алег Лойка з бацькам.*





*Анатоль Кулагін, Уладзімір Караткевіч, Алег Лойка ў Слоніме. 1980-я гады.*

яго сяброў і сваякоў за адным сталом. Збіраў у бацькоўскай хаце на Зялёнай вуліцы, ці ў цешчынай хаце на Віленскай вуліцы.

Пасля Мінска ён вярнуўся ў Слонім назаўсёды. Жыў у цешчынай хаце, спачатку з жонкай Ліліяй, а потым, калі яе не стала, адзін:

*«Мілая!.. Мілая!..» —*
*Дык як я тое скажу*
*Па-над тваёй магілаю,*
*Поруч якой не ляжу...*

У апошнія гады жыцця знакамітага слонімца мне некалькі разоў прыйшлося з ім разам сустракаць Першамай — гэта значыць святкаваць Дзень яго нараджэння. Сябра-зямляк Алега Антонавіча — энцыклапедыст і літаратуразнавец са слонімскай вёскі Вялікая Кракотка Янка Саламевіч, таксама часта бываў у яго слонімскай хаце на Віленскай вуліцы. А на Дзень нараджэння свайго сябра спадар Янка спяваў народныя песні. А яму дапамагаў Алег Антонавіч. Як яны разам землякі-слонімцы спявалі народныя песні!.. О, гэта трэба было бачыць і чуць! А колькі яны іх ведалі — дзясяткі, сотні... А ці мы сёння зможам за сталом праспяваць хоць адну беларускую народную песню?.. А?.. Праспяваць ад пачатку да канца... А яны спявалі бясконца — адна за адной, якія толькі прыходзілі на памяць. Я і сёння іх бачу разам, чую іх, слухаю іх, яны — перада мной, як жывыя, мае славутыя землякі...

Прайшло дзевяць Першамаяў без Алега Лойкі. Цяпер я разумею, чаму ён свае апошнія кнігі так і назваў: «Плач зямлі», «Дрэва жыцця», «Галгофа», «Неўміручасць», «Ушанаванне». Алег Антонавіч быў не толькі таленавітым, але і мудрым, мужным чалавекам. Ён ўсё прадбачыў наперад, адчуваў час і са шчырым спачуваннем хацеў нам дапамагчы:

*Не дабягу, — дайду,*
*Не дайду, — дапаўзу*
*У кожную бяду,*
*У кожную слязу...*



# Эдуард Дубянецкі

паэт, гісторык, культуролаг, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі: «Душы маёй нясканчаны палёт» (2011 г.) і «Покліч самотнага неба» (2013 г.), навукова-папулярных кніг, энцыклапедычных даведнікаў і навучальных дапаможнікаў па гісторыі Беларусі, беларусазнаўству, культуралогіі. Кандыдат гістарычных навук (1995 г.). Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Чудзін на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

# Барометр стану маладой літаратуры

***Мой дзень пачынаецца: проза і паэзія маладых / уклад. В.Шніп. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015. — 367 с.***

## Хай паспяховым будзе дзень для маладых...

Менавіта так з улікам назвы разглядаемай кнігі хочацца пачаць свае суб'ектыўныя развагі пра зборнік паэзіі і прозы маладых творцаў нашай краіны. І адразу ж хацеў бы дадаць: хай гэты новы дзень і многія наступныя за ім будуць багатыя на разнастайныя творчыя здабыткі, знаходкі, адкрыцці й азарэнні. Бо, сапраўды, ад каго ж, як не ад маладзейшага пакалення беларускіх літаратараў будзе ў першую чаргу залежаць, так бы мовіць, (пасля)заўтрашні дзень айчыннага прыгожага пісьменства. Таму з «прыцэлам» на магчымыя будучыя перспектывы беларускай літаратуры нам зараз і трэба больш-менш уважліва разгледзець мастацкія творы нашых сённяшніх маладых літаратараў — паэтаў і празаікаў.

Гэтая вялікая па аб'ёму і па колькасці прадстаўленых на яе старонках аўтараў кніга можа даць пэўнае ўяўленне пра стан і ўзровень маладой паэзіі і прозы. Але ж агульную карціну ці поўную панараму сённяшняй літаратуры маладых атрымаць на падставе разгляду дадзенага калектыўнага выдання не ўдасца, паколькі ў яго па нейкіх прычынах не трапіла мноства вельмі таленавітых і адораных паэтаў і празаікаў (напр., Наста Кудасава, Віка Трэнас, Вольга Базылёва, Ігар Кананові́ч, Глеб Лабадзенка, Віталь Рыжкоў, Арцём Сітнікаў, Ганна Новік, Віталь Воранаў, Аляксей Палачанскі, Кацярына Глухоўская, Аляксей Талстоў, Аляксей Карпенка, Таццяна Нядбай і інш.), якія б на момант здачы кнігі ў друк яшчэ цалкам падыходзілі пад прынятыя тут узроставыя рамкі маладых творцаў. Безумоўна, хтосьці можа сказаць (і збольшага будзе мець рацыю!), што некаторым з вышэйназваных аўтараў гэты зборнік, у якім змешчаны вершы ў дыяпазоне ад выдатных да (паў)графаманскіх, зусім не патрэбны, паколькі яны яго ўжо даўно «перараслі» і маюць свае кнігі, прэміі, станоўчыя водгукі ў прэсе. А другія могуць заявіць (і таксама слушна!), што прынамсі хаця б некаторыя з гэтых пісьменнікаў дзеля справядлівасці павінны былі быць уключаны ўкладальнікам у кнігу, паколькі дзякуючы іх арыгінальным творам зборнік стаў бы больш цікавым, змястоўным і каштоўным у мастацкіх адносінах. А трэція маглі б выказаць меркаванне, што, мажліва, калі б вышэйназваныя аўтары звярнуліся з адпаведнай просьбай да ўкладальніка, то ён бы надрукаваў іх творы, але ж яны своечасова не звярнуліся, або папросту не ведалі пра падрыхтоўку да друку такой кнігі...

Але ж паколькі заўжды лепей сыходзіць з таго, што ёсць, а не з таго, як мае быць, то зараз спынім нашыя пажаданні і цалкам засяродзім сваю ўвагу

на разглядзе паэтычных і празаічных тэкстаў, змешчаных у гэтай своеасаблівай анталогіі сучаснай маладой літаратуры. Нягледзячы на адсутнасць многіх адораных пісьменнікаў, усё ж такі гэтая аб'містая кніжка можа служыць своеасаблівым барометрам (няхай сабе і недакладным!), які здольны паказаць як сённяшні ціск моладзевага літаратурнага жыцця ў цэлым, так і інтэлектуальна-эмацыйны ды творчы ціск кожнага аўтара ў прыватнасці. Гэты незвычайны літаратурны барометр можа дапамагчы выявіць як наяўныя ў паэтычна-празаічным асяродку творчыя здабыткі, дасягненні, так і відавочныя хібы, недахопы і нават правалы. Дык давайце, вобразна кажучы, установім гэты адмысловы прыбор непасрэдна над самой кнігай і будзем пільна сачыць за зменамі яго паказчыкаў, але спачатку вашай увазе хочацца прапанаваць некалькі агульных статыстычных дадзеных.

У рэцэнзуемы зборнік уключаны творы амаль паўсотні — дакладней, 45 маладых пісьменнікаў, з якіх 23 паэты і 22 празаікі. У гендарным плане маецца відавочны перакос, бо пісьменнікаў тут толькі 12, а пісьменніц — адпаведна 33! Усе аўтары кнігі паўнагадовыя, паколькі іх узрост вагаецца ад 18 да 33. Прытым суадносіны беларускамоўных і рускамоўных аўтараў у галіне прозы і паэзіі абсалютна аднолькавыя — 16 і 6. Інакш кажучы, па 16 прадстаўнікоў паэзіі і прозы напісалі свае творы па-беларуску, 6 — па-руску, і 1 аўтар прадставіў вершы адразу на дзвюх названых мовах. Па агульнаму аб'ёму проза ў кнізе ледзь не ў два разы пераважае адпаведны паказчык па паэзіі.

Яшчэ адзін вельмі істотны і, мяркую, проста недапушчальны перакос выяўлены ў сферы размеркавання колькасці старонак, адведзеных на кожнага асобнага ўзятага аўтара. Дык вось тут атрымліваецца наступная, мякка кажучы, не надта прывабная карціна: памер апублікаваных вершаў вагаецца ад 1 да 15 старонак, а празаічных тэкстаў — ад адной ажно да 30 (!) старонак. Атрымліваецца, што калі камусьці было дадзена права апублікаваць толькі адзін свой верш, а камусьці — цэлых 40 вершатэкстаў, калі аднаму дазволена надрукаваць адну маленькую празаічную замалёўку, то другому — цэлы цыкл даволі вялікіх апавяданняў. Пры такім раскладзе атрымліваецца, што некаторыя з аўтараў, творы якіх займаюць дзясяткі старонак, нібыта неўзнарок займелі свае невялічкія зборнікі вершаў і празаічных твораў, тады як іншым давялося задаволіцца толькі адным невялічкім тэкстам. Адразу ўзнікае пытанне: чаму, на якой падставе і па якіх крытэрыях зроблены такі дзіўны адбор? Адказу на гэтае пытанне мы не маем, але лічым, што ў цэлым — гэта несправядліва, тым больш, што самыя вялікія падборкі вершаў і апавяданняў далёка не заўжды па сваіх мастацкіх вартасцях былі лепшыя (а часам і ўвогуле наадварот!) за самыя маленькія па колькасці старонак тэксты.

Відаць, варта яшчэ адзначыць і той факт, што роўна пятая частка ўсіх аўтараў кнігі з'яўляюцца (па звестках на пачатак 2017 г.) членамі розных пісьменніцкіх аб'яднанняў — Саюза пісьменнікаў Беларусі (К.Массэ, М.Латышкевіч, Л.Клачко, Т.Купрыянец, В.Саротнік, А.Шостак, Я.Явіч) і Саюза беларускіх пісьменнікаў (А.Емяльянаў-Шыловіч і С.Календа). А яшчэ можна дадаць, што хоць у збор-

ніку прадстаўлены творы маладых аўтараў, тым не менш на творчым рахунку немалой іх колькасці ўжо ёсць адзін ці нават некалькі апублікаваных аўтарскіх зборнікаў паэзіі ці прозы, а таксама ёсць нямала публікацый у айчынным перыядычным друку. Ну а цяпер, пасля кароткіх статыстычных выкладак, нарэшце плаўна пераходзім да разгляду змястоўных, фармальных і ўласна мастацкіх характарыстык змешчаных у кнізе разнажанравых і разнапланых твораў.

## Ад банальнасці да арыгінальнасці

Агульнавядома, што любы літаратурны твор (паэтычны, празаічны, драматургічны), які прэтэндуе на прызнанне яго ў якасці больш-менш каштоўнага артэфакта мастацтва слова, павінен мець пэўны набор неабходных характарыстык. Да ліку найбольш важных і істотных з іх можна аднесці наступныя: арыгінальнасць зместу і зграбнасць формы, кампазіцыйная стройнасць, вытанчаны стыль, глыбіня пачуццяў і дасціпнасць думак, добры густ, нечаканасць высноў, непаўторнасць інтанацыі. Безумоўна, усім гэтым патрабаванням можа адпавядаць, бадай, толькі дасканалы, ідэальны твор, якія сустракаюцца вельмі рэдка. У абсалютнай жа большасці мы маем такія мастацкія творы, якія знаходзяцца, так сказаць, на рознай ступені аддаленасці ад ідэалу і натуральным чынам маюць не толькі мастацкія вартасці, але і пэўныя хібы, недахопы. Дык вось калі гэтую акрэсленую намі «матрыцу вартасці» паспрабаваць накласці на змешчаныя ў кнізе паэтычныя і празаічныя творы, то мы адразу можам зразумець, якія з іх прайшлі (ці, наадварот, не прайшлі) такое своеасаблівае выпрабаванне, якія з іх можна лічыць каштоўнымі, а якія ўвогуле не вартымі асаблівай увагі.

Адразу хочацца сказаць, што ў гэтай рэцэнзіі найбольш пільная ўвага будзе надавацца найперш паэтычным творам не столькі з-за таго, што тут чыста колькасна трошкі пераважаюць паэты, а з-за выключнай ролі паэзіі ў гісторыі развіцця сусветнай літаратуры. У гэтым сэнсе будзем сыходзіць з выказанай яшчэ стагоддзе таму назад думкі выдатнага рускага паэта і літаратурнага крытыка Валерыя Брусава, які быў перакананы, што паэзія «заўжды з'яўляецца авангардам літаратуры». Канечне, гэтае меркаванне досыць спрэчнае, паколькі ў розных краінах свету былі і такія этапы ў гісторыі прыгожага пісьменства, калі авангардам з'яўлялася не паэзія, а проза. Але ж паколькі ў дачыненні да большай часткі гісторыі новай беларускай літаратуры гэтая выснова з'яўляецца слушнай, то зараз наступае час вызначыць найперш тое лепшае (не абмінаючы пры гэтым і асобныя творчыя няўдачы) ў галіне паэзіі, што прадстаўлена на старонках дадзенага калектыўнага выдання.

У цэлым у кнізе своеасаблівы падзел вершаў на дзве асноўныя часткі: з аднаго боку, творы традыцыйныя (неакласічныя), а з другога, нетрадыцыйныя, (пост)мадэрнісцкія. Бясспрэчна, што гэты падзел не абсалютны, бо зразумела, што ў творы пераважна традыцыйнага складу часам могуць «пранікаць» асобныя мадэрнісцкія элементы, а ў авангардысцкіх вершатэкстах зрэдку могуць заўважацца і некаторыя сляды паэтычнага традыцыяналізму.

На маю думку, найбольш каштоўнымі і цікавымі з'яўляюцца менавіта тыя творы, у якіх прысутнічаюць гэтыя найчасцей карысныя для мастацкіх тэкстаў «узаемапранікненні», і існуе адмысловы баланс між традыцыяй і навізной, між памяркоўнай архаічнасцю і звышарыгінальнасцю. Бо ў адваротным выпадку, калі, метафарычна кажучы, празмерна моцна завострany толькі адзін зубец такога адмысловага «твора-двузубца», то ён можа пакінуць нядобрае ўражанне альбо з-за нейкай другаснасці, банальнасці і эпігонства, альбо, наадварот, ад празмернага аўтарскага арыгінальнічання, мастакоўскага выпендрывання, захаплення недарэчнай літаратурнай гульнёй.

Разгляд апублікаваных паэтычных твораў паказаў, што відавочную перавагу ў зборніку маюць вершы традыцыйнага складу, без асаблівых творчых пошукаў і яркіх знаходак, без настойлівага імкнення ўразіць чытача нечым дзіўным, незвычайным. У той жа час наватарскі пачатак выяўлены досыць слаба, паколькі абсалютная большасць аўтараў амаль ніяк не эксперыментуе ў плане кампазіцыі, формы і стылю сваіх твораў, не шукае нейкіх новых мастацкіх прыёмаў, новых сэнсаў, нечаканых хадоў, паваротаў думкі і выгібаў пачуцця. У цэлым па сукупнасці ўсіх вышэйназваных крытэрыяў якасці мастацкіх твораў даводзіцца прызнаць, што найлепшае ўражанне пакідаюць падборкі арыгінальных, змястоўных і цікавых вершаў Аляксея Арцёмава, Алеся Емяльянава-Шыловіча, Ірыны Карэлінай і Кацярыны Массэ. Разгледзім іх паэтычныя творы больш падрабязна і дэталёва.

Таленавіты беларускі паэт рускага паходжання Аляксей **Арцёмаў** (н. 1991 г.), які нарадзіўся і жыве ў г. Тула, прадстаўляе на суд чытачоў больш за два дзясяткі сваіх разнапланавых вершаў. Яны па-добраму ўражваюць амаль неверагоднай для яшчэ па сутнасці юнага паэта паэтычнай віртуознасцю, выкшталцонасцю і адшліфаванасцю большасці твораў, багаццем і выразнасцю мовы (вывучанай, дарэчы, самастойна па творах яго ўлюбёных Багдановіча і Караткевіча), арыгінальнасцю многіх метафараў і рыфмаў. Большасць вершаў прысвечаны любоўнай тэматыцы і праблеме аўтарскай самоты, а што датычыцца формы і строфікі паэтычных твораў, то амаль усе яны ўяўляюць сабой традыцыйныя для айчыннай паэзіі катрэны з перакрыжаванай рыфмоўкай. Паколькі аўтару ўласцівы такія рэдкія для сённяшніх маладых паэтаў якасці, як далікатанасць, тонкасць пачуццяў і перажыванняў, узвышана-ўзнёслы стан душы, то ў адзін з момантаў пры чытанні ягоных вершаў у мяне нечакана ўзнікла думка, што гэты малады паэт нібыта завітаў у наш атлумна-прагматычны час з нейкай іншай, галантна-рамантычнай эпохі. Адным з найбольш удалых і пранікнёных твораў Аляксея Арцёмава — гэтага сучаснага «рыцара з сэрцам рамантыка» — можна лічыць, на маю думку, вось гэты, дзе на дзіва хораша з'ядналася ўласнае, асабістае з агульным, народным:

*«Я шукаю дарогу да сіняй вады,*
*Каб нарэшце, бы ў Мекку, прыехаць туды,*

*Дзе віецца Бярэзіна цёмнай змяёй,*
*Дзе між гонкіх хваін запаветны спакой,*

*Дзе ў імгле дажджавой чырванеюць агні,*
*Дзе рухавая плотка жыве ў быстрыні...*

*Там гісторыя ўсмешку змяшала з журбой,*
*Там на дзіва нялёгка застацца сабой,*

*Там забытыя хаты — і побач крыжы,*
*Бо памерці там лёгка, ды нельга ажыць»*

У дачыненні да твораў гэтага паэта відавочна кантраснымі, амаль што супрацьлеглымі па форме і зместу падаюцца арыгінальныя вершы самай маладой (а патэнцыйна, мажліва, і самай таленавітай) паэткі ўсяго зборніка Кацярыны **Массэ** (н. 1997 г.; хаця ў кнізе чамусьці няправільна пазначаны 1996 год яе нараджэння!), якая з'яўляецца студэнткай Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Яе вершатэксты маюць пераважна інтэлектуальна-роздумны характар і ад вершаў усіх іншых паэтаў адразу вылучаюцца нават чыста візуальна, паколькі ў іх неаднаразова сустракаюцца незвычайная разбіўкі на вершаваныя радкі (якія складаюцца часам з адной-дзвюх літар!), а некаторыя словы на розных мовах выдзелены тлустым шрыфтам. Калі казаць пра змест вершаў, то найчасцей яны прысвечаны спробам асэнсаваць некаторыя вечныя праблемы (жыццё і смерць, вера і бязвер'е, Бог і чалавек) і спасцігнуць глыбінны сэнс быцця. Прычым для дасягнення пастаўленых мэтаў маладая паэтка актыўна выкарыстоўвае як дзіўныя вобразы і параўнанні («мне споўнілася васямнаццаць тысяч слоў», «смерць заплятае раскошныя косы», «я звяртаюся да самой сябе, // сама сябе сузірае мяне», «ты б'ешся сэрцам Сусвету // сэрца Сусвету б'ецца табою» і інш.), так і некаторыя словы са сферы спецыяльнай навуковай і тэхнічнай тэрміналогіі (напр., словы «камунікацыя», «дэтэрмінізм», «небыццё», «лэптоп», «перцэптыўны драйв), што, безумоўна, аддаляе вершаваны твор ад сапраўднай паэтычнасці і яскравай вобразнасці, а таксама відавочна ўскладняе, абцяжарвае ўспрыманне верша чытачамі. У цэлым, досыць добрае ўяўленне пра аўтарскі стыль і спосаб мыслення самабытнай паэткі можа даць хаця б вось гэты фрагмент яе верша «Аўтакамунікацы Я»:

*«Ёсць рэчы, якія можна абмяркоўваць*
*выключна з самім сабою,*
*бо іх разумеюць толькі дзве асобы:*
*Я і Я —*
*і вечная аўтакамунікацы Я.*
*..........................*

*Нават пільнае самасузіранне*
*не дае адказу на фундаментальныя пытанні:*
*хто Я, Ты? і хто Ты, Я?*
*і чаму не складваецца нашая камунікацыя Я?*

Калі вышэй былі прадстаўлены, так бы мовіць, лепшы (ці вядучы) традыцыяналіст і лепшы/вядучы мадэрніст (дакладней, мадэрністка) кнігі, то вядучым паэтам, якому ўдалося найлепш аб'яднаць, сінтэзаваць у сваёй творчасці два гэтыя эстэтычныя полюсы, дзве мастацкія крайнасці, з'яўляюцца, з майго пункту гледжання, Алесь Емельянаў (нар. 1987). У яго нізку самабытных разнажанравых вершаў арганічна ўвайшлі рыфмаваныя вершы і верлібры, паэтычныя мініяцюры і досыць доўгія творы (напр., паэтычныя трыпціх «Арменія»), прысвячэнні і варыяцыі на задазеную тэму. Амаль адразу запамінаюцца такія яго адметныя паэтычныя выказванні, як, напрыклад, «цягнік губляе колы й над чыгункаю ляціць!», «матылямі белымі кружляюць // шматкі ад сшытку», «успаміны паразлятаюцца, // нібы чаіцы». Да ліку найбольш удалых і вытанчана-метафарычных твораў можна аднесці, скажам, невялікі верш А.Емяльянава «Мой дождж», які вызначаецца кампактнасцю, пэўнай зграбнасцю, вытанчана-стрыманай метафарычнасцю, яснасцю творчага пасылу, урэшце, кранальнасцю інтанацыі:

*«мой дождж пачынаецца з...*
*водару волкага дрэва,*
*крыкаў палёгкі шэрай травы,*
*якую вада вызваляе ад пыльнай лускі.*
*мой дождж працягваецца*
*і робіцца ўсё мацнейшым,*
*калі ты далёка —*
*нават будучы поруч,*
*бываеш далёка —*
*і тады мяне не ратуе*
*чарупіна парасона;*
*нібы сухую сцяблíну,*
*кроплі-цапы абмалочваюць цела*
*мой дождж перапыняецца*
*вясёлкай тваёй усмешкі».*

Бадай, найлепшым майстрам любоўнай лірыкі ў дадзенай кнізе зарэкамендавала сябе адораная паэтка Ірына **Карэліна** (н. 1990). Хоць тут змешчана ўсяго каля дзясятка яе вершаў, але ўсе яны вызначаюцца высокім паэтычным майстэрствам, нетрывіяльнымі вобразамі і рыфмамі, далікатнасцю і тонкай нюансіроўкай пачуццяў, вытанчаным густам і выключнай меладычнасцю. Даволі моцна ўражваюць сваёй нечаканасцю, дакладнасцю і прыгажосцю такія самабытныя метафары і параўнанні, як «у нас з табою — розная танальнасць, // і ў той жа час — аднолькавыя сэрцы»; «калі з памяці робяць віно, // то яго называюць — вершы», «скрыжуюцца чыгункі, як нажніцы, // адрэжуць назаўжды зваротны шлях», «Загрукалі дажджынкі-кастаньеты. // Ледзь вымавіла зрэшты: «Да світання». // Ты разлічыўся добраю манетай — // выдатна адчаканеным маўчаннем». Усе вышэйназваныя станоўчыя рысы творчасці І.Карэлінай хораша адлюстраваліся ў яе кранальным і выкшталцона-музычным вершы «Шыпшынавы вечар»:

*«Кастрычнік іграе па нотах*
*самотнага Шумана.*
*У восені — твар адзіноты*
*і водар мінулага.*
*Крывавіць шыпшынавы вечар,*
*паранены думкамі.*
*Ісці да Вас — цэлую вечнасць —*
*не тымі завулкамі,*
*шукаць Вашу постаць у нетрах*
*пустэльнага горада,*
*дзе кожны глыточак паветра*
*каштоўней за золата.*
*І што цяпер вершы? Анёлы*
*са змоклымі крыламі.*
*Я лісцем зрываюся з клёна*
*у вечар шыпшынавы».*

Пасля адносна падрабязнага разгляду найбольш каштоўных і вартых увагі паэтычных твораў вельмі каротка спынімся на тым, што, шчыра скажам, расчаравала, а часам і ўвогуле непрыемна здзівіла. З аднаго боку, найперш уражвае немалая колькасць у вершатэкстах многіх аўтараў банальных, шаблонных метафар, трывіяльных эпітэтаў і параўнанняў, нязграбных, каравых, «празаізаваных» радкоў, а таксама пафасных, дыдактычна-рытарычных, і пра што могуць сведчыць наступныя прыклады: «Зима-чародейка, мой мир околдуй, // Мой мир одари серебром»; «Проснешься наутро: легко и свежо // И можно снежинкой летать. // И будет казаться, что все хорошо, // Что не о чем больше желать» (Валерыя Ісаковіч); «ізноў прыгожы, урачысты май // нас расхвалюе Святам Перамогі» (Аксана Ярашонак); «Я для тебя не больше, чем путана, // А значит, нам с тобой не по пути» (Наталля Баламут); «А теперь за душой // Ни души, ни стыда, ни смятенья... // Это самый большой // Сувенир к моему дню рожденья!»; «У любого человека // Что-то есть, чего-то нет... // Нет ума — считай калека. // Нет житья — считай поэт...» (Людміла Клачко); «Нет, время раны не залатало... // Хоть много позже я рождена, // Я сердцем эту войну впитала, // Как будто это моя война» «Но если история вновь повторится // И ворог посмеет прийти, // Я знаю, за что, для чего будем биться, // И знаю, где силы найти» (Таццяна Купрыянец); «Я тоже чья-нибудь мечта. // И не иначе. // И кто-то ждет меня давно, // И даже плачет» (Юлія Логвін) і да т.п.

А з другога боку, у вершах зборніка можна выявіць даволі шмат няўцямных і зусім непаэтычных (дакладней, антымастацкіх) вобразаў, недарэчных і несумяшчальных параўнанняў, паняццяў, хаатычна-абсурдных ці псеўдафіласофскіх думак і выказванняў-фармулёвак, а таксама відавочна няўдалых спроб прадэманстраваць уласную нібыта арыгінальнасць: «ішла ў скаваным скафандры грахоў»; «и плачет о Слове // земля под Голгофой // о сломанных ритмах // о скованных строфах» (Вольга Агапонава); «снег сделает желания

нагими, откроет раны сердца, сняв бинты»; (Наталля Баламут); «Бог перад мніхам з усмешкаю кленчыць // вечнасць не верыць, што будзе жыць вечна» (Кацярына Массэ); «Небакрай не кранаць, не круціць кранаў. Люты — Познер, А чэрвень занадта рана»; «Ноч не клеіцца. Наўпакі — свеціць у вочы. Трэш шурпатыя ступакі — Не дзявочыя» (Аліса Мініна); «Захлынаецца пахам неба Мінск — асфальтавая карма... Я — дзіця капітана Нэма, Я дачушка яго — Няма...» (Ганна Чумакова) і інш.

Акрамя таго, лічу, што ў паэтычных тэкстах па магчымасці варта пазбягаць выкарыстання дзеяслоўных рыфмаў з-за таго, што, па-першае, абсалютная іх большасць ужо даўно стала банальнымі, трывіяльнымі, а з другога боку, такія рыфмы імгненна пазбаўляюць асобныя радкі і строфы паэтычнай вобразнасці, нібы «зазямляюць» верш, ператвараючы яго па сутнасці ў невялічкую празаічную замалёўку побытавага характару. Праўда, у руках геніяльных і вельмі таленавітых майстроў паэтычнага слова такая «прыземленасць» дзеяслоўных рыфмаў звычайна кампенсуецца ў вершы нечым іншым (напр., арыгінальнымі вобразамі ў іншых частках верша, адметнай рытмікай і непаўторнай інтанацыяй), тады як у не надта адораных паэтаў гэтага найчасцей няма, у выніку чаго атрымліваюцца вось такія банальныя, (псеўда)рытарычныя і нецікавыя, нудныя строфы: «Без конца я тебе благодарна за то, что услышал, // Что почувствовать смог этот ритм, осознать и принять, // Что мы вместе любовью святой, а не ревностью дышим... // Ни за что это чувство вовек не смогу променять!» (Таццяна Купрыянец); «То стану сумасбродничать, чудить // В потребности привлечь твое вниманье, // То вновь пытаюсь терпеливо жить: // Твердить себе, что встречи час настанет» (Валерыя Ісаковіч); «Карты пакласці на стол, // Каву моцную піць, // Чакаць, каб толькі прыйшоў... // Проста кахаць (ці любіць)...» (Яна Явіч). Варта яшчэ дадаць, што некаторыя аўтары часцяком выкарыстоўваюць і трафарэтна-банальныя рыфмы, якіх кожны адказны паэт павінен старацца ўсяляк пазбягаць: «вады — гады — заўжды», «піць — любіць», «імгненне — натхненне», «адзінота — нота», «далонь — агонь», «шкадаванне — спатканне», «рака — рука», «дах — пах», «поспать» — «вставать» і шэраг да іх падобных.

А цяпер, у выглядзе параўнання і без лішніх каментароў прывяду толькі некалькі найбольш удалых, высокамастацкіх і па-сапраўднаму арыгінальных аўтарскіх метафар: «жоран кахання цябе перамеле», «жангліраваў кастрычнік жоўклым лісцем», «мы закаваныя самотаю», «а верасень у жоўтым кімано» (Аляксей Арцёмаў); «загрукалі дажджынкі-кастаньеты», «пульсуе цішыня на бледных скронях», «чмыхае ад пылу неба» (Ірына Карэліна); «Муза-пакутніца моўчкі сышла, каб нарадзіцца ў наступную эру» (Алесь Емяльянаў); «сонца, як свечку, вечар задзьмуў», «у каве неба патанула» (Ірына Чарняўская); «Не бачна ніводнай зоркі У небе вачэй тваіх» (Міхал Бараноўскі); «фортку ў душу забылася зачыніць» (Ганна Федарук); «аскепак шчасця грэўся на руках» (Вераніка Мандзік). А ў дадатак яшчэ прапаную і некалькі, бадай, самых удалых і нечаканых рыфмаў: «верасень — ерасі», «Еўпаторыі — гісторыя», «пырскаюць — крым-

скую» (Аляксей Арцёмаў); «далонь — мі-бемоль», «бэз — фа-дыез», «ліха — дыхаць» (Ірына Карэліна); «каменне — Арменія», «чаіцы — раніцай» (Алесь Емяльянаў); «прас — ўраз», «п'янкі — шпакі», «місія — увысь, а я», «наўмысна я — напісана» (Ірына Чарняўская); «Каўказа — разам», «Вялікім Судзе — чарзе» (Ганна Федарук); «убачыць — Выкладчык» (аксана Ярашонак).

Карацей, для многіх аўтараў зборніка шлях ад банальнасці/трывіяльнасці/шаблоннасці да сапраўднай арыгінальнасці аказаўся пакуль неперадольным, хаця ў далейшым, пры ўмове напружанай працы над сабой і над сваім мастацкім словам, некаторыя з іх, магчыма, і здолеюць калі-небудзь выбіцца ў сапраўдныя майстры сваёй справы і перайсці з шырокай і шматлюднай дарогі банальнасці на вузкую (і зусім нешматлюдную) сцяжыну арыгінальнасці.

## Нечаканасць і разнастайнасць...

У мастацкай літарататуры практычна ва ўсе гістарычныя часы і амаль ва ўсіх народаў высока цанілася ўменне мастака слова (асабліва паэта) па-добраму здзіўляць чытача і слухача, уражваць яго не толькі глыбінёй твораў, але і іх арыгінальнасцю, разнастайнасцю і вобразнай, стылёвай нечаканасцю, непрадказальнасцю. Нездарма менавіта такія аўтары, якія ўмелі быць разнастайнымі і нечаканымі, заўжды імкнуліся да пашырэння творчага дыяпазону і ўзбагачэння ўласнай творчай палітры, звычайна станавіліся затым агульнапрызнанымі класікамі нацыянальнай і сусветнай літаратуры. Таму невыпадкова, што адзін з такіх класікаў — геніяльны рускі паэт Восіп Мандэльштам — слушна казаў пра тое, што «паветра верша ёсць нечаканае». І сапраўды, без наяўнасці гэтага элемента нечаканага практычна любому вершу (ды і празаічнаму твору) заўжды не хапае кіслароду, і ён нібы пачынае задыхацца ў цёмнай, затхлай каморы банальнасці і змярцвелай аднастайнасці, манатоннасці. Таму адной з жыццёва важных, і разам з тым, самых складаных задач кожнага сапраўднага пісьменніка з'яўляецца менавіта нястомны пошук навізны ў сэнсе новых незвычайных сюжэтаў, новых вобразаў і рыфмаў, новых інтанацый. І тут варта шчыра прызнаць, што такіх смелых мастацкіх пошукаў і неадольнага жадання аўтараў выйсці на шлях абнаўлення і пашырэння творчых гарызонтаў мы ў рэцэнзуемай кнізе бачым зусім няшмат.

У гэтым калектыўным зборніку маладыя пісьменнікі найчасцей абмяжоўваюцца выкарыстаннем традыцыйных, правераных многімі пакаленнямі творцаў мастацкіх прыёмаў — напрыклад, у галіне паэзіі выкарыстоўваюцца пераважна рыфмаваныя вершы, напісаныя катрэнамі (чатырохрадкоўямі) з перакрыжаванымі рыфмамі, а ў галіне прозы — традыцыйныя апавяданні. У той жа час мала прадстаўлены ў кнізе верлібры, белыя, і тым больш паўбелыя вершы, а што датычыцца розных відаў і формаў верша, то тут можна назваць хіба трыялет, хайку, таўтаграму і элегію. Адразу з пэўным сумам заўважаеш, што па-за межамі ўвагі амаль паўсотні маладых аўтараў засталіся дзясяткі добра распрацаваных і засвоеных беларускай паэзіяй формаў верша (класічны

санет, актава, рандо, рандэль, рытурнэль, тэрцыны, секстына, глоса, танка, віралэ, віланэль, газель, пародыя, эпіграма і інш.), а таксама такія, напрыклад, агульнавядомыя ў айчыннай літаратуры празаічныя жанры, як аповесць, прыпавесць, лірычная замалёўка, эцюд, нарыс. Увогуле, у кнізе практычна цалкам адсутнічаюць гумарыстычныя і сатырычныя творы ў галіне як паэзіі (не знойдзеце тут байкі, пародыі, эпіграмы), так і прозы (няма ніводнай гумарэскі, фельетона, памфлета), а таксама зусім не прадстаўлены творы вострасацыяльнай тэматыкі, што ўсё разам узятае, безумоўна, досыць заўважна збядняе жанрава-змястоўны складнік і агульную мастацкую вартасць усяго зборніка.

Калі казаць пра тое, што з прозы ў кнізе ёсць, то тут прадстаўлены такія яе вядомыяі віды і жанры, як «апавяданне» (Крысціна Бандурына, Алёна Беланожка, Сяргей Календа, Стася Кацюргіна, Маргарыта Латышкевіч, Яўген Мартыновіч, Уладзімір Садоўскі, Вікторыя Сінюк, Ганна Шыбут і інш.), «казка» (Валерыя Саротнік), «міфалагічны трыпціх» (Ганна Навасельцава), «дзённікавыя запісы» (Ксенія Шталенкова) і інш. А калі ж казаць непасрэдна пра аўтараў, то варта прызнаць, што з усіх празаікаў найбольшую ўвагу адразу прыцягваюць творы пісьменніка Яўгена **Мартыновіча** (н.1985), які прадстаўлены ў зборніку больш чым дваццаццю сваімі творамі. Дык чым жа канкрэтна ён выдзяляецца сярод іншых, чым прыцягвае ўвагу?! А тым найперш, што толькі адзін гэты бясспрэчна таленавіты аўтар прэзентуе больш разнастайных відаў, формаў і жанраў мастацкай прозы, чым усе іншыя разам узятыя два дзясяткі ягоных калег-празаікаў. Дык вось, тут змешчаны і ягоныя апавяданні, і навела, і абразкі, і зацемкі, і нават незвычайны «ліст у будучыню», што праўда, адразу ж выклікала ў памяці назву зборніка твораў Сяргея Палуяна — «Лісты ў будучыню». Прычым некаторыя з гэтых абразкоў і зацемак па сваёй зграбнай форме, лаканічнасці і ёмістасці, незвычайнай вобразнасці нагадваюць адмысловыя вершы ў прозе.

У цэлым менавіта разнастайныя паводле формы і зместу творы Яўгена Мартыновіча з'яўляюцца, на маю думку, аднымі з найлепшых у кнізе, паколькі практычна ўсе яны вызначаюцца добрай чытэльнасцю, лёгкім стылем, выразнай жывой мовай, псіхалагічна дакладнымі характарыстыкамі герояў, а зрэдку і досыць заўважным драматызмам. Безумоўна, нельга не адзначыць наступныя неардынарныя выказванні і фармулёўкі маладога пісьменніка: «горад, як велізарная губка, убірае ў сябе людскія гісторыі» (апавяданне «Я проста хачу цябе ўбачыць...»); «Ці хацеў бы вярнуць мінулае? Вядома ж хацеў! Замерці ў ім, націснуць на кнопку save (калі б такая кнопка была ў жыцці), і вярнуцца да таго моманту, калі можна было б хоць нешта змяніць» (апавяданне «Ён і яна»); «Ненапісаныя вершы жывуць пад дахамі дамоў і ў вачах каханых. Яны туляцца адзін да аднаго і чакаюць, калі іх хто-небудзь убачыць» (абразок «Ненапісаныя вершы»). Самабытным і цікавым творам з'яўляецца таксама навела «Мора», у якой мяне найбольш уразіла наступная фраза: «Мы ператварыліся ў мяшкі з цвікамі, якія тырчаць з усіх бакоў і раняць адзін аднаго пры дотыку». Праўда, тут хацеў бы зрабіць адну невялікую заўвагу наконт жанравай прыналежнасці гэтага твора. Справа ў тым, што аўтар назваў яго «навелай»,

хаця, на маю думку, тут лепш бы пасавала вызначэнне «псіхалагічнае апавяданне». Чаму? Ды таму, што, як вядома з літаратуразнаўства, навела ўяўляе сабою апавядальны твор, які традыцыйна вызначаецца напружаным, нярэдка драматычным дзеяннем і нечаканым фіналам. А ў гэтым творы пад назвай «Мора» ніякага драматызму па сутнасці няма, паколькі пісьменнік расказвае гісторыю пра тое, што галоўнага персанажа нечакана «пакінулі сны» (у т.л. і любімыя сны пра мора), што ён перажывае крызіс адносінаў з каханай, але затым купляе квіткі да мора, едзе туды са сваёй жанчынай, і там, у цёплым марскім клімаце, да яго нарэшце вяртаюцца сны. Як бачым, насамрэч атрымалася хутчэй класічная любоўная гісторыя з «хэпі-эндам», што на сапраўдную навелу, па-мойму, ніяк не цягне.

Прыемнай нечаканкай стала для мяне і магчымасць прачытаць у кнізе вострасюжэтнае апавяданне, напісанае ў вельмі рэдкім для айчыннай літаратуры жанры «антыўтопіі» — г.зн. такога фантастычнага твора, дзе апісваюцца крайне неспрыяльныя для чалавека ўмовы грамадскага жыцця ў (не) далёкай будучыні. Аўтарам гэтага апавядання-антыўтопіі з'яўляецца малады таленавіты празаік Уладзімір **Садоўскі** (н.1987), які расказаў у ім трагічную гісторыю групы «ўзброеных пілігрымаў вялікай ядравай пустэльні», якія, відаць, пасля знішчальнай атамнай вайны трапілі ў жорны нейкай жахліва-таямнічай і бесчалавечнай Сістэмы, з якіх наўрад ці хто зможа выйсці жывым. Адразу выклікаюць шчырае суперажыванне наступныя адчайна-роспачныя словы галоўнага героя, ад імя якога і вядзецца аповед: «Увогуле, стараюся жыць мінулым. Таму што будучыні ў мяне няма. Яго адняла Сістэма»; «...я добра прыстасаваўся да патрабаванняў Сістэмы. Я самператварыўся ў механізм, запраграмаваны на пэўныя рэакцыі ў адказ на пэўныя дзеянні. Ад чалавека ў мяне засталіся толькі ўспаміны і нямоглая злосць».

Сярод прапанавых увазе чытачоў апавяданняў адным з самых цікавых і арыгінальных мне таксама падаўся і адзіны празаічны тэкст Вікторыі **Сінюк** (н.1988), які напісаны на рускай мове, але назву мае італьянскую — «Da capo al Fine». Назва гэтага апавядання запазычана з музычнай тэрміналогіі, што ў перакладзе на беларускую мову азначае «Ад пачатку да слова «канец». Па сваёй стылістыцы твор відавочна набліжаецца да лірычнай прозы, паколькі напісаны досыць багатай і сакавітай мовай, вызначаецца тонкім псіхалагізмам, пэўнай музычнасцю (тым больш, што ён прысвечаны музыцы і стасункам герояў, якія слухаюць класічную музыку), у ім ёсць нямала трапных псіхалагічных назiранняў і параўнанняў, арыгінальных выказванняў-высноў. Да ліку апошніх можна аднесці, напрыклад, наступныя: «То строго и дидактично, то утешающее и мягко, говорила с душой музыка, которой суждено было родиться бессмертной»; «Piano, piano, — просила она его, когда он обрушивал на неё каскад этой нежности, а он не слушал — вся его натура была сплошным неукротимым forte», «Что бы ни было снаружи — там, в большой, шумной, верткой жизни, — здесь душа брала высокие ноты, потому и хотелось возвращаться сюда, в заповедник вечности, снова и снова», «В это мгновение она

была уверена в том, что партитуру ее жизни судьба прописала гениально». У цэлым гэтае самабытнае апавяданне пакідае цалкам станоўчае ўражанне і пераканаўча сведчыць пра немалы пісьменніцкі талент і мастацкі патэнцыял маладой аўтаркі.

А яшчэ да ліку неардынарных празаічных твораў варта, відаць, аднесці, невялікае апавяданне пад назвай «Чужое жыццё» аднаго з наймаладзейшых празаікаў зборніка — Стасі **Кацюргіной** (н.1992). Аўтарка тут апавядае драматычную гісторыю жыцця адной маладой жанчыны, якая нарадзіла «для сябе» ад жанатага мужчыны, а потым (пасля аўтааварыі) ляжала ў больніцы ў стане нерухомасці. Гэты празаічны твор адразу прыцягнуў маю чытацкую ўвагу кампактнасцю і цэльнасцю аповеду, лёгкасцю стылю, шчырай усхваляванасцю пісьменніцы пры апісанні сямейнай драмы, а таксама арыгінальнасцю ў тым сэнсе, што ў празрыстую тканіну апавядання арганічна ўваходзяць невялічкі верш і некалькі т.зв. «флэш-бэкаў» (вяртанняў да мінулых падзей), якія для лепшага ўспрымання адмыслова выдзелены курсівам. Акрамя таго, да ліку відавочных творчых знаходак маладой пісьменніцы можна аднесці яшчэ і наступныя арыгінальныя фразы: «Думкі віравалі, безнадзейна чапляліся за рэальнасць», «Я хачу зацяжарыць уласным шчасцем», «Дзіця, як анёл, недатыкальнае».

У цэлым, разглядаючы лепшыя празаічныя творы маладых творцаў, можна зрабіць выснову пра тое, што ўсе яны актыўна карыстаюцца такой вядомай з даўніх часоў магутнай пісьменніцкай «зброяй», як нечаканасць-разнастайнасць-арыгінальнасць. Акрамя таго, усе яны ўмеюць па-сапраўднаму здзівіць, уразіць чытача сваімі незвычайнымі вобразамі і сюжэтнымі хадамі, а таксама нібы зацягнуць яго ў глыбокі вір сваіх (і сваіх герояў) перажыванняў-хваляванняў.

## Уцёкі ў краіну фантазій, сноў і віртуальнай рэальнасці...

У дадзенай кнізе заўважаецца відавочны адыход многіх аўтараў ад канкрэтных побытавых пытанняў і тым больш ад якіх-небудзь вострых сацыяльных праблем у бок апісання ўласных мараў, мрояў, сноў, успамінаў і надзей. Яскравым пацверджаннем гэтай адмысловай тэндэнцыі ўцёкаў ад рэальнасці з'яўляецца досыць вялікая колькасць твораў фантазійных і фантастычных — прычым як у паэзіі, так і ў прозе. Складваецца ўражанне, што маладыя творцы ў супрацьвагу пераважна досыць бляклай, нецікавай, а часам і амаль невыноснай рэчаіснасці, спрабуюць вырвацца ў бязмежны і шматфарбны свет уласных дзіўных фантазій, салодкіх крозаў, неверагодных сноў, выратавальных успамінаў, а таксама вярнуцца ў сваіх думках да прыцягальных падзей далёкага мінулага. У якасці прыкладу можна прывесці хаця б наступныя назвы твораў (паў)фантастычнага, міфалагічнага і казачнага характару: міфалагічны трыпціх «Лесавік, вадзянік, палявік» Ганны Навасельцавай і яе апавяданні «Бусліч», «На векавечных межах...»; апавяданне-антыўтопія «У мяне няма пачуццяў, але я павінен кахаць» Уладзіміра Садоўскага, «Восем казак для

дарослых» Валерыі Саротнік, цыкл фантастычных апавяданняў «A-550-L» Маргарыты Латышкевіч і інш. Акрамя таго, назвы многіх вершаў у дадзеным кантэкстце таксама вельмі паказальныя: «Жоўта-чырвонае мроіва», «Віно з успамінаў», «Ад сівой даўніны, ад паганскіх...», «Не дойдзе да Тэначтытлана ацтэкскі ваяр...», «Завіталі ў мой дом Мельхіор...Балтасар...Каспар...», «Князёўна», «Зима-чародейка, мой мир околдуй...» і да т.п.

Відаць, менавіта з-за незадаволенасці сваім шэрым штодзённым жыццёмбыццём, а таксама з-за неадольнага імкнення «расфарбаваць» яго яркімі і сакавітымі фарбамі, у аўтараў (ці герояў іх твораў?!) часам узнікаюць незвычайныя думкі, жаданні і адчуванні, здзяйсняюцца дзіўныя ўчынкі. Пра гэта сведчаць, напрыклад, як назвы некаторых мастацкіх твораў (апавяданне «Давай захватим мир...» Анастасіі Семянько, апавяданне «Абарані мае сны» Станіславы Умец, верш «Падглядаю на золку ваш сон...» Ганны Федарук, верш «У жменьку збіраю кавалачкі сну...» Яны Явіч), так і асобныя цытаты з мастацкіх тэкстаў: «сярод людзей тут я заўсёды адчувала сябе, як рыба ў балтыйскіх кансервах» (з апавядання «Дождж з прысмакам кавы» Крысціны Бандурынай; «мне бы — в белой пене // новой раковиной всплыть // в память об Эдеме» (з верша «Patria» Вольгі Агапонавай); «І пры гэтым жадаць толькі аднаго: каб на цябе забыўся ўвесь белы свет і каб нехта не распужаў тваіх сноў» (з навелы «Мора» Яўгена Мартыновіча); «Хочацца паразумення, пяшчоты і веры. // Вылецець з даху... ляцець праз нябесныя дзверы.» (з верша «Толькі, на жаль, у вас няма крылаў» Мар'яны Вітэры); «Васіль адчуваў, як у салоне аўтамабіля хмарамі вісіць ягоны цяжкі лёс» (з апавядання «Цяжкасці разумення» Сяргея Календы); «Я стою в неглиже // И в себя окунаюсь, как в море!» (з верша «Только мне поделом!» Людмілы Клачко) і да т.п.

У адрозненне ад вышэйназваных аўтараў — пераважна, відаць, летуценнікаў ды рамантыкаў — другую, таксама досыць шматлікую частку маладых творцаў, складаюць тыя, хто, наадварот, імкнецца апісваць у сваіх творах тое, што яны лепш за ўсё ведаюць, што іх найбольш турбуе, з чым яны непасрэдна сутыкаліся ці чулі ад сваіх сваякоў, сяброў. Таму ў кнізе можна знайсці нямала паэтычных ды празаічных опусаў, якія вызначаюцца (гіпер)рэалістычнай стылістыкай, нярэдка нават побытава-прыземленым зместам. І гэта таксама цалкам зразумела, бо ўсё ж аўтары жывуць не ў нейкіх нябёсных эмпірэях, а ў большых ці меншых кватэрах, вучацца ці працуюць у маленькіх ці вялікіх установах, ходзяць у канкрэтныя крамы, (кіна)тэатры, начныя клубы і г.д. Адпаведным вынікам такога іх «побытава-рэалістычнага» светаўспрымання з'яўляецца наяўнасць на старонках кнігі твораў пра метро (верш Наталлі Баламут), пра хлопчыка на лыжах (апавяданне Алёны Беланожкі), пра 8-е сакавіка (верш Ірыны Чарняўскай), пра ялінкі (цыкл «дзённікавых запісаў» Ксеніі Шталянковай), пра шпіталь (верш Ганны Шыдлоўскай), пра Брэсцкую крэпасць (верш Таццяны Купрыянец), пра кветкі (апавяданне Аляксандра Цітова), пра выбух у мінскім метро (апавяданне Сяргея Календы), пра алоўкі (верш Адама Шостака), пра плошчу Якуба Коласа (верш Аксаны Ярашонак) і г.д.

Канечне, многія з гэтых і ім падобных твораў маюць нязначную літаратурна-мастацкую каштоўнасць з-за адсутнасці глыбіні і арыгінальнасці, а таксам з-за наяўнасці відавочных элементаў пафаснасці, рытарычнасці і відавочнай зададзенасці. Але ж некаторыя творы рэалістычнага кірунку вызначаюцца чытэльнасцю, дабротнасцю, выразнасцю абмаўлёўкі характару персанажаў, вастрынёй сюжэтных калізій. А яшчэ варта дадаць, што акрамя, так бы мовіць, звычайнай рэальнасці, многія маладыя аўтары дэманструюць добрае веданне і пэўную цягу да апісання т.зв. «віртуальнай рэальнасці», пра што сведчыць досыць частае ўжыванне адпаведных слоў і словазлучэнняў — напрыклад, Інтэрнэт, камп'ютар, мабільнік, смартфон, скайп, электронная пошта, месэнджар, сацыяльныя сеткі (Фэйсбук, Вконтакте), «Photoshop» і інш. Такім чынам, можна небеспадстаўна сцвярджаць, што сучасная маладая літаратура даволі някепска асвойвае ўсе магчымыя віды мінулай, сённяшняй і будучай рэальнасці. І няма сумненняў, што падобнае асваенне хутчэй за ўсё будзе працягвацца шпаркімі тэмпамі.

А яшчэ, безумоўна, кідаецца ў вочы і амаль поўная асацыяльнасць змешчаных у кнізе твораў — г.зн. адсутнасць у іх больш-менш яўна акрэсленых сацыяльных праблем і адпаведных ім вострых калізій. У выніку атрымалася так, што ў поле зроку аўтараў практычна зусім не трапілі найбольш балючыя пытанні сучаснага жыцця грамадства (алкагалізм, наркаманія, беспрацоўе, моцны падзел людзей на бедных і багатых, інтэрнэт-залежнасць, кар'ерызм, сапраўдная эпідэмія хлусні і г.д.). На мой погляд, прычынамі такой прыкрай асацыяльнасці могуць быць, з аднаго боку, як адмысловая цэнзура з боку выдаўцоў (бо зараз у дзяржаўных выдавецтвах нельга друкаваць вострасацыяльныя творы), так і з другога боку, пэўная самацэнзура аўтараў, якія свядома пазбягаюць у сваіх творах «непажаданых» тэм. Паколькі ў кнізе прадстаўлены амаль пяць дзясяткаў (бясспрэчна, рознай грамадска-палітычнай і этнакультурнай арыентацыі), то можна, відаць, выказаць меркаванне аб тым, што творы сацыяльна-грамадзянскай праблематыкі кімсьці з іх усё ж пішуцца — праўда, хутчэй за ўсё «ў стол».

***

Завяршаючы больш-менш падрабязны разгляд змешчаных у дадзенай кнізе твораў, прыйшоў час зірнуць на наш адмысловы літаратурны барометр. Дык што ён у рэшце рэшт паказаў, якія зафіксаваў змены/зрухі ў мастацкай творчасці маладых пісьменнікаў. Канечне, гэты барометр не можа дакладна і аб'ектыўна вызначыць агульны ціск нашага прыгожага пісьменства, паколькі для больш поўнай і аб'ектыўнай карціны патрэбны былі б і іншыя анталогіі паэзіі і прозы, складзеныя з твораў іншых таленавітых і не вельмі аўтараў. Але ўсё ж, якія асноўныя вынікі можна зараз агучыць.

Па-першае, наш барометр зафіксаваў відавочнае падзенне ў маладой беларускай літаратуры ціску/узроўню эксперыментальнасці і пошукавасці ў адрозненне ад тых часоў канца 20—пачатку 21 ст., калі наватарства некаторых айчынных маладых пісьменнікаў было значна больш яркім і ледзь не зашкаль-

вала. А цяпер, пасля тых «бурапенных» літаратурных часоў агульная сітуацыя выглядае ў цэлым больш спакойнай і ў нечым нават нейкай млявай, затарможанай, паколькі літаратары дзейнічаюць самі па сябе, не ўваходзяць ні ў якія заўважныя суполкі і аб'яднанні (для параўнання ўзгадайма даўнія суполкі «Тутэйшыя», «Таварыства вольных літаратараў», «Бум-бам-літ» і інш.), не пішуць новых творчых маніфестаў і, у цэлым, прытрымліваюцца пераважна традыцыйнай мастацкай паэтыкі. Па-другое, вельмі многім аўтарам яўна не хапае ў творчасці сапраўднай арыгінальнасці (не блытаць са штучным арыгінальнічаннем!), глыбіні зместу і нестандартнасці формы, нетрывіяльнасці сюжэтаў і вобразаў, нечаканасці развагаў, інтанацый ды рытмаў. Па-трэцяе, заўважаецца відавочны дрэйф значнай часткі маладых літаратараў ад рэальнага штодзённага жыцця ў бок уласных фантазій, мрояў і мараў, хаця другая частка творцаў, наадварот, аддае відавочную перавагу, так бы мовіць, прыземленаму побытапісальніцтву ў прозе і ў вершах. А па-чацвёртае, наш адмысловы прыбор зафіксаваў, што некаторыя аўтары пакуль яшчэ недастаткова працуюць з мастацкім словам, вынікам чаго нярэдка з'яўляюцца шурпатасць стылю, нагрувашчанне недарэчных вобразаў, хаатычнасць і фрагментарнасць аповедаў, адсутнасць паэтычнай логікі ў вершах. А яшчэ ж выдатны айчынны крытык Адам Бабарэка амаль сто гадоў таму слушна адзначаў, што мастацкае слова заўжды «служыць выражэнню ўсіх з'яў быцця чалавека ў іх эстэтычнай афарбоўцы». Тут самым важным з'яўляецца менавіта словазлучэнне «эстэтычная афарбоўка», бо без яе мастацкі твор не можа адбыцца, паколькі ў такім выглядзе ён з'яўляецца, вобразна кажучы, звычайным кавалкам дрэва, да якога не дакранулася майстравітая рука вопытнага цесляра. Такія неапрацаваныя і эстэтычна неафарбаваныя творы не могуць прынесці аматару прыгожага пісьменства сапраўднай інтэлектуальна-духоўнай асалоды, не могуць закрануць глыбінных і тонкіх струнаў яго душы, затое могуць, наадварот, выклікаць больш-менш актыўнае непрыманне і нават унутранае адрыньванне.

Але ж нягледзячы на шэраг выказаных у рэцэнзіі крытычныя заўваг і пажаданняў, агульнае ўражанне ад кнігі досыць някепскае, бо тут прадстаўлена нямала здольных аўтараў, якія спрабуюць знайсці свой адметны творчы шлях і заняць пэўнае месца ў айчыннай літаратуры. Безумоўна, у многіх маладых пісьменнікаў ёсць немалы творчы патэнцыял, але ці раскрыецца ён напоўніцу, будзе залежаць найперш ад іх патрабавальнасці да саміх сябе і ад таго, наколькі яны будуць нястомна вучыцца і самаўдасканальвацца, урэшце, наколькі яны будуць чуйнымі і ўважлівымі да таго, што адбываецца не толькі ў іхніх душах і сэрцах, але і ў свеце, і ў сваёй краіне. І толькі тады, калі ўсё гэта складзецца, як частачкі вялікага пазла, мы будзем мець рэальныя падставы чакаць у бліжэйшыя гады і дзесяцігоддзі абнаўлення айчыннага прыгожага пісьменства. А ў заключэнне хацеў бы яшчэ раз паўтарыць сказанае ў самым пачатку артыкула: **«Хай пасняховым будзе дзень для маладых...»**



# Анатоль Трафімчык

**літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт.**
**Кандыдат гістарычных навук. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.**

# Urbi et Orbi(t): чарговы раз пра новы раман Людмілы Шчэрбы

***Шчэрба Л. Урб@н.М: адзін дзень не майго жыцця. Мінск: А. М. Янушкевіч, 2017. 286 с.***

Жаночая творчасць. Спрэчкі пра яе цыркулююць здаўна. Іх сутнасць пачынаецца ад пытання пра само існаванне паняцця. Падаецца ўсё-такі, раз пра такую з'яву гавораць, значыць, яна ёсць. У тым ліку — жаночая проза.

Ці не самым яркім яе прадстаўніком у Беларусі з'яўляецца на цяперашні момант Алена Брава. Як па мне, яе творчасць нават мацнейшая (у тым ліку жаночасцю), чым у яе ўкраінскага аналага — Аксаны Забужкі. Апошнюю лепей будзе параўнаць (гэта крытыкамі ўжо зроблена) з Генры Мілерам. У спадніцы. Мастацкія *даследжанні* А. Брава такіх відавочных супастаўленняў не навейваюць. Беларуска заняла сваю нішу ў літаратуры дзякуючы аўтэнтычнасці і адметнасці. Без прэтэнзій на кідкасць. Але дзякуючы літаратурна-мастацкаму аналізу беларускай драмы ў КУБЕ.

Сённячы можна ўздымаць гаворку пра школу (у беларускай літаратуры) жаночай творчасці. Гэта не значыць, што яе вучаніцы прайшлі нейкі *курс* (каб чытачы гэтых радкоў не праскочылі: тут намёк на апавяданні Евы Вежнавец). Пачынаючы, вобразна скажам, у дзіцячым садку Ефрасінні Полацкай (NB першым вядомым нам літаратарам беларускай зямлі з'яўляецца жанчына![1]). Скончыўшы пачатковую школу па сістэме Уршулі Радзівіл і Саламеі Пільштынавай. Дзёрзкія сярэднія класы правучыўшыся ў Цёткі і Канстанцыі Буйло (не мінуўшы пры гэтым шматлікіх «Бліскавіц» — аўтарак жаночазаходнебеларускапаэтычнай анталогіі з такой назвай укладальніцтва Віктара Жыбуля і Аксаны Данільчык). Пераняўшы мастацкую саліднасць у старэйшых класах ад Наталлі Арсенневай і Ларысы Геніюш, Алены Васілевіч і Лідзіі Арабей, Яўгеніі Янішчыц і Ніны Мацяш, Раісы Баравіковай і Дануты Бічэль (відавочная перавага аўтарак паэзіі).

Як той казаў, спіс можна працягваць, узбагачаць. Відавочна, адно: *курсач* маладыя аўтаркі пісалі ў кіраўнікоў сучаснага так званага сярэдняга пакалення. Прабачце, кіраўнічак. Прычым пісалі на «біс», з авацыямі (гэта таксама — празрысты намёк).

Маючы за спінай такую школу, складана застацца самім сабой, не падпасці пад уплывы. Але адным з базавых уменняў навучання ў ёй з'яўляецца самабытнасць. Таму кожнай аўтарцы хоцькі-няхоцькі даводзіцца шукаць навізну. Дакладней, даводзіцца прыкласці сілу волі, каб застацца сабою. Тым не менш гэта спараджае не толькі разнастайнасць, але і тыпалагічнасць. Адным з пра-

[1] Зрэшты, і гісторыя наша вядзе антрапалагічны пачатак ад Рагнеды.

яўленняў апошняй стала тэндэнцыя, якую можна назваць «*дзявочай* прозай»[2]. Сярод яе імён, якія ўжо больш ці менш былі на слыху: Югася Каляда, Кацярына Мядзведзева, Маргарыта Латышкевіч, Алёна Беланожка...

Адным з ярчэйшых феноменаў азначанага мэйнстрыму стала творчасць Людмілы Шчэрбы. Прычым бярэ яна не пладавітасцю, а менавіта эфектнасцю. За сваё пісьменніцкае жыццё, не такое ўжо і кароткае — з улікам сучасных тэхналогій і хуткаплыннасці ўвогуле, пісьменніца апрылюднівае толькі другі раман. Першаму — «Уладар рыбаў» — ужо больш чым дзясятак гадоў. Творы ў дробных жанрах яе аўтарства таксама пракідаюцца, але — неназойліва (у адрозненне ад раскручаных раманаў).

Згаданая рыса — эфектнасці — азначае (аўтаматычна) ідэйна-мастацкую неадназначнасць. Таму і характарызаваць (у прыватнасці новы раман) таксама няпроста. Прынамсі выкрышталізаваць асабістую пазіцыю па творы практычна немагчыма. (Не выключана, што да такой, неадназначнай рэцэпцыі і спадзяецца падштурхнуць аўтарка. Хоць у цэлым ёй, як відаць па многіх прыкметах жыццядзейнасці, «ничто человеческое не чуждо», у тым ліку імкненне да славы ў станоўчым святле. Тым не менш Л. Шчэрба не шукае лёгкіх шляхоў, ідзе per aspera. Але ці ad astra — пакажа час.

Ужо ў анатацыі правакацыйна дэкларуецца: «Вы атрымаеце не адну кнігу, а дзве! Гэта «раман у рамане» — адзін напісаны аўтарам, другі — героем. Прычым чытаць можна з любой часткі! Падзеі рамана ахопліваюць 1642—1654 і 2012—2014 гг.» Нягледзячы на ўсю сур'ёзнасць, узнікае асацыяцыя з шампунем — «два ў адным». Але і сімвалічна: нібы ім чытач можа адмыцца ад пылу паўсядзёншчыны.

Не менш асацыятыўны і правакацыйны ўступ, у якім аўтарка не па-дзявоцку лаканічна і змястоўна акрэсліла свой пісьменніцкі шлях з вынясеннем вердыкту напрыканцы: «А я дык лічу, што, каб стаць беларускім пісьменнікам, трэба патрапіць у школьныя падручнікі. Над чым я зараз шчыра працую, выкрэмзваючы са сваіх раманаў занадта сэксуальныя для неакрэплай юначай псіхікі сцэны» (с. 4). Рыхтык славуты Венечка Ерафееў: «Во вступлении к первому изданию я предупреждал всех девушек, что главу «Серп и молот — Карачарово» следует пропустить, не читая, поскольку за фразой «и немедленно выпил» следует полторы страницы чистейшего мата, что во всей этой главе нет ни единого цензурного слова, за исключением фразы «и немедленно выпил». Добросовестным уведомлением этим я добился того, что все читатели, особенно девушки, сразу хватались за главу «Серп и молот — Карачарово», даже не читая предыдущих глав, даже не прочитав фразы «и немедленно выпил». По этой причине я счел необходимым во втором издании выкинуть из главы

[2] Між іншым у паэзіі такога струменьчыка – не проста колькаснага, а найперш сістэмнага – не назіраецца. І гэта пры наяўнасці той жа школы і багатага на імёны поля паэтак, розных і тэматычна, і ўзроўнева, а самае галоўнае – лёсава. Хаця, здавалася б, у такім аспекце паэзія павінна "абганяць" прозу.

«Серп и молот — Карачарово» всю бывшую там матерщину. Так будет лучше, потому что, во-первых, меня станут читать подряд, а во-вторых, не будут оскорблены»[3]. Але паколькі «Урб@н.М» пакуль існуе толькі ў першым выданні, якое, дарэчы, таксама імкліва разышлося, мы маем (ня)шчасце чытаць твор без (аўта)купюр. Да таго ж з імі кніга здорава пахудзела б!

Перад зачынам непасрэдна мастацкага тэксту — у аўтарскім жанравым вызначэнні — ужо адкрыта пазначана: «нанараман-правакARTцыя» (с. 5). Прыстаўка «нана-» бянтэжыць — міжволі нагадвае савецкае выхваленне: «Нашы мікрасхемы самыя вялікія мікрасхемы ў свеце!»

Наколькі ўдалося такім чынам настроіць патэнцыйнага чытача на паглынанне кнігі, можна меркаваць пра яе пэўную папулярнасць. Паказчыкам тут з'яўляецца і ўвага прафесійных літаратараў: нам вядома прынамсі пяць рэцэнзій[4]. Адна — Рамана Худалча — хутчэй адмоўная. Наталля Якавенка абмінула ацэначнасць, якая прадугледжваецца ў рэцэнзіі a priori, прадставіўшы свой аналіз у выглядзе мастацтвазнаўчага артыкула. Асобна таксама заўважым, што вядомы пісьменнік В. Гапееў не схільны лічыць сябе крытыкам, бо, маўляў, адгукаецца на літаратурныя навінкі хутчэй па «абавязку перад сабой», калі бачыць, што «выходзіць кніга, добрая, патрэбная, а пра яе — ні слоўца пасля выхаду»[5]. Відавочна, памыліўся. Рэзананс, які атрымаў «Урб@н.М» быў. І ёсць. Пакуль ёсць.

Найперш абумоўлівае ўвагу да твора Л. Шчэрбы тэма і сюжэт. Дзяўчына-пісьменніца-прыгажуня піша раман і... жыве (пра што і піша). Прычым — з першых старонак шукаючы прыгод, кажучы па-вулічнаму, на свае другія дзевяноста.

Прататыпам з'яўляецца, відавочна, сама аўтарка. Таму яшчэ дзіўна, як гэта ў сваім творы, перасыпаным эпіграфамі, няма слоў, якімі адкрываецца аналагічны па жанры мастацкі вынік чэшскага пісьменніка Міхала Вівэга «Лепшыя гады — сабаку пад хвост»: «Этот роман — как и большинство романов — являет собой обычную смесь так называемой правды и так называемого вымысла. Но каково бы ни было соотношение этих частей, нет никаких оснований утверждать — как это часто делают иные читатели, — что герои романа живут, на самом деле и что изображенные в нем события действительно происходили. Столь же неверным было бы утверждать — как в подобных случаях убеждают нас многие авторы, — что «лица и события описываемой истории

[3] Ерофеев В. Москва – Петушки: поэма.СПб.: Азбука, Азбука-Аттикус, 2014. С. 3.

[4] Размесцім іх у храналагічным парадку: Грушэцкі А. Раўнапраўе места і горада // ЛіМ, 2017, 9 чэрв. С. 7; Гапееў В. У кожнай жанчыне свая варона // Новы час, 2017, 29 чэрв. С. 17; Якавенка Н. Постмадэрнісцкая чуллівасць, або Мэшап па-беларуску [раман «Урб@н.М: адзін дзень не майго жыцця" Людмілы Шчэрбы ] // Роднае слова, 2017, №6. С. 20-22; Худалч Р. Жаночы раман з прэтэнзіяй // ЛитКритика.by [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу : https://litkritika.by/categories/literatura/11/4857.html. Дата доступу: 13.11.2017; Балахонаў С. Спадарыня, што зрушыла дэпо // Краязнаўчы сайт Гомеля і Гомельшчыны [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу : http://nashkraj.info/spadarynia-sto-zrusyla-depo/#disqus_thread. Дата доступу: 13.11.2017.

[5] Сачанка А. Валеры Гапееў: "Мова павінна быць самастойным героем" // Новы час, 2017, 29 чэрв. С. 7

целиком вымышлены»»[6]. Або — словы з уступу да такога ж фармату твора таго ж аўтара: «Игра на вылет» — конечно, не автобиографический роман. Хотя многие его эпизоды я пережил лично. Так погиб в армии мой одноклассник по гимназии. И я по себе знаю, как школьная любовь может определить всю твою жизнь. Мой лучший друг Давид женился на Иванке, самой красивой девочке из нашего класса. Но они уже давно развелись. На ежегодные встречи бывших абитуриентов всякий раз приходят порознь: либо Иванка, либо Давид. И оба всегда печальны. Роман — именно об этой печали, печали, которая с каждым годом все больше пронизывает нашу жизнь»[7]. Да таго ж і настраёвыя пераклічкі (асабліва «Гульні на вылет») з раманам Л. Шчэрбы навідавоку, перадусім у выразных дэкадэнтных нотах.

Лейтматыў раскрываецца пакрысе і фармулюецца ў саменькім канцы:

« — Я хачу ўспомніць, што такое ШЧАСЦЕ...

І толькі Бог ведае, што ёсць дабро, а што зло» (с. 282).

Такім чынам, адказу ўсё напісанае не прыносіць. Гэта абясцэньвае твор. Больш таго, самы апошні акорд увогуле зніжае ідэйнасць рамана:

«Прыйшла Цішыня. *Затраханая* і задаволеная...

Ох і штукар быў малады творца» (с. 283).

Калі ўлічыць, што з фрывольных матыўчыкаў і пачынаецца твор, патэтыка зусім развейваецца. Аўтарка да такога эфекту ідзе свядома. Нават некаторыя прарывы ўзвышанасці ўкрапляюцца ў тканіну тэксту, як правакацыя. Маўляў, патэтыка і магла б займаць у жыцці месца (хоць некаторае), але — на жаль...

Прыгледзімся бліжай.

Вось — пачатак: гераіня на спатканні, якое заканчваецца сэксам. Развіццё сцэны пераказваецца нібы сумбурна, то з аглядкай у гісторыю падзеі, то з прымяненнем каментарыяў. Спярша — «2 хвіліны таму» — абазначаецца «ўзровень небяспекі»: «— Не думай, што ты ў бяспецы! Адчуй, блін, долбаную небяспеку! Адчуй! — выразна да жаху шаптаў ён, гледзячы ёй у вочы» (с. 6). Затым — «24 гадзіны таму» — расказваецца, як гераіня апынулася ў той небяспецы: зрэагавала на незвычайную абвестку аб здачы жылля, вырашыўшы, што тут знойдзе добры матэрыял для будучага рамана: «Так, я ж пісьменніца. Ці хочаце папазіраваць дзеля кнігі? Гэта не жарт», — уяўляе гераіня магчымыя пры сустрэчы словы, гэтым самым уводзячы чытача ў тэму. (Як можна зразумець з факту існавання кнігі, матэрыял быў сабраны.) Як і належыць паводле законаў раманнага жанра, аповед пра адну сцэну расцягнуты на шмат старонак і нават пераходзіць у наступныя раздзелы. Прымяняюцца шматлікія адступленні — як па змесце, так і па форме. Асаблівая ўвага ў іх датычыцца лініі жаночай творчасці. Прычым аўтарка выходзіць далёка за межы класічнай рэпрэзентацыі думак, дэвербалізуючы іх — падаючы ілюстрацыі, названыя ARTаб'ектамі: ад кадраў мастацкіх фільмаў да копій магазінных чэкаў. Таму на такім фоне ўстаўкі палілогаў з вірту-

[6] Вивег М. Лучшие годы — псу под хвост // Иностранная литература, 1997, № 4. С. 5.

[7] Вивег М. Игра на вылет // Иностранная литература, 2007, № 1. С. 5.

альных форумаў глядзяцца бяскрыўдна. Такім комплексам выкрунтасаў, аднак, дасягаецца высокая ступень пераканальнасці, што так было насамрэч. Рыхтык, як у вядомай сцэне, калі героям трэ было выкруціцца:

«— А ты почему не писал?

— Я писал, — неожиданно ответил братец, чувствуя необыкновенный прилив веселости, — заказные письма посылал. У меня даже почтовые квитанции есть.

И он полез в боковой карман, откуда действительно вынул множество лежалых бумажек, но показал их почему-то не брату, а председателю исполкома, да и то издали.

Как ни странно, но вид бумажек немного успокоил председателя, и воспоминания братьев стали живее».

Такім чынам у ролі старшыні выканкама прапануецца пабыць чытачам. Нагадаем, абдуранага персанажа! Да таго ж у шэрагу ARTаб'ектаў знаходзіцца... кадр менавіта з працытаванай сцэны (с. 8):

Між тым увесь гэты час чытач настойлівае чакае падзеі. Яна здараецца толькі на 79-й старонцы. Хоць аўтарка завярае, што «дзве хвіліны зніклі ў бездані мінулага», хуткасці таго знікнення не пазайзросціў бы нават слімак. Затое напэўна ацаніў бы Умберта Эка, які прапанаваў адрозніваць эротыку ад парнаграфіі праз час, на іх патрачаны: спрошчана фармулюючы, у сцэнах апошняй усё паскорана. Сама карцінка, адпаведна, мае іншае значэнне без увагі на элементы, якія там *вытыркаюцца*.

«Уладарным споківам ён прымусіў яе ўкленчыць. Чамусьці яму хацелася скарацца. Ён заахвочваў яе пальцы расшпіліць ягоныя джынсы. Тое, што адкрылася яе вачам і вуснам, было выключна, неверагодна прыгожа — велізарная, моцная, магутная прыгажосць, якая б у далёкім мінулым абавязкова натхніла жрацоў на стварэнне каменнага ідала і напісанне фрэсак у гонар культу бога ўрадлівасці. Ён быў п'янкі і смачны і пульсаваў вар'яцкім жаданнем. Макс літаральна накінуўся на яе, адчайна спаталяючы сваю жарсць.

Ён быў шыкоўны, і ёй падабалася ўсё, што ён рабіў. І час нібы спыніўся ў прыемным руху. Яна амаль паверыла яму. Шалупінне непатрэбных думак таксама, здавалася, адсыпалася. Ганна была за дзве секунды ад таго, каб раздзяліць з ім яго палкасць, аднак у той самы момант ён рэзка выйшаў з яе, апёкшы яе жывот сваёй страсцю.

— Якая ж ты салодкая, — у знямозе выдыхнуў ён, адкідваючыся на спіну.

Прайшло паслясэксіе, з гаркавым прысмакам няспраўджанага жадання».

Як бачым, даволі натуралістычна. Ці варта казаць, што больш «бяскрыўдныя» моманты апісаны не менш рэалістычна. Аўтарка старанна сочыць за сваім стылем. Яна чэрпае ў рэчаіснасці і лексіку, і сінтаксічныя канструкцыі. Асабліва для слоў герояў — маладых людзей, не без інтэлектуалізму і не абцяжараных дамастроеўскай мараллю. Таму моладзевы слэнг і нецэнзуршчына — на кожным кроку. Іншая справа, што дапусціць існаванне такога стылю ў

беларускамоўным дыскурсе немагчыма. (Гэта варта адзначыць са шкадаваннем. Таму што адсутнасць ніжэйшых пластоў мовы — паказчык не такога ўжо і добрага становішча беларускай. Але і калькаваннем рускамоўнага нізкага стылю тое становішча хіба не палепшыцца.) Такі падыход да моўнай стыхіі спрацоўвае ў адваротным кірунку — спараджае адчуванне штучнасці падзей, літаратуршчыны. Яе і так не бракуе (з улікам свядома філалагічных прыёмаў, галоўным чынам у постмадэрнісцкай парадыгме).

Адчуванне тое ўзмацняецца праз указанне багатых «аксесуараў» дзейства: героі кураць толькі дарагія цыгарэты, п'юць неабыякія каньякі і віскі (занадта часта ў параўнанні з тым, што можа сабе дазволіць рэальны беларус), апранаюцца адно ў брэндавыя рэчы, урэшце ездзяць на «Лексусе»! Гэта нагадала «Повесць» А. Федарэнкі. У ёй аўтарцы нібы мастацкага твора, напісанага паводле падзей сваёй маладосці, усё ўяўляецца праз ружовыя акуляры. Паралельна рэдактар, якому трапіў рукапіс і які выпадкова аказаўся прататыпам галоўнага героя, успамінае, як было насамрэч. Прывядзём прыклад:

*«Ганна добра перакусіла, апранула на сябе адкрытую летнюю сукенку, белыя туфлі на шпільках і выправілася спачатку дарогай лясной, потым пачалася сцежка палявая. <...>*

*...Убачыла Валянціна ў коле сваіх сяброў за крайнім столікам. На століку — віно, цукеркі, фрукты... На Валянціне — адпрасаваныя штаны і белаcнежная кашуля-апаш, з-пад якой выглядваў на смуглява-загарэлай грудзіне нейкі прыгожы медальён.*

*Убачыўшы дзяўчыну і адразу пазнаўшы яе, Валянцін перапыніў вясёлы смех. Хутка падняўся з месца, падышоў і, з галантным паклонам пацалаваўшы Ганне ручку, ветліва запрасіў яе скласці ім кампанію...*

*Павагаўшыся, дзяўчына ў знак згоды кіўнула галавой. Падумаўшы, як добра, што яна адзелася ў святочныя строі адпаведна ўрачыстасці выпадку...»*

Рэдактаравы ўспаміны даюць зусім іншую карцінку:

«На мне былі тыя самыя, што і ў клубе, любімыя старыя джынсы і тая ж клетчатая кашуля.

Што да цябе... «Адкрытая летняя сукенка» пры больш пільным разглядзе ператвараецца ў закасанае да каленяў трыко і адтапыраную на грудках, сінюю, з кароткімі рукавамі маечку...

...Босыя запыленыя ножкі... лытачкі — хай у драпінах, пісягах, у расчэсаных плямках камарыных укусаў...

За адзіным у краме сталом мы не сядзелі, бо не было на чым, а стаялі. Адна на ўсіх шклянка хадзіла па крузе. «Фрукты, віны і закускі» замяняліся ў нас дзвюма пляшкамі па нуль-сем «Агдама», івасінаю і паўбуханкаю хлеба, які ламалі і адшчыквалі пальцамі...»[8]

Гераіня Л. Шчэрбы, аднак, не мела федарэнкаўскага рэдактара. Таму чытач ніколі не даведаецца, што хаваецца за гучнымі брэндамі.

[8] Федарэнка А. Ланцуг. Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. С. 98-100.

Раман Л. Шчэрбы, як вышэй гаварылася, сам у сабе змяшчае дзве сюжэтныя лініі. Другая, гістарычная, грае сваю ролю. Слушна піша Сяргей Балаханаў, што «без гістарычнай часткі раман выглядаў бы хаця і нестандартнай, пярэстай, але, найперш, любоўнай (мела)драмай (ці стылізацыяй пад яе)»[9]. Але гэта ўсяго, як даказала згаданая Н. Якавенка, мэшап. Таму і пошук большага сэнсу ў такой «двайнятасці» наўрад ці стане паспяховым. Затое аўтарка гэтым самым дабілася сур'ёзнага падыходу да сваёй асноўнай лініі. У такім святле на першы план выходзіць не распуста і абсурд, якімі твор насычаны, а гучанне *адвечнай песні* сэнсу жыцця.

Не будзе здзіўлення, калі літаратуразнаўцы правядуць аналіз на тэму прыкладна з наступнай фармулёўкай — «Тыповае і адрознае Ганнаў І. Мележа і Л. Шчэрбы». Дый шырай можна глянуць: успомніць Кацярыну з «Грозы» А. Астроўскага — таксама «мятущуюся душу». Можна параўнаць магчымасці гераінь. І зрабіць адкрыццё — багата лепшыя ўмовы ў Ганнаў сучасных. Аднак драматызму не становіцца меней. (Таму што людзі не лятаюць? Самалёты, дальтапланы, парашуты і да т. п. — не пасуюць для радыкальна рамантычных душ.)

Што значна рэдукавалася з часам, які раздзяляе азначаных гераінь і творы, пра іх напісаныя, дык гэта прыгажосць і чысціня. Ізноў дзеля параўнання працытуем наступны дыялог паміж пісьменнікам ды яго сяброўкай (відавочная пераклічка фабулы з творам Л. Шчэрбы) рамана У. Набокава «Дар»:

«Это все чудно, — сказала Зина. — Это мне все страшно нравится. Я думаю, ты будешь таким писателем, какого еще не было, и Россия будет прямо изнывать по тебе, — когда слишком поздно спохватится... Но любишь ли ты меня?».

«То, что говорю, и есть в некотором роде объяснение в любви», — ответил Федор Константинович»[10].

Не варта думаць, што герой рускага пісьменніка настолькі сціплы, каб не прамовіць словы прызнання. Аднак да стасункаў ён падыходзіць максімальна тонка і далікатна. Банальнай фармулёўкай ён баіцца вульгарызаваць высокае пачуццё, адрасата дый сябе самога.

У рамане Л. Шчэрбы падобныя месцы маюць зусім іншы фармат:

«Сэрца Ганны заходзілася каханнем, яно ўжо не памятала крыўды і болю. Ёй хацелася, каб гэтыя надзейныя і пяшчотныя абдымкі ніколі не раскрываліся і не адпускалі яе. І немагчыма ўдыхнуць. Ад шчасця.

Выходзячы з атракцыёну, Макс прыкрыў курткай сваё абуджанае жаданне, што выразна акрэслівалі штаны.

— Вось чым кепскія спартовыя штаны, — засмяялася Ганна.

---

[9] Балаханаў С. Спадарыня, што зрушыла дэпо // Краязнаўчы сайт Гомеля і Гомельшчыны [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу :
http://nashkraj.info/spadarynia-sto-zrusyla-depo/#disqus_thread. Дата доступу: 13.11.2017.

[10] Набоков В. Дар // nabokov.niv.ru [Электронный ресурс]. Режим доступа:
ttp://nabokov.niv.ru/nabokov/proza/dar/dar-10.htm. Дата доступа: 13.11.2017.

— Ты вінна мне сэкс, Дзетка, — прашаптаў ёй на вушка Макс.

— Гэта прыемная навіна, — адказала яна.

— У мяне стаіць толькі на выключных жанчын» (с. 154).

Зразумела, сучасная аўтарка ідзе сваім шляхам, стараецца паслядоўна прымяняць абраны мастацкі метад. Але гэта раман Л. Шчэрбы часам дае падставы разглядаць як сцёб накшталт рок-оперы «Рамэа і Джульета» расійскага сатырыка А. Кнышава (NB 1976!):

«Сад перед домом Капулетти, весь в цвету. Ромео Монтекки в саду, весь в соку. Балкон дома Капулетти, на нем ведущий и Джульетта. Ведущий (обнимая Джульетту):

— Нет повести печальнее на свете, чем повесть о Ромео и Дж...ж-ж...

Его слова заглушает вырвавшийся из подвала тяжёлый и могучий хардрок. Бит-группа «Лейся, кровь, пот и слёзы» исполняет увертюру.

Что это? Слышен жестокий скрежет. Это переворачивается поудобнее Шекспир.

Появляется Ромео в потёртых джинсах. Он жуёт жвачку, запивает «Кока-колой» и любит Джульетту.

«Come together!» («Пойдём со мной!») — кричит он.

На балкон на зов самца выбегает Джульетта. В руках у неё судьба Ромео. Она курит «Мальборо» и любит его»[11].

Тым не менш пазбегнуць папсовасці ў рамане не ўдалося. Яе культывуе перадусім развязка ў стылі «ўсё будзе добра — і яны пажэняцца». Увесь надрыў, які — аддамо належнае — вытрыманы ад пачатку да канца, рыхтаваў (калі хоць трохі быць начытаным) да развязкі не самай аптымістычнай, але і не без «луча света в темном царстве». Атрымалі ж — саладжавасць:

«Яны стаялі адно перад адным як ёсць. І былі адна плоць, адна тэрыторыя.

Закружляла і сплыло абмежаванне сценаў, самотная музыка і водар віна. Толькі гарэлі свечы, пастаўленыя рукой лёсу перад абразом пачуцця.

І расплюшчыліся вочы ў абаіх, і яны ўраз усвядомілі, што апранутыя адно ў аднаго...

Яны разгарнуліся адно ў адным у любові» (с. 282).

Як той казаў, не веру! Хаця — не. Калі не саладжавасць — дык герменеўтыку вядомага анекдота з пытаннем: «Чаму дзяўчаты даглядаюць парнаграфічныя фільмы?» — «Бо чакаюць, што героі пажэняцца».

Таму і нельга пагадзіцца з Валерыем Гапеевым, што «гэта не «жаночая проза». Гэта проза пра жанчыну»[12]. Фінал перакрэсліў гэты тэзіс.

Разам з тым варта прызнаць, што раман Л. Шчэрбы ўдаўся — прыцягнуў увагу (у тым ліку неадназначнасцю), стаў крокам наперад, з'явай. Хай сабе і ў жаночай (ці, як напачатку мы ўдакладнілі, дзявочай) творчасці.

[11] Кнышев А. Тоже книга // profilib.com [Электронный ресурс]. Режим доступа: https://profilib.com/chtenie/30489/andrey-knyshev-tozhe-kniga-13.php. Дата доступа: 13.11.2017.

[12] Гапееў В. У кожнай жанчыне свая варона // Новы час, 2017, 29 чэрв. С. 17.

